

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 2(50) Сакавік 1998 March Год выд. 6.


## Жыве Беларусь! Жыве 25-ты Сакавік — дзень абвешчаньня незалежнай Беларусі!



## 1918 — 1998




*Уладзімір АРЛОЎ*

# Нашы герб і сцяг

### Куды імчыць "Пагоня"



Вы, пэўна ж, ведаеце, які старажытны герб мае наша краіна — Рэспубліка Беларусь?

Правільна, гэта конны рыцар з узнятым над галавою мячом.

А ці вядома вам, што такіх старажытных гербаў, як наш, на свеце вельмі мала. Мы, беларусы, ганарымся тым, што нашаму гербу болей за семсот гадоў.

Наш герб называецца "Пагоня". Адкуль такая назва? А вось слухайце.

Багатая беларуская зямля з яе гарадамі і вёскамі, з рыбнымі рэкамі і поўнымі звярыны лясамі здаўна прыцягвала прагныя позіркі чужынцаў. Яны хацелі захапіць Беларусь і часта нападалі на нашых продкаў. 150 разоў урываліся сюды рыцары-крыжакі. Каля сотні набегаў зрабілі татарскія атрады. Шмат гора прынеслі нашай Бацькаўшчыне войскі рускіх цароў, якія лютавалі часам страшней за татараў.

Каб абараніцца і выжыць, беларусы заўсёды былі напагатове. Яшчэ з часоў славутага Усяслава Чарадзея існаваў такі звычай: пасля нападу на паселішча ўсе мужчыны, што маглі трымаць зброю, пешкі ці конна даганялі ворага, каб вызваліць палонных і паквітацца за забітых.

Гэты звычай называўся пагоняй. У Вялікім княстве Літоўскім ён стаў законам.

У тыя далёкія часы мастакі і пачалі маляваць "Пагоню" — узброенага воіна на баявым кані, што імчыць на бітву за родную зямлю. Сем з лішнім стагоддзяў таму апісанне "Пагоні" з'явілася ў летапісах. "Чалавек дарослы на кані з мячом, які можа абараніць Бацькаўшчыну сваю", — выводзіў летапісец, гледзячы на даўні малюнак.

У левай руцэ вершнік трымаў шчыт. Трохі пазней на шчыце з'явіўся шасціканцовы крыж. Ён быў падобны да крыжа, што некалі зрабіў для асветніцы Еўфрасінні полацкі майстар Лазар Богша. Крыж гэты беларусы надта шанавалі, а таму ў жорсткай сечы ён дадаваў мужнасці маладушнаму, а моцнага воіна рабіў яшчэ мацнейшым.

Згодна з законамі дзяржавы, "Пагоню" выразалі на пячатках, што цяпер часта знаходзяць археолагі. Герб упрыгожваў гарадскія брамы і вежы, а таксама сцягі ваяводстваў, на якія дзялілася Вялікае княства Літоўскае, як цяпер Беларусь дзеліцца на вобласці.

### Пра што гавораць колеры

Дзяржаўныя гербы заўсёды каляровыя, прычым кожны колер абавязкова нешта значыць. Герб старажытнай беларускай дзяржавы выглядаў як чырвоны ці, дакладней, пурпуровы шчыт з белай або срэбнай выяваю рыцара. Шасціканцовы крыж на рыцарскім шчыце быў залаты.

Цяпер паглядзім, што зашыфравана ў гэтых колерах, пра што яны нам гавораць.

Чырвоны колер нашы продкі лічылі самым высакародным. Ён азначаў агонь, мужнасць, смеласць у бітве. Белы ці срэбны — гэта чысціня, дабро, незалежнасць. Золата крыжа казала пра жыццё, святло, надзею.

Трэба дадаць, што белы і чырвоны колеры беларусы асабліва любяць. Гэта відаць і ва ўзорах нашых дзівосных ручнікоў, і ў даўнейшым народным адзенні, якое, магчыма, яшчэ насілі нашы дзядулі і бабулі. У беларускіх казках асілкі едуць бараніць свой народ ад злыдняў абавязкова на белым кані, што пасецца на заваедных лугах.

А цяпер паслухайце, як прыгожа пісаў пра "Пагоню" адзін стары беларускі часопіс: "Белы конь — гэта вобраз сілы, красы і здатнасці, адраджэння і ўваскрэсення да новага жыцця. Ваяка на белым кані азначае перамогу. Белы колер вельмі пашыраны на Беларусі, згэтуль, магчыма, паходзіць і яе назва — белая, чыстая, вольная, як святло сонца.

### Як нарадзіўся беларускі сцяг

Спачатку сцяг Вялікага княства Літоўскага быў чырвоны з вышытымі на ім "Пагоняй" і Багародзіцаю з яе маленькім сынам Ісусам. Іншыя еўрапейскія краіны тады таксама мелі сцягі з рознымі складанымі выявамі. Але прыкладна пяцьсот гадоў таму сталі з'яўляцца сцягі больш простыя і зручныя. Найчасцей яны ўтвараліся так.

Гербавы малюнак змяшчалі на шчыце. Дык вось колер малюнка рабіўся галоўным колерам сцяга, а колер шчыта — дадатковым. Рыцар "Пагоні", як мы ведаем, быў белы, а шчыт, па якім ён скакаў, — чырвоны. Так і ўтварыўся беларускі бел-чырвона-белы сцяг. Ягоныя колеры расшыфроўваюцца гэтаксама, як і колеры герба.

Калі вы пойдзеце ў царкву, дык убачыце бел-чырвона-белыя стужкі на адзенні ў святароў. Тут белы колер азначае чыстую душу чалавека, чырвоны кажа пра пакуты і смерць Ісуса Хрыста, які сваёй крывёю пасеяў у людскіх душах слова праўды.

### Два стагоддзі забароны

Дзвесце апошніх гадоў з таго часу, як Беларусь захапілі рускія цары, а потым бальшавікі, "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг былі пад забаронаю.

Захопнікі хацелі, каб мы забылі нашу слаўную гісторыю. Людзей, якія не ведаюць свайго мінулага, лягчэй прыгнятаць і рабаваць.

Быў час, калі за малюнак "Пагоні" бальшавікі маглі на ўсё жыццё кінуць чалавека ў турму або за калючы лагерны дрот.

Чужынцы навязалі нам іншыя герб і сцяг, аднак беларусы бераглі памяць пра свае, сапраўдныя. І ў час прыгнёту мастакі малявалі "Пагоню" на карцінах, паэты пісалі пра яе вершы і паэмы, смелыя людзі захоўвалі бел-чырвона-белыя сцягі.

У 1991 годзе Беларусь абвясціла ўсяму свету, што яна вярнула сабе незалежнасць.

"Пагоня" і старажытны сцяг зноў зрабіліся дзяржаўнымі адзнакамі. Праўда, пакуль толькі на некалькі гадоў. Па іх нашу краіну адрозьнівалі ад іншых. Бел-чырвона-белыя сцягі вольна луналі над Домам урада ў Мінску, над кожным беларускім горадам. Нашы сцягі ўпрыгожвалі вуліцы ў час святаў. Іх узнімалі ў пасольствах нашай краіны за мяжой, на міжнародных спартыўных спаборніцтвах.

Даведаўшыся гісторыю нашага сцяга, наступны раз пагаворым пра атрыманыя пад ім перамогі.





**Спадар Масей СЯДНЁЎ —** ведамы беларускі паэт і празаік, аўтар шматлікіх літаратурна-мастацкіх твораў, культурны і грамадзкі дзеяч ды вялікі патрыёт беларускага народу.

Дарагі Спадар Масей! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.

### СЛОВА ДА БЕЛАРУСІ

Прымі віншаванні, Радзіма-матуля!
Хай здзейсніцца свята на нашай зямлі.
Палон і манкурты цябе не сагнулі,
Імкнення да волі забіць не змаглі.

Гісторыю ганьбілі, мову знішчалі.
Народ пазбаўлялі вытокаў святых.
Крышылі. Таптталі. Штодня зневажалі
Сыноў і дачок непакорных тваіх.

Ты доўга трывала пакуты і здзекі.
Жыла успамінам аб славе былой,
Калі на шляху ад варагаў у грэкі
Была суверэннай і гордай зямлёй.

Сягоння ізноў ажываюць надзеі.
Ідзе абуджэнне спрадвечных крыніц.
Дай Божа, каб сэрцы людскія гарэлі
Ад гуку тваіх старажытных званіц.

Вітай Адраджэнне, Радзіма-матуля!
Здзяйсняецца свята на нашай зямлі.
Палон і манкурты цябе не сагнулі,
Імкнення да волі забіць не змаглі...

1991 г.

*Мікола Кавалеўскі*



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць погляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША)

# БЕЛАРУСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ: 80-я ЎГОДКІ

Над намі смог навіс густы,
Калі-ж, трывушчы мой народзе,
Народам гордым станеш ты
І скажаш: «зьдзекавацца годзе!»
*Сяргей Грахоўскі*

Падчас падзелаў Польшчы паміж Расеяй, Прусыяй і Аўстрыяй у канцы 18-га стагодзьдзя, Беларусь была акупавана Расейскай імпэрыяй. Напрацягу двухсотгадовага панаваньня, Расейская імпэрыя душыла ў беларусаў ініцыятыву розуму, вытручвала ў народзе асабістую годнасьць, вынішчала ідэю беларускай нацыянальнасьці, беларускай грамадзкасьці, беларускай дзяржаўнасьці, зьняважала нашу Бацькаўшчыну, зьнеслаўляла наш народ, абражала нашу культуру і нашыя нацыянальныя каштоўнасьці. Беларускі народ прымушалі карыстацца чужымі звычаямі, забаранялася нашая беларуская мова. Нягледзячы на ўсё гэта, наш народ не зьгінуў. Наадварот, ён ня толькі вытрымаў усе гэтыя цяжкія выпрабаваньні, ён выгадаваў цэлую плеяду нацыянальных барацьбітоў за волю Бацькаўшчыны ад Францішка Багушэвіча, да Каліноўскага, да нашага Вялікага Я. Купалы. Наш народ застаўся дзейнай нацыяй, якая пры першай магчымасьці пачала аднаўляць сваю дзяржаўнасьць. У гэтым сакавіку беларусы ў вольным сьвеце адзначаюць 80-я ўгодкі дэклярацыі незалежнасьці свае Бацькаўшчыны. 25-га Сакавіка 1918 году беларускі народ вуснамі сваіх прадстаўнікоў абвесьціў Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. На вялікі жаль, існаваньне беларускай дзяржавы было кароткім. На месца царскага панаваньня прыйшла расейска-савецкая акупацыя, якая пасьля сямідзесяці гадоў пакінула Беларусі сумную спадчыну. Яна прытупіла самасьведамасьць у часткі нашага грамадзтва, выгадавала ў Беларусі пярэваратняў, якія трымаюцца за ўсе тыя ідэі, якімі іх нашпігоўвалі расейскія акупанты. Пасьля пяці гадоў тае, у шмат якіх аспэктах, ілюзорнае незалежнасьці, абвешчанае ў 1991 годзе, уладу на нашай Бацькаўшчыне ізноў канчаткова захапілі, з аднаго боку, чужынцы, прысланыя з імпэрскага цэнтру яшчэ за савецкіх часоў для ўтрыманьня бальшавіцкага ідэялягічнага парадку ў Беларусі, а з другога — іхныя мясцовыя беларускія прыслугачы, сорам нашае ціхае нацыі.

Выкарыстоўваючы прытупленую народную самасьвядомасьць, цяперашні прэз. Лукашэнка выступае за аб'еднаньне Беларусі з Расеяй, робіць гэтае аб'еднаньне панацэяй ад усіх, ім-жа створаных, эканамічных і палітычных цяжкасьцяў на нашай Бацькаўшчыне, раскідае беларускую дзяржаву.

У былым Савецкім саюзе межы з суседнімі краінамі лічыліся нейкаю такою сьвятасьцю, якую трэба было старанна абараняць і пра якія афіцыйна, з бязглуздаю ганарыстасьцю, гаварылася, што яны заўсёды трымаюцца на замку. І сапраўды, замок быў павешаны па ўсёй дзяржаўнай мяжы савецка-расейскай імпэрыі. Была створана вялізэзная імпэрская турма, з якой грамадзянаў краіны нікуды за межы не выпускалі. Такі прынцып дзяржаўнасьці вельмі імпануе Лукашэнку. Паколькі ён моцна сумуе што развалілася савецкая імпэрыя, дык, стаўшы прэзыдэнтам, Лукашэнка амаль адразу зьняў беларуска-расейскую мяжу і зьліквідаваў мытную сыстэму, але замацаваў заходнюю беларускую мяжу, павесіўшы на яе свой моцны супроцьнатаўскі і, наагул, антызаходні замок. Паводле беларуска-расейскага пагадненьня, гэтая мяжа ёсьць таксама заходняю мяжою Расейскай Фэдэрацыі. Такім чынам, ажыцьцявілася яшчэ адна расейска-лукашэнкаўская ідэя — паўстала антызаходняя памежная сыстэма, якая, паводле лукашэнкаўскага тлумачэньня, адпавядае агульнасьці беларуска-расейскіх інтарэсаў. Якое вар'яцтва!

Газэта "Голас Радзімы" (9-га кастрычніка 1997 г.) надрукавала вытрымкі з інтэрв'ю заступніка міністра па справах гэтак званае Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў Васіля Шаладонава, які гаварыў пра выдаткі, выкліканыя трыма аспэктамі дзейнасьці памежнае сыстэмы — супроцьпаветраная абарона, утрыманьне памежнага войска і кошт мытнага беларуска-расейскага пагадненьня. Па падліках беларускага боку, паводле Шаладонава, кошт супроцьпаветранай абароны для Расеі павінен складаць звыш 400 мільёнаў даляраў у год. Згодна з дамоўленасьцю, Расея, аднак, павінна заплаціць Беларусі ўсяго толькі 50 мільярдаў расейскіх рублёў (а гэта значыць, каля васьмі з паловай мільёнаў даляраў), а дала толькі 2.45 мільярдаў расейскіх рублёў (каля 400 тысяч даляраў). На ўтрыманьне памежнага войска было дамоўлена, што Расея толькі за 1996 год выплаціць Беларусі 65 мільёнаў даляраў, але заплаціла "толькі невялічкую частку сродкаў"). У мытнай справе Расея паабяцала даць 20 мільярдаў расейскіх рублёў, але яшчэ не аднаго рубля Беларусь не атрымала. Шаладонаў кажа, што "калі ўсе гэтыя нядоімкі скласьці, то атрымаецца вялікая сума, куды большая за наш доўг". Вось якія пагадненьні дыктуе Беларусі і падпісвае з ёю Расея і што яны на практыцы азначаюць. Эканамічная інтэграцыя і саюз Беларусі з Расеяй трымаюцца, як і даўней, не на моцы двухбаковых пагадненьняў, а, фігуральна кажучы, на палохаючай моцы кулака, якім Расея трасе перад носам Беларусі. Сумна яшчэ й тое, што гэты памежны цяжар, які Лукашэнка ўскладае на Беларусь, патрэбны толькі Расеі. Ніякая краіна НАТА, ды наагул ніякая заходняя краіна Беларусі не пагражае. Трата амаль пяцісотмільённае сумы даляраў на ўтрыманьне памежнае сыстэмы — гэта выкіданьне на вецер мазалямі заробленага нацыянальнага дабра, гэта зьдзек з запалоханага, атручанага ашуканствам беларускага народу, гэта цынізм дыктатарскае ўлады, якая выкарыстоўвае хлусьню ня толькі для выказваньня ўдзячнасьці Расеі за саюз, які, паводле гэтай улады, нібыта паніжае для Беларусі цану за расейскую нафту і газ, але і для здабыцьця павагі да дыктатарскае антыбеларускае дзейнасьці ў народзе, дашчэнту зацюканага недалёкім савецкім мінулым.

Калі Фонд Сораса даваў дапамогу Беларусі, альбо калі дабрачынныя арганізацыі заходніх краінаў і беларускае дыяспары дапамагалі лекамі беларускім дзецям і шпіталям, Лукашэнка накладаў на харытатыўную дапамогу падаткі і, такім чынам, наўмысна спыніў дзейнасьць тых арганізацыяў у Беларусі. Нічога падобнага ён ня робіць з расейскаю запазычанасьцю. Ён і ня думае пратэставаць супроць "старэйшага брата" за тыя страты, якія прыносіць для Беларусі расейска-беларускі саюз, бо, менавіта, ён сам ёсьць і архітэктарам і цяперашнім кіраўніком гэтага саюзу. Беларусь для Лукашэнкі — гэаграфічная назва расейскай правінцыі. Можна быць пэўным, што расейскі доўг трактуецца ім толькі як статыстыка, якая не кранае яго. Наадварот, для Лукашэнкі, які робіць усё магчымае для аднаўленьня расейскай імпэрыі, ідэя беларускай дзяржаўнасьці ёсьць ня толькі перашкодаю ў ажыцьцяўленьні ягоных плянаў, але нечым чужым і варожым.

У фільме "Звычайны прэзыдэнт", які быў выпрадукаваны ў Беларусі, ёсьць месца, дзе паказана, як лукашэнкаўскія паслугачы па загаду свайго лідэра, здымаюць беларускі дзяржаўны бел-чырвона-белы сьцяг, рвуць і рэжуць яго на кавалкі, а непапраўны прайдзісьвет, кіраўнік лукашэнкаўскае канцылярыі Іван Ціцянкоў, з шалёным рогатам падпісвае кавалкі зьняслаўленага сьцягу і раздае іх прысутным на гэтым ганебным відовішчы. Вось якія людзі, ці, хутчэй, нелюдзі, кіруюць Беларусяй. Трэба адзначыць, што бел-чырвона-белы сьцяг, як і, дарэчы, пасада прэзыдэнта былі ўзаконеныя перадлукашэнкаўскім беларускім парлямэнтам. Лукашэнка зганьбаваў дзяржаўны сьцяг, разагнаў парлямэнт, але пасады прэзыдэнта, створанай гэтым парлямэнтам, ня зрокся.

Як і за часоў сталіншчыны ў савецкай імпэрыі, у Беларусі праводзіцца сыстэматычная русыфікацыя ўсяго беларускага — школаў, тэатраў, дзяржаўных установаў. Кіруючыя пасады ва ўрадзе Лукашэнкі займаюць альбо грамадзяне Расеі, альбо бэсэсэраўскія камуністычныя ўрадавыя верхаводы. Сталінцы заўсёды выкарыстоўвалі вобраз "ворагаў народу" для апраўданьня сваіх праваладў, нядбайнасьці і злоўжываньняў. Гэтак робіць і Лукашэнка — усе свае палітычныя і эканамічныя пралікі ён звальвае на беларускіх патрыётаў-незалежнікаў, безапэляцыйна вешаючы на іх ярлык фашыстаў. Тое, што такія абвінавачаньні на нічым не грунтуюцца, Лукашэнку ніяк не турбуе, бо яны ёсьць вынікам хваравіта-вар'яцкіх фантазыяў беларускага дыктатара.

Сваімі бясконцымі пагрозамі і выкарыстоўваньнем жорсткае фізычнае сілы супроць усіх, хто выступае супроць ягонае палітыкі адбудовы расейскае імпэрыі, Лукашэнка за няпоўных чатыры гады задушыў той нацыянальны ўздым, які назіраўся ў першыя гады пасьля абвешчаньня беларускай незалежнасьці ў 1991 годзе. Беларусь, на жаль, не змагла перабраць у свае рукі кіраўніцтва ўладарных структураў, дазволіла прайдзісьветам і дэмагогам прайсьці да вяршыны ўлады. У выніку гэтага, наш народ ізноў прымусілі выслухоўваць беспардонную хлусьню, якая ідзе ад галоўных кіраўнікоў краіны, ізноў зрабілі нявольнікам у сябе на Бацькаўшчыне.

Аднак, намаганьні лукашэнкаўцаў перабіць наш народ, асабліва вясковую яго частку, у безаблічнае насельніцтва тутэйшых, паступова сустракае супраціў Беларусі. Людзі, нарэшце, пачалі бачыць сапраўдны твар інтэлектуальна недалёкага кэгэбэшніка і ягонага расейска-бальшавіцкага атачэньня. Двухсотгадовы акупацыйны стан у Беларусі ня змог выкараніць нацыянальнага духу нашага народу, ягонае моўнае, культурнае і мастацкае самабытнасьці, зьнішчыць жаданьне беларусаў заставацца нацыяй. Таму мы і верым, што ня зможа гэтага зрабіць і сучасны дыктатар у Беларусі. Дык не пакідайма гэтае веры, падтрымоўвайма яе ў нашай пад'ярэмнай Бацькаўшчыне! Няхай якнайхутчэй збудуцца словы нашага народнага паэта Ніла Гілевіча! А яны немінуча збудуцца...

Вось-вось і трэцяе з Хрыстовай веры
Тысячагодзьдзе ступіць на парог,
І пойдуць прахам д'яблавы хімеры,
І блаславіць нас на змаганьне Бог.
І запануе воля ў нашым стане,
Жыцьцё памкне свабодна, як рака,
І першым сьвятам Бацькаўшчыны стане
Дзень Дваццаць Пятага Сакавіка.

# OVER $1.3 MILLION OF PHARMACEUTICAL DONATIONS FOR CHERNOBYL-AREA HOSPITALS SEIZED IN BELARUŚ

January 13,1998, Chicago, Illinois... Over USD $1.3 million in medicines and medical equipment, sent by The Chicago Athenaeum: Museum of Architecture and design under the Museum's "Children of Chernobyl Project," was illegally seized and has vanished inside the Republic of Belarus.

The medicines and medical equipment were given to The Chicago Athenaeum by assortment of United States pharmaceutical companies and shipping by the United States State Department under their "Operation Support Freedom" program. The shipment was delivered to Minsk, Belarus and to the Museum's contact Dr. Nicholas Sinkevitch, Director of the Museum of Nature and Ecology in Minsk, Belarus. The medicines were destined for hospitals in the Chernobyl Zone, mainly in Gomel and in Khoiniki, Belarus.

"This is a disastrous, catastrophic situation," states Christian K. Narkiewicz-Laine, Director and President of The Chicago Athenaeum. "Most of this shipment contained anesthesia. Presently, in Belarus, there are no anesthetics and surgeries are being performed without anesthesia. Furthermore, many of the hospitals in the Chernobyl Zone have conditions well below the health care standards of the world. Even the most basic of medications — aspirin, cotton, alcohol — are absent from these hospitals that are taking care of the over 2 million people living today in and around the polluted area of the Chernobyl Zone."

Mr. Narkiewicz-Laine has filed official complaints directly to U.S Ambassador Daniel Speckhardt in Minsk and to the United States State Department in Washington, D.C., as well as to such well-known U.S Senators as U.S Senator Russell D. Feingold of Wisconsin and U.S. Senator Richard Durbin of Illinois. He has also pressed the Belarusian

Government for information regarding this shipment and has had no official result.

"This is not common theft," states Mr. Narkiewicz-Laine. "I believe that the disappearance of these medicines has taken place at the highest level of the Belarusian Government. This is the worst kind of human rights violation- the theft of humanitarian aide intended to serve the poor and the sick. This it a tragedy that should outrage the world community; the highest moral crime against humanity- the criminal exploitation of the sick and the dying for profit. Belarusian President Alexander Lukashenko should be held personally and directly responsible."

"Presently," Mr. Narkiewicz-Laine adds, "there are no private humanitarian groups left remaining or operating in Belarus. They have been closed down by the Belarusian Government. In the case of CitiHope International, over USD $349,000 was seized last spring from their bank account by the Belarusian Government. The disappearance of The Chicago Athenaeum's medicines also coincided with the forced closing of the Soros Foundation in Belarus, which had provided over USD $34 million in humanitarian aide to Belarusian schools and hospitals."

In 1997, The Chicago Athenaeum had successfully delivered under USD $1 million in medicines to Belarusian hospitals in need. The recent shipment that disappeared was the largest, singular shipment sent by The Chicago Athenaeum.

In 1993, The Chicago Athenaeum started "The Children of Chernobyl Project" after the Museum's President and Director, Christian K. Narkiewicz-Laine visited Belarus in search of his family after the fall of the Soviet Union.

Mr. Narkiewicz-Laine is the descendent of the noble Narkiewicz-Jodko and Radziwill families from the Belarusian cities of Mir, Nesvizh, and Uzda. Mr. Narkiewicz-Laine is the great nephew of Prince Dominik Radziwill of Mir (formerly Poland and now Belarus). "We did not find family in our search," states Mr. Narkiewicz-Laine, " but what we did find were all these sick children and adults from the Chernobyl nuclear disaster."

The museum has circulated an exhibition of children's art from the Chernobyl hospitals to major American and European cities entitled, "The Children of Chernobyl." The exhibition is currently on display at the Buckeburg Palace in Buckeburg, Germany after having been shown in Oslo, Norway under the auspices of the Norwegian King and Queen. The exhibition has generated public attention to the problems associated with the Chernobyl disaster and the tremendous needs of the hospitals in Belarus that are trying to cope with huge waves of health problems associated with radiation exposure and related sicknesses.

The exhibitions circulated by The Chicago Athenaeum have increased public awareness in the United States about this nuclear catastrophe, including the fate of over 800,000 ill children and several thousands more grown adults in the former Soviet Republic of Belarus.

The exhibition conveys a children's perspective about the 11-year consequence of life in the Chernobyl Zone--the highly radioactive area, similar in size to the United Kingdom and Northern Ireland, which experienced radioactive fall out 200 times that of Hiroshima and Nagasaki. That area, known also as the red and purple zones, is surrounded by the Belarusian army and sealed off for the next 24,000 years. Over 2 million Belarusians still live within walking distance of this area, and continue to eat contaminated food and drink contaminated water.

Part II of the Museum's Project has been more direct aid to ten Belarusian hospitals, three of which are UNESCO centers. Last spring, 1997, the Museum has acquired over $2 million in medicines and medical equipment donated by major U.S pharmaceutical companies, including Abbott Laboratories; Baxter Export Corporation; Chesebrough-Pond's USA Co; Allegiance; Glenwood, Inc.; Baxter Travenol; Searle Laboratories; C.R Bard/Oavot, Inc.; Knoll Pharmaceuticals; Dupont Merck Pharma; Central Pharmaceuticals; and Roberts Pharmaceuticals. This direct relief effort has been coordinated with AmeriCares, a private non-profit humanitarian organization based in the United States.

"The health care situation in Belarus," states Mr. Narkiewicz-Laine, "is catastrophic. Eleven years after Chernobyl very little in the way of international aide has been promised by the world community has been delivered. Also, 11 years after, many of the cancers associated with radiation poisoning, such as leukemia and bone and thyroid cancer, have emerged. The increase in thyroid cancer is about 485 times the normal rate. The lack of medicines and medical equipment, particularly for diagnostic and treatment purposes, have made the situation in Belarus a national crisis. Thousands of children and adults are without regular medical care; many others are dying because of the lack of even basic medicines and medical equipment. Hospital administrators, one by one, explained that they have not seen rubber gloves in their hospitals for over two years."

"Now we understand why there are no basic medicines such as aspirin and cotton in Belarus," continues Mr. Narkiewicz-Laine. "Someone at a very high government level in Belarus is stealing these medicines for their own selfish purpose and probably profiting inside the Black Market."

"We are calling on the world community to protest and express their outrage at this act of human barbarism in Belarus," states Mr. Narkiewicz-Laine.

The other countries of Russia and Ukraine affected by the Chernobyl disaster are in equally desperate shape. Unfortunately, because of the lack of government support in those regions, particularly in Belarus and in Ukraine, not much will be done in terms of international assistance. During the month of January, 1997, the government of Ukraine imposed a 30% tax on all humanitarian aide entering their country.

"Its hard to fathom," says Mr. Narkiewicz-Laine, "such a brutal and hostile governmental response as in Ukraine, the actual site of the nuclear disaster. I think the Ukrainian idea is to allow their sick people to die rather than to assist them. There should be an international boycott initiated against both Ukraine and Belarus for such unprecedented behavior. It's not just the 30% tax on medicines and medical equipment, but also their absolute tolerance for theft of medicines, often times sanctioned by the government and sometimes with their blatant participation, that has spoiled many attempts by international humanitarian groups to bring aid to these former Soviet Republics. It's absolute exploitation. Not much has changed in Belarus and Ukraine in their 80-year communist history."

"The Children of Chernobyl Project," both the exhibition and the relief effort, fall within the range of The Chicago Athenaeum's Museum Mission. "This institution." adds Mr. Narkiewicz-Laine, " is dedicated to an understanding of and appreciation for the designed environment. Without a healthy, clean environment, our world cities and our open landscapes are doomed to failure, if not inevitable destruction and collapse. We cannot have good architecture or good design without good and healthy human surroundings."

For more information regarding The Chicago Athenaeum's "Children of Chernobyl Project," contact David E. Bender, Director of Planning and Public Affairs, at (312) 251-0175.

# Church and state form close ties

By Sam GLEBOV

...The Belarusian President and several high-placed members of the government spent January 7 attending a church ceremony in the Cathedral of the Holy Spirit close to Nemiga metro station.

Belarusian leaders have spent enough Christmases at church, and their latest visits were not perceived by the public as unusual. But when they just began going to church in the early 1990s, many people questioned the sincerity of their motives. Most of today's Belarusian nomenclature come from the ranks of the Communist Party, where membership and religious faith were incompatible.

Several statements made by Belarusian politicians on various occasions may shed some light on this issue. One high-placed official from the presidential administration, for example, explained that the leadership felt the need to come up with a new national ideology, once the old one, of Communism, had collapsed. "We found that Christian Orthodox values would have the best chances to be accepted by people," explained the official.

Responding to a question regarding his faith, President Lukashenka described himself as an "Orthodox Atheist."

To a Westerner, this statement may sound like an oxymoron. In Belarus, it makes perfect sense. Lukashenka openly admitted that he did not go to church for faith, he went there for politics. The President's statement also highlighted the political choice made by the government in favor of the Orthodox religion.

The government justifies its choice by pointing to the historical role of the Orthodox Church in Belarus: "Belarus is known as the canonized land of Orthodoxy. The Orthodox Church has occupied a leading position by the number of communities and followers."

The latter statement, however, is open to dispute.

Although there are no statistics available on the number of followers of different religions, the figures concerning the number of various religious communities show that although the Belarusian Orthodox Church does have the greatest number of such communities - 967 out of 2113 registered in Belarus in 1996, its leadership among other churches is contested by various Protestant churches with 664 communities and the Catholic Church, with 391.



Furthermore, the Belarusian Orthodox Church is not the fastest growing religion in this country. From 1988 to 1996, the number of Orthodox communities had doubled, while the number of Protestant communities more than tripled.

In this situation, becoming the government's chosen religion may resolve many problems faced by the Orthodox Church at present. A privileged status may protect it from competition with some of the more dynamic church groups that are attracting new followers from the large number of non-believers in this country.

Statistics show that the number of new converts to religion can be great. According to data from the Institute of Sociology of the Academy of Sciences, the proportion of believers grew from 10 - 15% in 1988 to 30% in 1990, and is currently approaching 45%. In conditions of crisis, when people are especially likely to seek comfort in religion, this proportion will continue to grow. In this situation, a privileged status may put the Orthodox Church in a better position to attract new followers.

Partnership with the Orthodox Church is also a benefit to the government. In the church, the government acquires a powerful political ally, capable of supporting it at the most critical moments.

The first signs of this political alliance became apparent in the early 1990s, when the church-run company Diakonia obtained taxation privileges.



This partnership became even more noticeable during the constitutional referendum in November 1996, when many Orthodox priests in various communities throughout Belarus supported the new version of the Constitution proposed by President Lukashenka.

The leader of the Belarusian Orthodox Church, Patriarch Filaret, never shared his opinion on the presidential draft of the Constitution in public, but his meetings with the Belarusian President before and after the referendum were suspiciously frequent.

After the referendum was won, Lukashenka promised the Orthodox Church the status of an official religion, and indicated that religious education may be introduced in secondary schools.

The Orthodox Church has not formally become the official religion in Belarus, and religious education still remains to be introduced in public schools, but the political power of the church has increased substantially.

December 3, Metropolitan Filaret appeared in the Lukashenka Parliament, the National Assembly. This was the first formal appearance of a metropolitan in Parliament since the Declaration of Independence. The Belarusian Orthodox Church used to have several seats in the 12th Parliament. They were held by several of its hierarchs, including the Metropolitan. But their visits to parliamentary sessions were few and far between, and the church later opted to withdraw from all direct political involvement.

This decision was put on hold, when the Metropolitan directly requested the state December 3 to tighten control over the activities of other churches. He also asked for additional financial privileges and direct financial support from the government.

In his parliamentary address, the Metropolitan urged the MPs to consider the appropriateness for Belarus of the Russian Law on religions, vetoed by President Boris Yeltsin several months ago. One of the main provisions of this law called for the Orthodox Church to be declared the sole official church of Russia.

Two weeks earlier, the Belarusian government suspended the broadcasts of the Russian channel NTV to prevent the showing of the controversial film, "The Last Temptation of Christ." The film was condemned as blasphemous by the Russian Orthodox Church. The author of the book on which it was based, Nikos Kazantakis, was excommunicated by the Greek Orthodox Church. The film was shown in Russia despite protests from the Russian Orthodox Church. In Belarus, it was never seen.

Although the leadership of the Belarusian Orthodox Church denied the Church's involvement in the decision to turn off the broadcasts of NTV, a political commentator of the pro-government newspaper Respublika, admitted that NTV broadcasts had been cut in order to prevent "religious tensions."

Although the government has an extensive record of cutting "subversive" television broadcasts from Russia, this was the first time it did so in the interests of the Church, thereby implicating this institution in the totalitarian system that it had created and making it part of it.

Minsk News

# ЗАГУБЛЕНЫЯ СКАРБЫ

## АЛЬБО ТАЙНЫ КРЫЖА ЕЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ І ІНШЫХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КАШТОЎНАСЬЦЯЎ

ПРАБЛЕМЫ вяртання беларускіх нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі, даўно хвалююць грамадскасць. Нашая нацыянальная спадчына надзвычай багатая, не горшая і не бяднейшая, чым у іншых народаў свету. Мы можам па праву ганарыцца вялікай разнастайнасцю сваіх гісторыка-культурных каштоўнасцей. На вялікі жаль, руйнаваліся і рабаваліся гэтыя каштоўнасці падчас шматлікіх войнаў, сацыяльных катаклізмаў, беспарапынных ліхалеццяў, якія вельмі часта выпадалі на долю беларускага народа. Так званыя «пераможцы»-рабаўнікі не саромеліся прысвойваць гэтыя каштоўнасці, вывозіць далёка за межы Беларусі, гандляваць імі. Раскідана наша культурнае багацце амаль па ўсім свеце: тут і Швецыя, і Германія, і Польшча, і Аўстрыя, і, безумоўна, Расія.

Вялікую шкоду нанесла і заганная практыка абыякавасці ў адносінах да гісторыка-культурнай спадчыны, якая панавала ў нашым жыцці доўгі час. Мы ўсё гэта бачылі, назіралі і часта маўчалі. А той голас, які іншы раз прараздаўся, патанаў у прававаой немачы.

Беларускі фонд культуры на самым пачатку свайго існавання вырашыў звярнуцца да гэтай праблемы. У кастрычніку 1987 года пры БФК была створана камісія «Вяртанне». Яе ўзначаліў вядомы пісьменнік, доктар філалагічных навук Адам Восіпавіч Мальдзіс. За гэты перыяд зроблена вялізная, карпатлівая праца. Аб ёй сведчаць два тамы кнігі «Вяртанне» (1992, 1995 гг.). Дакументы, якія тут змешчаны, пераканаўча сцвярджаюць аб юрыдычным праве на тое, каб усё, што адабрана ад нашага народа сілком, патаемна ці адкрыта вывезена, было, згодна міжнародным законам, вернута, і як мага хутчэй, на Беларусь.

### *Дзе і што беларускае ў свеце*

Вось сціслая, кароткая інфармацыя пра тое, ужо вядомае даследчыкам, што захоўваецца з беларускіх нацыянальных культурна-гістарычных каштоўнасцей у розных краінах свету. У Лондане знаходзіцца, па ўскосных звестках, у музеі Вікторыі і Альберта, трон слуцкіх князёў, зроблены са слановай косці. Ён быў вывезены ў Англію на пачатку XX стагоддзя (прададзены праз венскага антыквара). Мы не маем нават навуковага апісання гэтай рэліквіі.

У тым жа Лондане ў бібліятэцы імя Ф. Скарыны (Холдэн роўд, 37) захоўваецца архіў беларускага кампазітара М. Куліковіча-Шчаглова, ён уключае ў сябе рукапісныя оперы, аперэты і 600 запісаў народных песень.

У Вену (Аўстрыя) у 1942—1943 гг. немцамі былі вывезеныя экспанаты Мінскага гістарычнага музея, звязаныя з яўрэйскай культурай Беларусі (карціны, кнігі, рукапісы, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва). Перад іх адпраўкаю дырэктарам А. Шуклайтам, які жыве ў ЗША, было зроблена апісанне на беларускай і яўрэйскай мовах, яно захавалася ў Англіі. Па ўскосных звестках гэтая калекцыя зараз у адной з навуковых устаноў Вены.

У Германію, а дакладна ў Гамбург, у 1916—1917 гг. з Вільні былі перакінутыя беларускія рукапісы і акты XIV—XVIII стст., якія прызначаліся Гамбургскаму каланіяльнаму інстытуту. Неабходна іх вяртанне (або хаця б ксеракапіраванне).

У Дрэздэне ў Саксонскай бібліятэцы захоўваюцца музычныя творы ўраджэнца Беларусі Мацея Радзівіла, у Кобургу — вывезеныя з Мінскага гістарычнага музея ў 1943 годзе пушкі XVI—XVIII стст. (пераважна з калекцыі Радзівілаў), іншая зброя, якая падлягае вяртанню на Беларусь.

У Рыме ў Ватыканскім архіве і бібліятэцы захоўваюцца матэрыялы беларускіх асветнікаў С. Богуша-Сестранцэвіча (першы беларускі слоўнік), А. Ельскага, М. Баброўскага (апісанне старажытнабеларускіх кніг), а таксама драматычныя творы, якія ставіліся на сцэнах школьных тэатраў Беларусі ў XVII—XVIII стст.

Адметнай сярод краін свету па валоданні беларускімі нацыянальнымі каштоўнасцямі з'яўляецца наша суседка — Польшча. У Варшаву ў 1919—1920 гг. з Мінска ў час адступлення польскіх войскаў патрапілі зборы Таварыства аматараў мінскай зямлі (36 тысяч скрынь з карцінамі, скульптурамі, кнігамі, прадметамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва). Звесткі аб гэтым маюцца ў публікацыях Я. Хвалевіка і іншых аўтараў. Неабходны пошукавыя работы, ідэнтыфікацыя і вяртанне.

13 жніўня 1950 г. Польшчы, ураду Б. Берута, былі перададзеныя 89 партрэтаў з галерэі Радзівілаў у Нясвіжы, якія захоўваліся ў Мінску. Сярод іх творы, што тычацца толькі Беларусі, і таму падлягаюць вяртанню. У Музеі Войска Польскага знаходзяцца харугвы паўстанцкіх атрадаў пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Сведчаннем таму, што ўрад БССР варожа ставіўся да старажытнай беларускай культуры, разглядаючы яе як буржуазную, з'яўляецца і такі факт: у 1940 г. з фондаў Гродзенскага гістарычнага музея зніклі ў Беласток, а пасля так і засталіся ў Польшчы 1833 адзінкі захоўвання. Іх спіс падаецца ў «Вяртанні»-2.

У аддзеле рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта ёсць фонд вядомага беларускага фалькларыста М. Федароўскага, у Цэнтральным архіве старажытных актаў — зборы Ельскіх і Прозаравых. У Кракаве, у музеі і бібліятэцы Чартарыскіх і бібліятэцы Ягелонскага універсітэта захоўваюцца рукапісы, кнігі і музейныя экспанаты (у тым ліку Лаўрышчаўскае Евангелле), вывезеныя з Беларусі, а таксама бібліятэка Сафійскага сабора ў Полацку.

У час другой сусветнай вайны ў краіны Цэнтральнай і Заходняй Еўропы былі вывезеныя многія творы беларускага, рускага і заходнееўрапейскага мастацтва з Карцінннай галерэі БССР, Дзяржаўнага гістарычнага музея, Баранавіцкага, Віцебскага і Магілёўскага абласных музеяў. Сярод іх — 221 твор беларускага, 223 рускага, 32 заходнееўрапейскага жывапісу, якія захоўваліся ў Карціннай галерэі БССР. А таксама 794 творы графічныя, 120 малюнкаў, 41 скульптура, 26 музычных інструментаў, 32 слуцкія паясы, 51 мэблевы выраб. Дзеля іх выяўлення патрэбны спецыяльныя пошукавыя даследаванні.

За акіянам, у далёкім Вашынгтоне, у Нацыянальным архіве захоўваюцца рукапісы беларускага паэта Васіля Каваля, у Масачусетсе — «палескі архіў» прафесара Атрэмбскага, у Нью-Йорку, магчыма, знакаміты крыж Еўфрасінні Полацкай. Аб гісторыі яго пошукаў я распавяду ніжэй. Ёсць беларускія гісторыка-культурныя каштоўнасці ў Чэхіі, Славакіі, Францыі і іншых краінах свету. Так, да прыкладу, вядома, што ў Швецыі (г. Упсала) ва універсітэцкай бібліятэцы знаходзіцца унікальны беларускамоўны дадатак да карты Т. Макоўскага (XVII ст.). У Швецыі, у прыватных зборах, маецца шмат кніг, рукапісаў, твораў мастацтва, вывезеных з Беларусі шведскімі войскамі ў час паходаў у XVII ст. і ў час Паўночнай вайны. А колькі яшчэ невядома, дзе і што ляжыць у свеце, створанае геніем нашага народа і так моцна разрабаванае!

### *Нашыя бліжэйшыя суседзі*

Да 1944 года ў Вільнюсе існаваў даволі багаты Віленскі беларускі музей, створаны на народныя сродкі Іванам Луцкевічам і яго паслядоўнікамі. Захаваліся апісанні музея, зробленыя ў 1943 і ў 1944 гг. Пасля ліквідацыі музея ў 1945 г. яго экспанаты былі парасканыя па бібліятэках, галерэях, музеях Літоўскай ССР. У 1954 г. і ў 1960 г. невялікая частка экспанатаў паступіла ў Дзяржаўны музей БССР і Дзяржаўны мастацкі музей БССР. У 1978 г. зноў жа невялікая колькасць экспанатаў былога Віленскага беларускага музея (пераважна этнаграфічных: народнае ткацтва і кераміка) была перададзеная музею старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Вельмі важна для гісторыі культуры Беларусі мець дакументальнае пацверджанне беларускага паходжання пэўных экспанатаў, якія можна будзе шукаць у сучасных зборах Вільнюса. Зборнік «Вяртанне»-2 падае першую частку інвентара былога музея І. Луцкевіча.

У Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы захоўваецца Тураўскае Евангелле, вывезенае з Турава ў 1862 г. У Вільнюсе знаходзіцца шмат вырабаў беларускага дэкаратыўна-прыкладного мастацтва (урэцкае і налібоцкае шкло, слуцкія паясы), памылкова перададзеных у брэжнеўскія часы з Масквы ў вільнюскія музеі. А недзе ў Каўнасе засталіся рукапісы беларускай славутай паэткі Цёткі. Яе муж, пакідаючы Літву ў 1944 г., пакінуў там і рукапісы. Неабходна з дапамогаю літоўскага боку наладзіць пошук гэтых матэрыялаў, у тым ліку і ў засакрэчаных раней архівах.

Не мае сабе роўнай па валоданні беларускімі гістарычна-культурнымі каштоўнасцямі Расія. У кнігах «Вяртанне» згадваюцца толькі вядомыя даследчыкам каштоўнасці, а колькі іх, відаць, яшчэ проста не тое што не выяўлена, а наогул пра іх анічога нам невядома?! Пачнём з бліжэйшай да нас гісторыі — часу Вялікай Айчыннай вайны. У Сталінград на пачатку вайны быў эвакуяваны Гомельскі музей, але пасля вайны музею не вярнулі 86 экспанатаў, яны засталіся ў Валгаградзе. Спіс гэтых экспанатаў падаецца ў зборніку. Хутчэй за ўсё ў Саратаве апынуліся вывезеныя з Мінскага і Віцебскага музеяў на пачатку Вялікай Айчыннай вайны карціны С. Роза, Шагала, Юдовіна, Мініна, Пэна і іншых беларускіх, рускіх і заходнееўрапейскіх мастакоў.

У час першай сусветнай вайны ў Маскву патрапілі наступныя прыватныя зборы з Беларусі: калекцыя Цеханавецкіх (два вагоны), калекцыя Храптовічаў-Буценевых з Бешанковіч, калекцыя Гутэн-Чапскіх. Неабходныя пошукі гэтых калекцый: дзе яны, у якім стане, калі магчымае вяртанне?

У Дзяржаўным гістарычным музеі знаходзяцца ў Маскве: многія выданні Ф. Скарыны (84 экз.), калекцыя слуцкіх паясоў (каля 300 шт.), археалагічныя калекцыі М. Ф. Кусцінскага, А. К. Кіркора, Е. Р. Раманава, К. П. Тышкевіча, Ф. П. Пакроўскага, а таксама аршанская кальчуга (знаходка 1858 г.), пісьмовыя крыніцы па гісторыі паўстання 1863 —1864 гг., альбомы Радзівілаў, зброя з наваградскай і ружанскай калекцый, іконы з Гродна, Магілёва і інш. Частка гэтых матэрыялаў патрапіла ў Маскву ў выніку вайсковых дзеянняў і павінна быць вернута на Беларусь. Тым больш што пераважна матэрыялы не экспануюцца, а знаходзяцца ў запасніках.

У Маскве ў былой Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя Леніна маюцца адсутныя ў Беларусі 82 экз. выданняў Ф. Скарыны, калекцыі магілёўскіх календароў XVIII ст. і інш. У філіяле бібліятэкі ў Хімках ёсць дублікаты беларускіх перыядычных выданняў 20—50 гг., некаторыя камплекты патрабуюць тэрміновай рэстаўрацыі.

У Арле, у музеі, захоўваюцца 9 партрэтаў Галіцыных і Цеханавецкіх. Доктар Анджэй Цеханавецкі, які належыць да гэтых родаў і зараз жыве ў Лондане, ставіць пытанне аб перадачы названых партрэтаў на Беларусь. У Пскове знаходзяцца выданні С. Полацкага, выдадзеныя Магілёўскай друкарняй. У Санкт-Пецярбурзе ёсць кнігі і рукапісы, вывезеныя з Нясвіжа падчас вайсковых дзеянняў 1792—1795 гг., 1812 г., а таксама з Полацка (1831—1832 гг.). У архіве АН знаходзіцца «Слоўнік» З. Даленгі-Хадакоўскага, у Санкт-Пецярбурзе таксама ёсць сонечны гадзіннік з Полацкай акадэміі, вывезены па распараджэнню праф. Папова ў 1831—1832 гг., іконы, кнігі і іншыя матэрыялы.

У карціннай галерэі Смаленска — зборы беларускіх магнатаў Сапегаў (XVI—XVIII стст.), у мясцовым музеі Тарапца — ікона «Адзігідрыя», якую некалі прывезла з Палесціны ў Полацк св. Еўфрасіння Полацкая.

Нямала беларускага параскідана на Украіне. Да прыкладу, у Львоў нелегальна быў вывезены збор мінскага калекцыянера Татура. Нядаўна А. Хадыка знайшоў у Львове апісанне гэтых матэрыялаў.

А вось прыклад таго, як цяжка вярнуць сваё, уласна беларускае, нават ад брата-суседа. У час першай сусветнай вайны з маёнтка Шчорсы, што на Навагрудчыне, была часова перавезеная ў Кіеў бібліятэка Храптовічаў, якую Храптовічы завяшчалі бібліятэцы першага беларускага універсітэта, які адкрыецца на іх радзіме. Згодна з гэтым, урад Украіны ў 1925 г. пагадзіўся вярнуць бібліятэку ў Беларусь. Але потым час змяніўся, а бібліятэка недзе «згубілася». Нядаўна яна была выяўлена ў зборах ЦНБ АН Украіны (5,5 тыс. кніг, 129 рукапісаў). Цяпер надышоў час выканаць волю гаспадароў бібліятэкі. На жаль, гэтая праблема, якая, здавалася б, не выклікае аніякіх юрыдычных непаразуменняў, так і не вырашана пакуль што станоўча для Беларусі.

Раней мы саромеліся, а то і баяліся гаварыць пра свае правы на тыя беларускія багацці, што знаходзяцца ў іншых краінах, асабліва на Украіне, у Літве, у Польшчы, у Расіі. Такія патрыятычныя памкненні часта характарызаваліся як праявы нацыяналізму, як неразуменне таго, што ўсё, у тым ліку і музейныя скарбы, мусіць быць агульным, па сутнасці — нічыйным.

### *Пра што яшчэ расказвае «Вяртанне»*

Сярод беларускіх скарбаў, след якіх згублены ў другую сусветную вайну, вельмі балючыя для культуры народа страты каштоўнасцей, якія да 1941 г. захоўваліся ў Магілёўскім абласным дзяржаўным гістарычным музеі. Найперш гэта крыж Еўфрасінні Полацкай. Але не толькі ён. У 1941 г. з Магілёва зніклі дзесяткі калекцый. І шукаць іх трэба ў сукупнасці, таму што след адной можа вывесці на астатнія. Магілёўскія зборы вядуць свой пачатак ад 1867 г., калі ў горадзе адчыніўся царкоўна-археалагічны музей. У ім было мноства абразоў, крыжоў, царкоўнага посуду, кніг у каштоўных вокладках, а таксама знаходкі розных археалагічных экспедыцый. У 1919 г. гэты музей быў ператвораны ў дзяржаўны, яму перадалі будынак былога земскага банка па вул. Міронава, 33. На першым і другім паверхах будынка знаходзіліся пакоі-сейфы, дзе і складаліся найбольш каштоўныя прадметы царкоўнага ўжытку.

У 1929 г. да іх далучылі крыж Еўфрасінні Полацкай, перавезены туды з Мінска, іншыя каштоўнасці: Магілёў тады рыхтаваўся стаць сталіцай Беларусі. У 1933 г. у гэты будынак пераехаў Магілёўскі абкам партыі, а музей перасялілі на Ленінскую вуліцу, дзе з-за малых плошчаў будынка размясцілася толькі экспазіцыя. Усе ж каштоўнасці засталіся ў сейфах цяпер ужо абкама. Дакладна, што там, акрамя крыжа Еўфрасінні, былі залатыя і сярэбраныя ключы Магілёва, дзве сярэбраныя пячаткі горада, залатыя ўпрыгожанні і плiткі з выявамі, знойдзеныя пры раскопках старажытнай Пампеі, сярэбраная булава Жыгімонта III, мітра арцыбіскупа Георгія Канінскага, залатыя і сярэбраныя крыжы, дарахавальніцы, кадзільніцы, прадметы яўрэйскага культу.

У актах апісання называюцца абразы Бялыніцкай (XV ст.), Брацкай (пач. 18 ст.), Спаскай (1670 г.), Казанскай (копія, падараваная Аляксандрам I у 1867 г.), Іверскай Божай Маці і шмат іншых ікон. Тут жа былі і жывапісныя творы У. Баравікоўскага, І. Макоўскага, І. Айвазоўскага, І. Рэпіна, А. Вато і інш. Асобна ўказваюцца такія рарытэты, як крэмневы пісталет з залатой арабскай чаканкай, троннае крэсла, выробленае ў 1780 г. да прыезду Кацярыны II, сані Напалеона, кальчуга з Аналінскага кургана Быхаўскага павета, залатыя і сярэбраныя табакеркі, гадзіннікі, упрыгожанні.

Зафіксаваны ў дакументах «гістарычная бібліятэка» (1200 тамоў), збор «беларускіх рукапісных і друкаваных кніг» (175 адзінак), а таксама 26 каралеўскіх грамат XVI—XVIII стст., грамата 1570 г. караля Стэфана Баторыя на магдэбургскае права Магілёву і інш. У магілёўскіх зборах ёсць сляды калекцыі манет X—XIX стст., у іх ліку да 10 шт. візантыйскіх залатых манет, астатнія сярэбраныя, Евангелле ў акладах работы беларускіх майстроў XVI—XVIII стст. (каля 20 кніг), прадметы з раскопак курганоў, этнаграфічныя калекцыя адзення, калекцыя зброі (280 адз.), калекцыі ўзораў мастацкай работы па дрэву беларускіх майстроў, мастацкіх фарфоравых вырабаў XIV—XVIII стст. (170 адз.), «Вялікая палеанталагічная калекцыя» і інш.

Куды ж гэта ўсё падзелася летам 1941 года? Раней адказ быў адзін: разрабавана або знішчана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пра крыж Еўфрасінні Полацкай была распрацавана наступная версія. Нейкі обер-лейтэнант выпадкова трапіў у будынак з надпісам «Музей», пабачыў у куфры залаты крыж, здагадаўся, што ён вельмі каштоўны, і забраў. Потым яго жонка прадала рэліквію за сто тысяч даляраў. А праз месяц за вялізную цану перакупіў гэты крыж у ювеліра агент аднаго амерыканскага мільянера. Так пачаўся пошук крыжа ў калекцыях Морганаў і Ракфелераў, куды,

вядома, гаспадары не дапускалі даследчыкаў з Беларусі, а Б. Шалкоўнікаву, спецыялісту з Эрмітажа, нават паабяцалі на чысцейшай рускай мове «павырываць ногі».

Пазней пошукам крыжа ў Амерыцы займаўся Адам Мальдзіс, будучы на сесіі ААН. Адшукаць нашу нацыянальную святыню не ўдалося ў калекцыях Моргана. Тады было туды накіравана афіцыйнае запытанне нашага Міністэрства замежных спраў. Адказ, які атрымалі пасля напаміну толькі праз два месяцы, быў даволі мудрагелісты: у фундацыі Пірпонта Моргана крыжа няма, але за прыватныя зборы ўсіх Морганаў ручацца нельга.

Паралельна з морганаўскай з'явілася ракфелераўская версія. А пасля — і аўстралійская: крыж трапіў у паўднёвае паўшар'е і захоўваецца там ці то ў банку, ці то ў царкве нашых суайчыннікаў. Але гэта мала праўдападобна, таму што беларуская эміграцыя ведала б пра гэта.

У даследчыкаў ёсць прадчуванне, што, апроч заходняга следу, можа быць і ўсходні. Магілёў абараняўся доўга, можна было вывезці каштоўнасці. Па словах старажылаў Магілёва, у адзін з дзён, калі рваліся да горада нямецкія танкі, у будынак абкама ўвайшла група людзей у форме НКУС. Яны адамкнулі сейф, паклалі каштоўнасці ў мяхі і паехалі.

Цяпер ёсць сведчанні пра тое, што ў 1941 г. эвакуіравалі каштоўнасці з пакоя-сейфа Магілёўскага абкама. Адвезлі ўсё ў Маскву, здалі ў банк. Калі пачалі складаць апісанне, раптам з'явіўся Берыя з камандай афіцэраў. Ён пачаў разглядаць каштоўнасці і цмокаць языком. Апісанне працягнулася на два месяцы. Аказаліся прывезенымі больш за дзве тысячы прадметаў. Прафесар Б. Сапуноў нечакана паведаміў, што ў Эрмітажы ёсць ліст з Беларусі пра тое, што, нібыта, каштоўнасці былі вывезены з Магілёва яшчэ... на пачатку 30-х гадоў. Іх тады накіравалі ў Ленінград, каб пазней прадаць на міжнародным аўкцыёне. Калі ўлічыць тагачасную атмасферу, факт высялення музея з будынка па вул. Міронава, 33, то гэтую версію таксама трэба ўлічыць. Але былыя работнікі музея сцвярджаюць, што крыж і іншыя каштоўнасці старажытнасці знаходзіліся ў Магілёве да 1941 г.

Усе гэтыя версіі трэба адпрацоўваць. Дарэчы, маскоўскі след не выключае амерыканскага. Каштоўнасці маглі быць па распараджэнні Сталіна выкарыстаны на аплату Амерыцы паставак па ленд-лізу. Таксама не выключана, што крыж патрапіў у Амерыку па спекулятыўных шляхах або застаўся ў зборах самога Берыі ці ягоных спадчыннікаў.

Можа падацца цікавай інфармацыя з Балгарыі. Балгарскія беларусісты звярнуліся да вядомай вяшчунні (але не Ванґі), і яна дала сваю трактоўку падзей. На думку балгарскай прарочыцы, крыж у рэшце рэшт трапіў у ЗША, у штат Індыянаполіс, да прыватнага калекцыянера, які жыве з зямельнай рэнты. Прозвішча яго блізкае да Морнс (Морнс сугучна з прозвішчам Морган — ?). Крыж яму разам з калекцыяй завяшчаў ягоны бацька, які нядаўна памёр ва ўзросце 86 гадоў.

Адным словам, шмат часу і працы павінна быць скіравана на праверку ўсіх версій аб знаходжанні крыжа Еўфрасінні Полацкай, а разам з ім — і астатніх магілёўскіх каштоўнасцей. Дзякуючы намаганням беларускіх даследчыкаў, і перш за ўсё А. В. Мальдзіса, намаганням нашага ўраду, міністэрстваў замежных і ўнутраных спраў. Зараз пошукам крыжа св. Еўфрасінні Полацкай займаецца таксама і Інтэрпол.

Нельга абмінуць дакументы, звязаныя з вывазам музейных рэчаў з Беларусі савецкімі ўладамі. Гэтай справай займалася экспартна-імпартовая кантора «Дзяржгандбел», якая выконвала загады сумна вядомага ўсесаюзнага аб'яднання па экспарту «Антыкварыят». Першай ахвярай стаў Мінскі музей, дзе ў 1928 г. быў канфіскаваны шэраг праваслаўных абразоў, зацікавіўшых заходніх калекцыянераў. Трохі пазней такім жа чынам зніклі з фондаў карціны М. Антакольскага, Ю. Пэна, Я. Кругера і іншых вядомых мастакоў. У наступным годзе вываз музейных рэчаў з Беларусі дасягнуў такога ўзроўню, што ўзнікла неабходнасць стварэння ў Мінску экспартнай камісіі і экспартнага музейнага фонду (размяшчаўся па вул. Чырвонаармейскай, 3). Але тэмпы і аб'ёмы рэквізіцый, відаць, не задавальнялі маскоўскае кіраўніцтва (музейныя супрацоўнікі шукалі хоць якія зачэпкі, каб замарудзіць справу). Таму ў канцы 1931 г. на Беларусь быў камандзіраваны прадстаўнік «Антыкварыята» А. Брук, які ажыццявіў адну з буйнейшых рэквізіцый. Аб гэтым сведчаць пададзеныя ў зборніку дакументы.

Моцна ўражвае таксама інфармацыя аб знішчэнні бібліятэк Мінска, калі з 2-мільённага фонду «ленінкі» засталося пасля вайны толькі каля 500 кніг.

Новым з'яўляецца ў кнізе раздзел аб каштоўнасцях, якія ўдалося за апошні час вярнуць на Беларусь. Няхай ён невялічкі, але, дай Бог, каб у наступным зборніку гэты раздзел пашырыўся.

Хочацца выказаць вялікую падзяку за працу, за энтузіязм і адданасць справе выратавання беларускага нацыянальнага багацця аўтарам кнігі, усім людзям, якія далучаныя да гэтай высакароднай і надзвычай важнай справы.

Знаёмства з матэрыяламі «Вяртання» дае кожнаму з нас высокае пачуццё годнасці за геній нацыі, яе лепшых прадстаўнікоў, якія нават у жорсткіх гістарычных умовах займелі такія вялікія, сусветнага ўзроўню, набыткі культуры.

Пра многае, на жаль, мы яшчэ не ведаем, а толькі здагадваемся. Вось чаму праблемы вяртання нацыянальных каштоўнасцей вымагаюць ад нас паўсядзённай заклапочанасці, неадольнай увагі да іх як дзяржавы, так і грамадскасці. Агульнымі намаганнямі гэта справа павінна рушыцца далей. І раней ці пазней такая ўдзячная дзейнасць будзе плённа ажыццёўлена. Дзеля нацыі, на карысць і гонар Бацькаўшчыны!

«Беларуская Думка» ***Ала КАНАПЕЛЬКА,***
*паэтка, вядучы спецыяліст БФК.*

# Нястомны даследчык старажытнасці

«НАВІНЫ А.Н.Б»

**14 ліпеня споўнілася 70 гадоў беларускаму археолагу і гісторыку, доктару гістарычных навук, прафесару, загадчыку аддзела археалогіі і гісторыі Полацкай зямлі Інстытута гісторыі Георгію Васільевічу Штыхаву.**



**Ужо ў маладосці выхаванец настаўніцкай сям'і захапіўся мінуўшчынай роднага краю, удзельнічаў у археалагічных раскопках, якія праводзілі на Гомельшчыне маскоўскія археолагі. Пазней сам працаваў настаўнікам гісторыі ў школе Лоеўскага раёна, а ў 1959 годзе паступіў у аспірантуру Інстытута гісторыі па спецыяльнасці «археалогія». Цікавыя і разнастайныя матэрыялы, атрыманыя за восем палявых сезонаў раскопак у самым старажытным беларускім горадзе, дазволілі падрыхтаваць і ў 1965 годзе абараніць кандыдацкую дысертацыю «Старажытны Полацк IX—XIII стст.», а ў 1975 годзе, выкарыстаўшы звесткі летапісаў і іншых пісьмовых крыніц, выдаць першую манаграфію аб Полацку, у якой разгледжаны таксама пытанні полацкай дзяржаўнасці, падкрэслена роля веча (сходу палачан) у жыцці горада.**

**Далейшыя шматгадовыя даследаванні ў Віцебску, Лукомлі, Заслаўі, Лагойску, Барысаве прынеслі новыя здабыткі для паглыблення ведаў аб гандлёва-рамесніцкіх пасадах, аб развіцці трывалых сувязей гарадоў з іх акругамі, аб занятках і культуры гараджан славутага княства. Навуковы аналіз багатых калекцый, комплекснае іх вывучэнне былі пакладзены ў аснову і чарговай манаграфіі, і ў паспяхова абароненую ў 1983 годзе доктарскую дысертацыю «Гарады Полацкай зямлі IX—XIII стст.» З 1983 па 1991 год Г. В. Штыхаў узначальваў археалагічныя працы ў Мінску на месцы будаўніцтва станцыі метро «Няміга», дзе магутнасць культурнага пласта дасягала 7 — 8 метраў. Атрыманы новыя даныя аб планіроўцы сярэднявечнага горада, яго абарончых збудаваннях, арыгінальнай вежападобнай браме з дубовых бярвенняў, дрэнажнай сістэме для добраўпарадкавання вуліц і інш. Георгій Васільевіч — паслядоўны прыхільнік гіпотэзы, штоў IX—X ст. першапачатковы Менск (так Мінск называўся ў сярэднявеччы) размяшчаўся на берагах прытока Пціцы рэчкі Мень(Менкі), ад якой і атрымаў сваю назву.**

**У сувязі з дыскусіяй аб часе рассялення славян на тэрыторыі Беларусі Г. В. Штыхаў паставіў задачу вызначыць этнічнае асяроддзе, у якім узнікалі гарады Полацкай зямлі, прасачыць стадыі фарміравання заходняй галіны крывічоў — палачан. Для гэтай мэты вучоны сістэматычна на працягу 30 гадоў праводзіў археалагічныя раскопкі курганных могільнікаў у Віцебскай і Мінскай абласцях. Па выніках вывучэння 300 курганоў з 29 пунктаў даследчык прыйшоў да высновы: у этнагенетычным працэсе фарміравання крывічоўпалачан было тры стадыі. Да першай адносяцца археалагічныя помнікі банцараўскай культуры і культуры доўгіх курганоў паўночнай Беларусі VI—VII стагоддзяў. Другая стадыя ахоплівае VIII—IX ст. і характарызуецца больш інтэнсіўным пранікненнем славян у асяроддзе мясцовых плямёнаў. Трэцяя — адносіцца да X—XI ст., калі на тэрыторыі Беларусі значна павялічылася колькасць усходнеславянскага (крывіцка-дрыгавіцкага) насельніцтва. Вось тады славяне і сталі асноўным насельніцтвам краю. Гэта мае вялікае значэнне для разумення працэсу фарміравання беларускай народнасці.**

**У пачатку 90-х гадоў Г. В. Штыхавым напісаны раздзел для кнігі «Нарысы гісторыі Беларусі», дзе ён па-новаму разглядае шэраг праблем нашай старажытнай гісторыі, у тым ліку вытокі беларускай дзяржаўнасці ў сярэднявеччы. Яму належыць неардынарная думка аб тым, што гаспадарка ўсходніх славян у IX—XI ст. была шматукладнай і ў ёй суіснавалі і перапляталіся тры ўклады: першабытнаабшчынны, які зыходзіў з гістарычнай арэны, рабаўладальніцкі, што не атрымаў значнага развіцця, і новы феадальны, які толькі нараджаўся і пракладваў свой шлях у будучыню.**

**Спіс навуковых і навуковапапулярных прац юбіляра налічвае звыш 220 пазіцый, сярод якіх 6 манаграфій, 5 вучэбных падручнікаў і дапаможнікаў, 19 параграфаў у шасці калектыўных кнігах па археалогіі і гісторыі Беларусі. Акрамя таго ім надрукавана звыш 300 матэрыялаў у энцыклапедычных выданнях.**

**Г. В. Штыхаў з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990 г.) за ўдзел у выданні «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», членам навуковага рэдакцыйнага савета 18-томнай універсальнай Беларускай энцыклапедыі. Пад яго кіраўніцтвам 16 аспірантаў і суіскальнікаў выканалі і абаранілі дысертацыі. Удзельнік шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных навуковых нарад, канферэнцый і кангрэсаў Г. В. Штыхаў абраны ў 1996 годзе старшынёй Нацыянальнага камітэта славянскай археалогіі. Матэрыялы яго археалагічных раскопак прадстаўлены ў экспазіцыях многіх музеяў Беларусі.**

**Шырокі кругагляд, выключная працаздольнасць, добразычлівасць і сціпласць прынеслі Г. В. Штыхаву аўтарытэт і павагу не толькі калег, але і ўсіх, хто працуе з ім і ведае яго. Сваё сямідзесяцігоддзе Георгій Васільевіч сустракае з жаданнем працягваць абагульненне вялікага археалагічнага матэрыялу, які ён здабыў за доўгі час палявых даследаванняў. Жадаем яму далейшага плёну, сіл і здароўя для працы на ніве гістарычнай навукі Бацькаўшчыны.**

***М. ГУРЫН,***
***доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік.***

# ТАЙНАЕ ПАГАДНЕНЬНЕ
## АБ НОВАЙ АКУПАЦЫІ...

Як нам паведамляюць з Кіева, 22 студзеня 1998 году на засяданьні Вышэйшай рады саюзу Расеі і Беларусі была зацьверджана новая канцэпцыя сумеснай абароннай палітыкі...

Выглядае, што з прыняцьцем гэтага дакумента працэс афармленьня ваеннага аліянсу між Расеяй і Беларусьсю ўступіць у сваю канчатковую стадыю. Цікава тое, што гэтае фактычнае падпарадкаваньне-зьліцьцё ваенных сілаў Беларусі і Расеі было зьдзейсьнена тайна, пажульніцку... Беларуская армія сталася ізноў часткай арміі Расейскай, якая пакуль разьмяшчаецца на беларускай зямлі... Дзівіцца няма чаму, бо кожнаму ведама, што камандаваньне так званай беларускай арміі было і засталося чыста расейскім...

Трэба ведаць, што гэтая тайная падзея, — гэта яшчэ адзін крок да цалкавітага зьнішчэньня беларускага сувэрэнітэту да чаго ўсімі сіламі імкнецца А. Лукашэнка і яго расейская каманда...

Беларусы маюць усе правы ведаць, чаму і дзеля чаго краіна ўступае ў ваенныя саюзы... А можа Лукашэнка ўжо таксама тайна падпісаў пагадненьне пра ўваход Беларусі ў Расейскую Фэдэрацыю на правох Северо-Западнаго края?..

**Беларускі народзе!**
**Ці ты ня бачыш, як на цябе насоўваецца ізноў цёмная хмара расейскай акупацыі?..**

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»*
ЧАКАЕ ВАШАЕ АХВЯРЫ

# Зноў у цэнтры ўвагі быў Віктар Ганчар

*Для пачатку некалькі лічбаў. На пашыраным пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, якое адбылося днямі, разглядаліся чатыры пытанні. Тры чвэрці часу з тых дзвюх гадзін, што доўжылася пасяджэнне, былі прысвечаны справам вядомай камісіі Віктара Ганчара. І гэта яркае сведчанне таго, што прыданне рабочым сходам дэпутатаў статуса пленарных пасяджэнняў застаецца самай актуальнай праблемай.*

Дэпутат Анатоль Лябедзька звярнуў увагу калег на тое, што дыскусія вакол Камісіі па прававвой ацэнцы парушэнняў прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкам Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь, якую ўзначальвае Віктар Ганчар, выйшла далёка за межы разглядаемага пытання. І гэта не проста невыпадкова, а нават заканамерна. Заканамерна таму, што дадзеная праблема перарасла ў праблему стратэгіі дзейнняў дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія засталіся вернымі Канстытуцыі 1994 года. На думку А.Лябедзькі, выразна бачны два падыходы да пытання: частка дэпутатаў лічыць, што няма патрэбы змагацца за перахоп палітычнай ініцыятывы з рук Лукашэнкі. Яны ўсё яшчэ спадзяюцца, што прэзідэнт сам зробіць нейкую неверагодную памылку і тады яны возьмуць яго, як кажуць, цёпленькім. У другой часткі дэпутатаў ёсць паразуменне таго, што далей пасіўна чакаць нельга. Маўляў, ініцыятыва, звязаная з імпічментам Лукашэнку, якраз і ёсць той шанец, які можа добра ўскалыхнуць усё грамадства. І яго нельга губляць.

Дыскусіі папярэднічала выступленне В.Ганчара. Ён паведаміў, што камісія працягвае працу над новымі раздзеламі свайго заключэння. Ідзе збор матэрыялаў па злачынствах у галіне эканамічнай дзейнасці, палітычных і іншых правоў чалавека, супраць асобы. Па словах Віктара Ганчара, над першым раздзелам, які камісія падрыхтавала яшчэ у мінулым годзе, працаваць было лягчэй, паколькі тады яна мела справу ў асноўным з ужо надрукаванымі матэрыяламі. Цяпер жа трэба мець даныя па выніках кантрольнай праверкі Упраўлення справамі прэзідэнта Беларусі, пра так званыя прэзідэнцкія фонды, гандаль зброяй і гэтак далей. Тое-сёе камісія, як засведчыў яе старшыня, ужо мае, але даныя гэтыя сабралі "не зусім легітымным спосабам".

Камісія звярталася з адпаведным запытаннем у Міністэрства фінансаў, але адказу да гэтага часу няма. Нейкі другарадны чыноўнік з Упраўлення справамі адказ камісіі даслаў, але вельмі своеасаблівы. Ён піша, што паколькі Адміністрацыя прэзідэнта Беларусі прызнае толькі Канстытуцыю 1996 года, а ёю ўтварэнне такой камісіі не прадугледжана, дык і даваць даныя камісіі ён не будзе. Таму Віктар Ганчар звярнуўся да старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага з просьбай, каб той зрабіў адпаведныя запыты. "Я разумею, — падкрэсліў Віктар Ганчар, — што і Шарэцкаму ніхто нічога не адкажа, але ж у камісіі будзе магчымасць афіцыйна зафіксаваць такі адказ".

Напрыканцы сваёй справаздачы Віктар Ганчар зрабіў наступную заяву: "Калі Вярхоўны Савет ставіць сваёю мэтай пачаць працэдуру імпічменту Лукашэнку, дык для гэтага дастаткова першага раздзела заключэння. Калі ж Вярхоўны Савет ставіць пытанне так, што трэба збіраць інфармацыю, як кажуць, на ўсялякі выпадак, дык мы згодны і на гэта. Гэта ўсё ж лепш, чым нічога не рабіць...".

Дыскусія, якая прайшла пасля выступу старшыні спецыяльнай камісіі, засведчыла, што выступаць з ініцыятывай імпічменту толькі па першаму раздзелу заключэння большасць прысутных не збіраецца. Камісіі Ганчара параілі актывізаваць сваю працу і закончыць падрыхтоўку наступных раздзелаў заключэння. Вырашана таксама зноў вярнуцца да спраў камісіі на нечарговым пасяджэнні Прэзідыума. Спікер паабяцаў правесці яго ў любы момант, як толькі камісія паведаміць, што яна гатова да справаздачы.

На такім кампрамісным рашэнні і пагадзіліся. Хаця некаторыя дэпутаты, асабліва Валерый Шчукін, казалі пра тое, што зацяжка часу вельмі не на карысць апазіцыі. Дэпутат-камуніст нават узгадаў тэзіс пра двоеўладдзе, якое было ў Расіі ў 1917 годзе, і прапанаваў увесці заканадаўчае двоеўладдзе. Маўляў, Нацыянальны сход прымае свой закон, а мы адпаведна — свой. Трэба, падкрэсліваў дэпутат Шчукін, каб людзі бачылі, што Вярхоўны Савет існуе не проста на паперы, што ён дзейнічае. Паводле слоў дэпутата, ён упэўнены: Вярхоўны Савет людзі падтрымаюць, а вось нейкі рабочы сход дэпутатаў — не.

Між тым 30 студзеня плануецца правесці менавіта чарговы рабочы сход дэпутатаў Вярхоўнага Савета. На ім, магчыма, будуць разгледжаны два пытанні: аб канцэпцыі развіцця сродкаў масавай інфармацыі (Уладзімір Нісцюк) і аб праблемах адукацыі і навукі ў Рэспубліцы Беларусь (Віктар Хоміч).

У сувязі з прэзідэнцкім указам аб прызначэнні Пятра Краўчанкі амбасадарам у Японію Прэзідыум Вярхоўнага Савета вызваліў яго ад пасады старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання па міжнародных справах і будзе прапаноўваць дэпутатам зацвердзіць гэта рашэнне. У прынятай з гэтай нагоды пастанове адзначацца: "...падзякаваць Краўчанку Пятру Кузьмічу за актыўную працу па давядзенню да сусветнай супольнасці фактаў парушэнняў Канстытуцыі, законнасці, правоў і свабод грамадзян прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам. Выказаць надзею, што і далей на дыпламатычным полі дзейнасці Пётр Кузьміч Краўчанка будзе працягваць працу па аднаўленню дэмакратычных інстытутаў у Рэспубліцы Беларусь".

Як трапна сказаў вядомы публіцыст Аляксандр Фядута, вось такая пятрушка...

**Уладзімір ГЛОД.**

«Народная Воля»

## «ВЫДАНЬНІ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА»

«Культура»

***Пад такой назвай Музеем гісторыі Магілёва арганізавана выстава ў памяшканні Магілёўскай абласной бібліятэкі.***

На выставе з фондаў музея прадстаўлены каля 100 арыгіналаў выданняў 50—90-х гадоў XX ст., выдадзеных беларусамі ў Англіі, ЗША, Італіі, Іспаніі, Германіі, Канадзе, Францыі. Гэта мастацкая, гістарычная, музыказнаўчая, рэлігійная літаратура, перыядычныя выданні: "Беларус", "Царкоўны пасланец", "Голас царквы", "Летапісец", "Божым шляхам", паштоўкі, канверты, буклеты, карты выстаў, карты Беларусі, выдадзеныя нашымі суродзічамі, якія па волі лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, але дбалі аб сваім унёску ў навуку і развіцці яе культуры. У фонды музея ўсе гэтыя выданні трапілі ад дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) Вітаўта Кіпеля (ЗША), Юркі Васілеўскага (ЗША), айца Аляксандра Надсана (Англія) і іншых. Уступную даведку да выставы напісаў В.Кіпель.

29 снежня 1997 г. на адкрыццё выставы прыйшло шмат студэнтаў філфака і гістфака Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта, выкладчыкі, бібліятэчныя работнікі. Перад імі выступіў дэкан універсітэта, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Яраслаў Клімуць, які распавёў пра гісторыю беларускага друку ў замежжы, адзначыўшы, што беларусы за мяжой, незалежна ад палітычных поглядаў і рэлігійнай прыналежнасці, вялі актыўную грамадскую і выдавецкую дзейнасць. Дарэчы, і на выставе прадстаўлены беларускія рыма-каталіцкія, грэка-каталіцкія выданні і выданні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы (БАПЦ), пратэстантаў. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч падзяліўся сваімі ўспамінамі аб Алесі Салаўі, з якім вучыўся ў адной школе, якому чытаў свае першыя вершы. Акрамя вершаў на адкрыцці выставы, якую аформіў мастак Мікалай Цітоў, гучала беларуская музыка XVI — XVII стст. у выкананні на цымбалах студэнтаў Магілёўскага педфака Беларускай акадэміі музыкі А.Архіпавай і В.Дзядкоўскай.

Найбольшы інтарэс з боку гледачоў выклікалі кнігі Н.Арсенневай, У.Глыбіннага, Б.Рагулі, А.Салаўя, "Запісы" БІНіМа, С.Брагі, А.Багровіча, М.Куліковіча, падручнікі на беларускай мове для дапаможных канадскіх школ, зборнікі "Ля чужых берагоў", да ўгодкаў БНР і іншыя выданні.

Падобная выстава — першая на Магілёўшчыне. Абласной бібліятэцы перададзена частка выданняў, якія меліся ў музеі ў некалькіх асобніках. Выстава будзе працаваць да сярэдзіны лютага 1998 г., каб усе, хто жадае, мелі магчымасць дзякуючы абласной бібліятэцы не толькі пабачыць, але і пачытаць выданні беларускага замежжа.

**Ігар ПУШКІН, дырэктар Музея гісторыі Магілёва.**

# МІНСКАЯ ПАНАРАМА

Урыўкі з Беластоцкай «Нівы»

**. . . БНФ рыхтуе пераварот**

Па прэзідэнцкім тэлебачанні заявілі, што Пазьняковы нацыяналісты рыхтуюць дзяржаўны пераварот. Нейкі камсамолец, па прозвішчы Аляксандр Зімоўскі, быццам бы адталы экспанат бальшавіка 1938 года, дэталёва тлумачыў хто з дзеячаў Фронту і колькі мільёнаў долараў атрымаў на змаганне з усенароднаабраным прэзідэнтам. Вінцук Вячорка, які — паводле Зімоўскага — разбагацеў з бюджэту ЦРУ на 3,8 млн. сказаў, што задаволіўся б хаця б адным працэнтам ад гэтай сумы.

Сойм БНФ, які засядаў 17 студзеня, займаўся перш за ўсё ўнутранымі канфліктамі. Адсутнасць Пазьняка выклікае штораз больш выразнае змаганне за ўладу ў арганізацыі. Уся гэтая тусоўка выглядала як рулетка на „Тытаніку". Фронтаўцы прынамсі, як адзіная арганізацыя ў Беларусі, усе прынцыпова размаўляюць на беларускай мове.

Дзень раней у сядзібе Свабодных прафсаюзаў Беларусі, што па вуліцы Энгельса, сабраліся лідэры апазіцыйных партый, каб абмеркаваць формы супрацоўніцтва з Беларускім бюро, якое нядаўна было адкрыта ў Брусэлі. Сход вёў былы віцэ-міністр замежных спраў Андрэй Саннікаў. Антылукашэнкаўскія апазіцыянеры ў знакамітай большасці размаўлялі на расейскай, лукашэнкаўскай мове. Дзве гадзіны змагаліся яны з ветракамі, а пасля разышліся.

Безумоўна, вялікім дасягненнем Лукашэнкі з'яўляецца маргіналізацыя апазіцыі, якая ў сапраўднасці зведзена цяпер да дэкаратыўнай ролі. І толькі паталогія савецкага менталітэту пхае рэжым да змагання з цэнямі, прывідамі, прыдуманымі загаворшчыкамі. Беларуская апазіцыя не адсуне прэзідэнта ад улады. Могуць яго ж пазбавіць маскоўскія таварышы, калі так ім будзе выгадна. Другую пагрозу для рэжыму нясе яго абсурдная падатковая палітыка. Ненасытнасць Ціцянкова, галоўнага адміністратара маёмасці Лукашэнкі, замарожвае гаспадарку. Падаткамі і фінансавымі кантролямі прыкончана ўжо большасць малых прыватных фірмаў. Зразумела, што рэжыму патрэбны грошы на ўтрыманне арміі ўсялякіх вахцёраў і кантралёраў, але фіскалізм, здаецца, дасягнуў апошніх межаў. Беларус наогул усё пераносе і нават у жалюгодным становішчы будзе паўтараць: „Каб толькі горш не было". Але шмат маладых людзей пачынае ўжо ўсведамляць, што ў іх толькі адно жыццё.

Ад 15 да 21 студзеня цана долара павышалася штодзённа на 500 беларускіх рублёў. 21 студзеня ў абменных пунктах Белбанка плацілі 41 500 рублёў за адзін долар, а прадавалі па 42 500. За польскую златоўку банкі плацілі 12 000 рублёў. Інфляцыя тут вялікая, нават ва ўмовах беларускай эканомікі.

**Бог разумее беларускую мову**

Пры саборы св.св. Пятра і Паўла дзейнічае Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, якім кіруе Мікола Матрунчык. 15 студзеня братчыкі наладзілі дыскусійны панэль з удзелам выдатных прадстаўнікоў мінскай інтэлігенцыі і святароў. Сабралася каля 70 чалавек. Дыскусія вялася на тэму перспектываў увядзення беларускай мовы ў царкоўнае жыццё. Усе прысутныя гаварылі на беларускай мове. Прытым адкрытасць дыскусіі была проста імпазантная. Некалькі разоў прыпаміналася прызабытая праўда, што Царква — гэта не мітрапаліты, архіепіскапы і святары, што Царква — гэта проста супольнасць вернікаў. Прафесары Уладзімір Конан і Анатоль Клышка гаварылі пра памылковыя меркаванні царкоўнай іерархіі наконт беларускай мовы, вядомыя інтэлектуалы Леанід Дзягілеў і Аляксей Дудараў ставілі пытанне: Ці можа святар асвячаць танкі і ядзерныя ракеты ды што гэта мае супольнага з хрысціянствам? З прычыны русіфікаванасці большасці вернікаў прысутныя пагаджаліся, што беларускую мову ў царкоўны ўжытак трэба ўводзіць вельмі памяркоўна. Святары паўтаралі свой стары тэзіс, што няма адпаведных перакладаў літургічных тэкстаў і таму немагчыма поўнасцю служыць літургію на беларускай мове, а прытым, аргументавалі, старажытнаславянская мова — таксама свая.

19 студзеня ў чарзе за свянцонай вадой каля сабора Св. Тройцы стаяла пару тысяч людзей. За парадкам сачылі два міліцыянеры. Таксама пры ўваходзе ў царкву, пры кожных дзвярах сталі міліцыянеры, але цяпер толькі дзеля парадку, хаця па прывычцы ўнутры храма не здымалі шапак, упрыгожаных як і раней сярпом і молатам.

**Яўген Міранович**

Сустракаюцца два бізнесмены.
— Пазыч мне тысячу долараў! — просіць адзін. — Тэрмінова патрэбна!
— У мяне з сабой няма! — адказвае другі.
— А дома?
— Дзякуй, дома ўсе здаровыя.

* * *

— Нешта ты сёння блага выглядаеш. Нейкі прыгнечаны... — кажа прыяцель прыяцелю.
— У мяне дэпрэсія.
— З якой прычыны?
— Жонка здрадзіла.
— Я раскажу цудоўны анекдот, каб цябе развесяліць...
— Ты ж ведаеш, я не смяюся з анекдотаў.
— Але гэта — сапраўды выдатны. Калі я ўчора расказваў яго тваёй жонцы, яна ледзь не выпала з ложка.



Людміла ДРОЖЖА

«ЛіМ»

# БАЦЬКАВА ХАТА

Віктар Фёдаравіч Іваноўскі прыехаў прадаваць бацькаву хату. Пад наглядам суседа яна стаяла ўжо гадоў пяць, з той пары, як памерлі бацькі. Акурат столькі часу Іваноўскі не быў на радзіме. Ён жыў у вялікім паўночным горадзе, выкладаў фізіку ў політэхнічным інстытуце, абараніў кандыдацкую, і жонка ўнушала, што яго незвычайнаму розуму доктарская будзе сапраўднай дробяззю.

Калі Іваноўскі раней прыязджаў на радзіму, сусед Павел Ліхадзіеўскі, націскаючы яму руку, перш-наперш пытаў:

— Ужо мо прафесарам стаў?

— Не, — сціпла ўсміхаўся Іваноўскі.

— То станеш, — нібы суцяшаў сусед і пачынаў хваліцца набыткамі сваёй сям'і.

Іваноўскі перапісваўся з суседам, і аднойчы атрымаў тэлеграму: "Знайшоў купца. Тэрмінова прыязджай".

Ліхадзіеўскі сустрэў яго на станцыі, пасля прывітання, упэўніўшыся, што Віктар Фёдаравіч яшчэ не стаў прафесарам, пачаў дакладваць пра купцоў, якія грошы прапануюць і хочуць хутчэй перавезці хату. Пасля слоў "перавезці" нешта ўнутры Іваноўскага абарвалася. Ён толькі цяпер уцяміў, што назаўсёды развітваецца з дарагімі мясцінамі. Яму здавалася, што купленая хата будзе стаяць на месцы, проста ў ёй паселяцца чужыя людзі, і некалі ў старасці ён прыедзе зірнуць на яе. А хата Іваноўскіх была яшчэ моцная, звонкая, ганарлівая. Яе пабудавалі той вясной, калі Віктару споўнілася пятнаццаць гадоў, і бацька ўжо браў яго ў памочнікі часаць крoквы, слаць падлогу...

Ліхадзіеўскі спыніў матацыкл на сваім двары, запрасіў госця ў хату. Ён быў моцна збіты, чырванашчокі мужчына з пасівелай кудлатай шавялюрай, працаваў сталярoм у саўгасе і меў рэпутацыю вёрткага, камерцыйнага чалавека. Іваноўскі і яго вясковы сусед былі блізкія па ўзросце, але вельмі далёкія ў сваіх адчуваннях жыцця. Пасля частавання сусед павёў Іваноўскага па вясковай вуліцы, нудна распавядаючы пра тутэйшыя драмы, трагедыі, камедыі. Страшнага было аж занадта, нават камедыі абяцалі перарасці ў плачэўны фінал. Сусед абкрадваў суседа, мужы забівалі жонак, брат спрабаваў зарэзаць брата, бацькі знікалі на паўгода, пакінуўшы непаўналетніх дзяцей без яды і грошай, а з'явіўшыся невядома адкуль, абвінавачвалі школу, што дрэнна карміла іх дзяцей. Амаль у кожнай хаце гналі самагонку, промысел перадаваўся па спадчыне, і маладыя сем'і мелі свае самагонныя апараты, бойка гандлявалі і самі паціху співаліся...

Іваноўскі помніў іншае жыццё сваёй вёскі: кралі і штодня пілі толькі вырадкі, ад сваіх дзяцей ніхто не адракаўся... Тады яму здавалася, што дужыя, жылістыя рукі мужчын могуць рабіць немагчымае... Тады ён любіў сваіх вяскоўцаў...

Яны ішлі па зялёнай вясковай вуліцы і перад вачамі Віктара Фёдаравіча паўставалі асіроцелыя сядзібы, на кожнай трэцяй хаце стаяў сімвалічны крыж — усё скончана, ніхто сюды не вернецца, нікому непатрэбны старыя прыгорбленыя сцены. Было многа звезеных хат. На прагалах толькі кусты і дрэвы напаміналі пра тое, што тут жылі людзі, гадавалі дзяцей, несупынна клапаціліся аздабляць свой кавалак зямлі садамі, кветкамі... Іваноўскі ўглядаўся ў гэта запусценне і адчуваў, што на роднай зямной паверхні затухае жыццё...

Мужчыны прайшлі ўсе вуліцы іх колісь вялікай вёскі і вярнуліся дамоў. Іваноўскі напружыў твар, каб не скрывіцца ад жалю пры сустрэчы з роднай хатай. Невялікі садок, рабіны паўз плот, тры бярозы, якія ён сам садзіў, старыя вішні раслі каля самай будыніны — усё гэта было блізкім, хвалюючым, ажно душа затрапятала, як лісток на дрэве.

— Хата, як звон, — пастукаў па бервяне Ліхадзіеўскі. — Калі хочаш, прасі больш. Але я ім назваў цану прыстойную. Глядзі, не збаўляй, а то яшчэ ўгавораць. Ведаю я вас, інтэлігентаў. Хоць пасівелі мы з табой, Віктар, а ты ў жыцці не разбіраешся. Усё кніжкі, лекцыі, усё чынна, няспешна. Жыццё трэба піць гарачым, як гарбату. А дзьмухаць, студзіць — гэта для асцярожных. Гэта не маё...

Іваноўскаму не было ахвоты распачынаць дыспут пра жыццё, нешта даказваць чалавеку, які піў жыццё гарачым і не апякаўся. Ён абапёрся на стары, хісткі плот і, каўтнуўшы камяк жалю, ціха сказаў:

— Я ў сваёй хаце пераначую.

— А што, у нас мала месца? Культурна. Па-людску! Тут мышы спаць не дадуць, — спрабаваў адгаварыць Павел, ды адчуў, што дарэмна. Чалавек апошні раз захацеў прыгрэцца ў родавым гняздзе.

Яны яшчэ пасядзелі на лаўцы, пагаварылі з падслепаватай бабай Кацяй, якая прыклыпала паглядзець на Віцьку, і ўжо надвячоркам Іваноўскі зайшоў у сваю хату. Тут было чатыры пакоі, вялікая кухня. Вокны ягонага пакоя выходзілі на захад. Некалі ён любіў расчыняць вокны, калі зацвітаў язмін, любіў, калі сястра прыбірала ў хаце і ў кожным пакоі ставіла кветкі. Цяпер у хаце было пуста, толькі стаяла старая абшарпаная канапа, на якую Віктар Фёдаравіч прылёг. Ён раптам прыгадаў мацярынскія крокі — хуткія, гучныя, цяжкаватую хаду бацькі... У хаце стаяла насцярожаная цішыня. Нябачныя насельнікі прытаіліся, услухоўваліся, а пасля на гарышчы і па ўсіх кутках зашамацела, забегала, заскрэблася асмялелае жыхарства, і гэтыя гукі не пужалі і не раздражнялі яго, яны запаўнялі ягоны сум чымсьці дарагім, да дрыжыкаў знаёмым...

Іваноўскі заплюшчыў вочы і выклікаў з памяці тую вясёлую вясну, калі ён, васемнаццацігадовы белабрысы прызыўнік, праседжваў ночы са сваёй аднакласніцай Любай, цёмнарусай, з зеленаватымі вачамі, упартай і спакуслівай. Тады ён адчуваў несупынны галаўны боль і ненавідзеў упартасць сваёй сяброўкі і ўсё гарачэй марыў падпарадкаваць яе сваёй страсці, бясконцым ласкам. І вось аднойчы, калі бацькі пайшлі ў госці, ён заманіў Любу ў свой пакой і тут, на гэтым тапчане, атрымаў ад яе аплявуху. І яны абодва застылі ў розных кутках пакоя, плакалі, выплеснуўшы сваю напружанасць, страх, агрэсію. А пасля зноў ціха сышліся на канапе, каб даць волю вызваленай ад страху пяшчоце.

Маладым летам Люба праводзіла яго ў армію — у хаце звінелі чаркі, на вуліцы іграла музыка, і Віктар не думаў, не ведаў тады, што жыццё — адмысловы і самаўпраўны кравец — выкраіць, зробіць па-свойму, развядзе з каханай па розных дарогах. Эх, жыццё... Ён нават у думках не мог дапусціць, што прыйдзецца назаўсёды развітацца з роднай хатай. Сентыментальнасць разлілася ў настроі Віктара Фёдаравіча. Ён моцна напружыў вочы, каб сціснуць слёзы... Затое паліліся словы, пяшчотны сум. "Бывай, мая родная хата! Цябе чакае новае месца і новыя людскія галасы. Ты забудзеш старое жыццё, сваю адзіноту. Толькі я цябе ніколі не забуду. Я любіў твой чысценькі ганак, твае рыпучыя дзверы, сонечныя вокны, твае ранішнія пахі. Ты дарыла мне зімовую цеплыню і летнюю прахалоду, тут у мяне былі шчаслівыя сны і радасныя світанні..."

І зноў бацькоўскія твары паўсталі ў сынавай свядомасці, і яго ўспаміны пацiху растаялі ў сне.

Назаўтра Віктар Фёдаравіч абышоў сваю сядзібу, пастаяў ля кожнага дрэва, як руку чалавека, моцна і горача сціснуў ручку дзвярэй хаты і, зачыніўшы брамку, пайшоў, забараніўшы сабе азірнуцца...

Іваноўскі ляцеў самалётам у свой вялікі паўночны горад. Ён зірнуў у акно ілюмінатара — густая шчотка лесу віднелася ўнізе. І ён раптам убачыў астравок сваёй сядзібы... Здань, галюцынацыя... Ён адкінуўся ў крэсле. Няўжо лёсам прадвызначана яму памерці далёка ад родных мясцін? "А што я ведаю пра жыццё? — кальнула нечаканае пытанне. — Я чакаю нейкага адкрыцця, пасланага мне высокімі таямнічымі сіламі. Але хіба я гэта заслужыў? Я нікчэмны, маленькі чалавек, які захлынаецца ў моры чалавечых страсцей, змагаецца за свой кавалак хлеба. Як навучыцца жыць, пакорліва ўспрымаючы кожны дзень, падпарадкоўваючыся магутнай волі лёсу? Смешна дражніць лёс і казыраць сваёй воляй... Смешна..." Віктар Фёдаравіч адчуў, што трывожны віхор пакінуў яго настрой. Яму стала спакойна і нават добра.

І ўсё ж ён ясна зразумеў, што яшчэ вернецца на радзіму. Душа яго, як лёгенькі вецер, праляціць над роднымі пагоркамі, ляском, іх вёскай, абавязкова праляціць, нават калі застылае цела будзе ляжаць за трыдзевяць зямель...

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

Душою збалелаю
 ціха гарнуся
да птушак,
да кветак,
да дрэў, да травы...
І не таюся —
 пры ўсіх ганаруся,
што з доляй адзінай маёй Беларусі
лучу сваю долю,
 пакуль я жывы.
Тут войны ня раз засявалі ральлю.
Чужых і сваіх
 сьмерць няшчадна касіла.
Сьпяць воі пад вартай бярэзін пахілых.
А кветкі ўпрыгожваюць нашу зямлю
наaова.
 Ня толькі на брацкіх магілах.
Нас мовы сваёй пазбаўлялі.
 Ды ўсё-ж,
хоць многае ўжо незваротна забыта,
яна з пракаветчная ўжытку ня зжыта.
І ў полі штo год
 каласуе ня «рож»,
а наша
сваё
жыццядайнае — жыта.
Галеюць утручаных рэк берагі.
Даўно пазьнікалі старыя стагі.
Ад сьцюжы няўмольнай,
 ад цяжкай тугі
згасаюць пра лета няпэўныя згадкі.
Але-ж —
 утравеюць нарэшце лугі,
і паша ўратуе галодныя статкі...
...У жыцце,
ў бусьлянцы,
у кветцы,
ў траве —
Жыве Беларусь.
Жыве!

*Артур Вольскі*

## Табэля алімпійскіх мэдаляў...

| Nation | G | S | B | Tot |
|---|---|---|---|---|
| Germany | 9 | 8 | 7 | 24 |
| Norway | 7 | 8 | 5 | 20 |
| Russia | 9 | 5 | 2 | 16 |
| Canada | 5 | 5 | 4 | 14 |
| Austria | 3 | 4 | 7 | 14 |
| Netherlands | 5 | 4 | 2 | 11 |
| U.S. | 5 | 2 | 4 | 11 |
| Finland | 2 | 3 | 5 | 10 |
| Italy | 1 | 6 | 2 | 9 |
| Japan | 4 | 1 | 3 | 8 |
| France | 2 | 1 | 3 | 6 |
| Switzerland | 2 | 1 | 3 | 6 |
| China | 0 | 4 | 0 | 4 |
| South Korea | 2 | 0 | 1 | 3 |
| Czech Rep. | 0 | 1 | 1 | 2 |
| Sweden | 0 | 1 | 1 | 2 |
| → Belarus | 0 | 0 | 2 | 2 |
| Bulgaria | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Denmark | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Ukraine | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Australia | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Belgium | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Kazakhstan | 0 | 0 | 1 | 1 |

***Жаночы рух***

«Беларусачка»

# Міжнародны экалагічны

***Напрыканцы мінулага года ў Мінску два дні працаваў міжнародны экалагічны саміт "Жанчыны ў зоне экацыду", арганізаваны Усебеларускім жаночым фондам святой Еўфрасінні. У нашай сталіцы сабраліся практыкі і навукоўцы, прадстаўнікі грамадскіх і жаночых арганізацый Беларусі, Расіі, Украіны, Малдовы, Літвы.***

Удзельнікі сустрэчы аднадушна сышліся на думцы, што ледзь не ўсю постчарнобыльскую Беларусь можна лічыць зонай экалагічнага бедства, а гэта, натуральна, выклікае вялікую трывогу жаночай грамадскасці. Акрамя таго, спецыялісты-медыкі нашай краіны прыводзілі уражлівыя лічбы выпадкаў забруджання атмасферы шкоднымі і небяспечнымі прамысловымі выкідамі, атручэння ядахімікатамі глебы, грунтовай і артэзіянскай вады. Падкрэслівалася, што ў выніку сярэдняя працягласць жыцця ў рэспубліцы скарачаецца, пагаршаюцца асноўныя паказчыкі здароў'я нацыі (напрыклад, утрая вырас сіндром дзіцячай анеміі, пашырыліся анкалагічныя, сардэчныя, іншыя цяжкія захворванні).

Выступоўцы, прызнаючы, што Беларусь прыняла на сябе галоўны удар чарнобыльскай катастрофы, заўважылі: цяперашняе экалагічнае становішча ў суседніх з намі краінах, перш за ўсё — у Расіі, на Украіне таксама стварае значную пагрозу чалавечаму існаванню, там ужо жанчыны, як і ў нас, на жаль, рэальна адчулі на сабе ўсё гэта.

Прадстаўнікі Беларусі акцэнтавалі ўвагу таксама на тым, што рэзкае абвастрэнне экалагічнай сітуацыі у рэспубліцы пасля Чарнобыля супала з крызіснымі з'явамі ў беларускай эканоміцы, якія прывялі да беспрацоўя.

З цікавасцю слухала аўдыторыя выступленні гасцей — прадстаўніц «Рабочага саюза Літвы» А.Яшынскене, Л.Крыжаноўскай (Украіна), В.Марару (Малдова). Глыбока кранула прысутных прамова нашай вядомай пісьменніцы Святланы Алексіевіч, творчасць якой непасрэдна закранае чарнобыльскую тэматыку і, у прыватнасці, жаночыя лёсы ў недаўняй айчыннай гісторыі.

На саміце падрабязна разглядалася экалогія асобных, найбольш напружаных і небяспечных у гэтых адносінах рэгіёнаў Беларусі — Наваполацка, Слуцка, Гродна, Гомеля. Закраналіся вельмі вострыя пытанні мэтазгоднасці ў рэспубліцы новых АЭС, суадносін экалагічных ведаў, экалагічнай прапаганды з рознымі бакамі развіцця гаспадаркі, навукі, культуры.

Заключным акордам міжнароднай экалагічнай сустрэчы стала прэзентацыя кнігі С.Алексіевіч «Чарнобыльская малітва». Аўтар сёлета названа пераможцай конкурсу «Жанчына года» у галіне экалогіі. Старшыня фонду св. Еўфрасінні пісьменніца Валянціна Коўтун уручыла Алексіевіч медаль св. Еўфрасінні Полацкай. За вялікі уклад у справу экалогіі Ганаровымі граматамі фонду ўзнагароджаны паэтэсы Данута Бічэль (Гродна) і дэпутат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Марыя Худая (Мінск). Прысутныя прынялі зварот да грамадскасці краін, прадстаўленых на сустрэчы.

І яшчэ. Як прынята ў кожнай душэўнай жаночай кампаніі, акрамя запланаваных пратакольных мерапрыемстваў хапала тут і шчырых сяброўскіх, сардэчных размоў за кубачкам кавы, гарбаты, на што Жанчына заўжды знойдзе час.

***Галіна ХОМІЧ.***



**Мар'ян ВІЖ**

Беларусачка. №1. 1998

# Маўклівая партытура

## Навагодняе апавяданне

З УСІМІ, хто лічыць, што зніклі даўно дзівакі, што прапалі так званыя «чудзікі», не пагаджуся ані. А думку сучасных прагматыкаў: звяліся дарэшты, маўляў, адарваныя ад зямлі летуценнікі, не праміну пахіснуць фактамі, якіх яшчэ, дзякуй Богу, хапае. Прадбачу, скептык не вытрымае: «Не цягні, выкладвай свае доказы. А там, як кажуць, паглядзім!»

Недаравальна марудзіць у спрэчках. Таму безэ капання ў памяці выбар спыню на яшчэ свежых падзеях, фарбы якіх пакуль не паспелі размыцца, паблякнуць. Вам прапануецца малатыповая ў сучасных варунках, з сантыментамі гарадская гісторыя, ціхія акорды якой загучалі раптоўна напярэдадні Новага года, якраз на Каляды. Асаблівасць наступная: гісторыя гэта ў значным сэнсе інтымная. Захоўваючы ананімнасць асноўных яе прататыпаў, не стану ўжываць іх імёнаў і прозвішчаў: толькі «Ён», толькі «Яна».

ЁН — зусім не стары. Хоць бы таму, што нярэдка чуе, як выпадковыя людзі звяртаюцца: «Малады чалавек...». Дадам, што асоба гэта некампанейская, за грашыма, чынам Ён ніколі не гнаўся, у вольны час чытаў запоем кніжкі ды пісаў для душы рамантычныя вершы.

І каб хто прадказаў, што неўзабаве Ён трапіць да зусім незнаёмай жанчыны ў госці, што — неверагодна! — на другі канец горада туды паімчыць без ваганняў, што нечаканы выпадак той будзе з неспадзяваным працягам, то ў адказ атрымаў бы рашучае: «Кіньце дурное!»

...Усё, як звычайна, пачалося амаль што з нічога. Прыяцель Сяргей — таўставаты дзяцюк-халасцяк, заўжды гатовы лёгка зрывацца ў любыя прыгоды, рызыкоўныя крайнасці — запрасіў на нейкія жаночыя імяніны, куды збіраўся са сваёй, як сам казаў, «краляй». Невядома чаму наш пустэльнік моўчкі паціснуў плячыма і згадзіўся.

У ПЯТНІЦУ вечарам, прыхапіўшы «кралю» з сынам-першакласнікам, яны апынуліся ў бітком набітым аўтобусе. Гэтым новым маршрутам наш герой не карыстаўся ніколі. Адвярнуўшыся ад людзей, глядзеў праз чорнае шкло на халодныя гарадскія агні, якія то наплывалі на дарогу чародамі, то павольна заставаліся ззаду, згасаючы ў далечыні. «Ікарус» ужо каціў па ўскраінах, дзе суцэльная сцяна забудовы вырасці не паспела, дзе між страхотнымі ў цемры панельнымі гмахамі глуха чарнелі нямыя голыя пусткі.

«Куды нясе мяне чорт? Еду вось, некуды еду... Навошта ўсё гэта? Навошта?», — паўтараў сам сабе Ён. Тым часам пасажыраў у салоне паменела, Ён прысеў ля акна. А месца побач хуценька заняла «краля», начапураная, як на прыдворны баль. Нервова цярэбячы загорнутыя ў цэлафан кветкі, тая стала нешта какетліва шчабятаць. Сусед абыякава, каб хутчэй адчапіцца, безуважна, ціха падтакваў. Затым спахмурнела падумаў : «Звязаўся з немаведама кім. Не хапала мне толькі гэтай балбатлівай, назойлівай лялькі. Ды й імянінніца, пэўна, цаца падобная. Куды нясе мяне чорт? Навошта ўсё гэта? Навошта?». Натуральна, Яго такія паводзіны могуць падацца крыху, мякка кажучы, дзіўнымі. Але ж варта ўлічваць, што гадоў дзесяць назад Ён атрымаў аглушальны ўдар ад жанчыны, з якой тады адважыўся звязаць лёс. Трагедыя не забылася, не адбалела. Баючыся мажлівых любых паўтарэнняў, Ён жанчынам звыкла ні на кроплю не верыў, успрымаў іх скептычна, таму і сур'ёзных знаёмстваў, як мог, пазбягаў. Нічога, зрэшты, тут новага: раз моцна апёкшыся, з перасцярогай астуджваюць сырадой.

...Гасцей сустрэла звычайнае, па сёння беднаватае гарадское застолле, дзе ўсё магазіннае, згатаванае спехам. Ні святочнасці, ні хоць бы якой урачыстасці зусім не адчувалася. Нават чырвоныя гваздзікі, трапіўшы ў крыштальны букетнік, імгненна застылі і згаслі, выглядалі як штучныя і нежывыя. За сталом з поснымі тварамі мумій кіслі ўсе: турбот і клопату кожнаму за цэлы тыдзень хапіла. Але ж галоўнае — у іншым. Пераборліваму Сяргею «краля» ўжо як след надакучыла, і цяпер з роспаччу ў чарговы раз канчаткова пераконвалася ў самых горшых сваіх прадчуваннях. Зрэшты, апошняе тут было відавочна для ўсіх. А прыветлівая, падкрэслена сціплая гаспадыня з парога зрабіла на героя нашай гісторыі абсалютна нулявое ўражанне, што сама, несумненна, адразу ж заўважыла... Справядліва сцвярджаюць: хараство любога хору — у майстэрстве дырыжора. А тут, як бачым, не знайшлося нават прэтэндэнтаў у харысты.

Цяжкую аднастайнасць парушалі толькі клапатлівая мітусня гаспадыні ды дзіцячыя воклічы, што даносіліся з суседняга пакоя, дзе захоплена гулялі малыя. Дарэчы, ад Росціка, сынка імянінніцы, — чарнявага першакласніка — Ён проста не мог адвесці вачэй. Той да болю нагадваў уласнага сына, з якім Ён даўно быў пазбаўлены магчымасці бачыцца. І сам хлопчык беспамылкова адчуў асаблівы да сябе інтарэс. Раз-пораз з цікавасцю заглядваючы ў залу, ён таксама спыняў позірк на нашым героі, вылучаў, несумненна, з дарослай кампаніі. А калі гаспадыня пачала ўжо прыбіраць са стала, Росцік, нясмела падступіўшы, сказаў: «Дзядзечка, я Новага года чакаю-чакаю! Ты ёлачку сюды прынясеш? — «Прынясу, а як жа, абавязкова», — сумнавата запэўніў «дзядзечка», механічна назваўшы нумар хатняга тэлефона... Бадай, толькі чыстая, дзіцячая непасрэднасць крыху згладзіла агульную панываць тых імянін, ціха адзначаных ў невялічкай кватэры на самым ускрайку вірлівага сталічнага горада.

ПАБЕГЛІ падобныя адзін да аднаго дні, з якіх складаліся такія ж самыя тыдні. Напярэдадні Новага года Ён прыхварэў, навалілася ўсё разам: прастуда, сэрца. Асабліва даймала бяссонніца, крыху падрамаць удавалася толькі вечарам. Якраз у тую пару патрабавальна зазвінеў тэлефон. На другім канцы провада з ім прывітаўся дзіцячы голас. «Хто гэта?» — спытаў Ён, няўцямна круцячы галавою. «Росцік я. Рос — цік, — адказвала трубка. — Вы ж на імяніны да маёй мамы прыходзілі, тэлефон свой далі ды ёлачку паабяцалі. Памятаеце? А Новы год — зусім скора!»

Калі па праўдзе, то Ён амаль забыўся ўжо на тую «мамку», на нядаўняе сваё абяцанне. Але ўявіў тварык хлопчыка і адмовіць не змог. «Абяцаў — значыць будзе. Чакай! Як у казцы, міргнуць не паспееш, прыедзе да цябе ёлачка», — цвёрда запэўніў Ён, запісваючы адрас. З усмешкай падумаў, што шукаць абяцанага не трэба, бо ўчора маці прынесла ялінку, якая мерзла цяпер на балконе. Апранаючыся, Ён доўга прыкідваў, як прасцей дабрацца да тых выселкаў. Але ўнізе прама пад ганкам чакала пустая таксоўка з уключаным зялёным агеньчыкам на лабавым шкле. Цуд проста нейкі, дзівосы, фантастыка! Ды, зрэшты, чаго не здараецца напярэдадні Новага года...

ТАКСІСТ трапіўся негаваркі, спытаў насуплена: «Куды едзем?» і змоўк. А Ён закляваў носам пад прыглушаны, манатонны рокат машыны і незаўважна заснуў. Таксі давезла куды трэба, акурат пад самы пад'езд. Ужо стоячы ля кватэры, дзе жыў Росцік, Ён незадаволена бурчэў, прыціскаючы да паліто абкручаную вяроўкай, калючую, нязручную ношу: «Нажыў сабе клопат. Прыехаць у цемры, амаль не ведаючы куды!»...

Адчыніла сама гаспадыня, якая ад здзіўлення аж збянтэжана адступіла: «Вы?!» — «Так, так, — гучна выпаліў Ён, атрасаючы з шапкі сняжынкі. — Абяцаў жа падарунак на Новы год Росціку, ды з галавы вылецела. Дзякуй, што хлопчык напомніў». — «Паверце, — нібы ў апраўданне запэўнівала жанчына, — гэта — уласная сынава ініцыятыва, я зусім ні пры чым тут. Росцік у суседзяў гуляе, адтуль, відаць, надумаўся турбаваць. Калі ласка, у хату, нічога, што ў мяне зараз калегі з аддзела.

Госць у замяшанні хвіліну-другую нерашуча таптаўся на месцы. Нядаўняя імянінніца з усмешкай узяла за рукаў. І хоць праз паліто нясмелага дотыку той не адчуў, яго імгненна з галавы да пят праняло токам. Стаў Ён што заварожаны, і ўсё далейшае ўжо неспадзявана ўспрымалася толькі праз нейкі дзівосна-нязвыклы вэлюм, нібы ў чароўным сне, з салодкіх абдымкаў якога зусім не хочацца вызваляцца...

«Калегі з аддзела» — чатыры цыбатыя, кожнай пад трыццаць, жанчыны. Плюс паважны сіваваты вусач, які без цырымоній усадзіў ля сябе новенькага. Жанчыны змоўклі, пераглянуліся і, як па камандзе, запытальна ўскінулі вочы на гаспадыню. А вось вусач прыкметна ўзрадаваўся, што мужчына ён цяпер тут не адзін. Нават шэптам прызнаўся суседу: «Працую разам з імі даўно, таму, мабыць, за сталом сумнавата. Будзе хоць з кім па поўнай чарцы кульнуць».

ЖАНЧЫНЫ як быццам зусім не звярталі ўвагі на нечаканага госця, гамонячы аб нечым сваім. Тым часам вусач шчодрай рукой падліваў, падліваў гарэлку суседу, сабе. Зноў жа шэптам адкрыў прычыну ўзятага тэмпу: «У цяперашняй сітуацыі нашы дамы далікатна трымаюць неабходную паўзу. Як выберуць момант, то разбягуцца адсюль. Вось убачыце...» Аказаўся ён празарліўцам, бо неўзабаве яны сапраўды адна за адной сталі спехам развітвацца. Наўздагон падаўся мажны вусач, які яшчэ больш пацяжэў, крыху ківаўся, асалавела мурkаючы пад нос напалову прыстойны, блазнаваценькі шлягер. На адыходак ён загадкава падміргнуў гаспадыні і, зажмурыўшы вочы, нават паслаў у паветра буську з прычмокваннем.

Яны засталіся адны. Забыўшыся на ўсё, позні госць неадрыўна глядзеў на Яе і не мог наглядзецца. Дальбог, не было ў гэтай маладжавай, падгалістай, як падлетак, жанчыне нічога такога, здаецца, што б зачароўвала, што адразу захапіла б у палон. Але шэрыя вочы Яе супакойвалі, бо ішло ад іх непаўторнае хараство...

Такога позірку Яна не вытрымала. Успыхнула, парывіста ўзвілася з месца. Каб развеяць няёмкасць, Ён ціха сказаў: «Спудзіў я, разагнаў вашу кампанію». — «Святая праўда, — з палёгкай адказала Яна і дадала: — Без мужа я ўжо шосты год, а тры жыву ў гэтай кватэры. На службе прывыклі, што чужых, нават суседзяў, у мяне не бывае. Таму любяць тут час ад часу збірацца, смела ідуць без папярэджання. А сёння — на табе, сенсацыйны сюрпрыз! Уяўляю, як дарогай язычкі чэшуць. Прабачце, я вас на хвіліну пакіну».

Бавячы час, Ён наблізіўся да кніжнай шафы. Міжвольна адзначыў, што кніжкі стаяць тут не дзеля фасону, што гаспадыня чытае шмат. На адной з паліц сустрэлася нават добра знаёмая «Руская геральдыка» А. Лікіера, упершыню выдадзеная ў мінулым стагоддзі, а цяпер выпушчаная камерцыйнай фірмай «Арс». Але чарговая кніга ў шыкоўнай вокладцы — тоўсты безназоўны фаліянт — выклікала поўнае неразуменне: пад каленкоравай вокладкай — адны ноты, над імі — дробны тэкст лацінскімі літарамі.

«Гэта — партытуры оперных партый, — з усмешкай растлумачыла гаспадыня, якая бязгучна вярнулася ў зальчык. — Раней — цяжка паверыць! — я марыла, што стану спявачкай, скончыла нават музычную школу, а працую звычайным канструктарам...»

З ПРЫХОЖАЙ данёсся мілагучны званочак. Росцік; не прывітаўшыся, усхвалявана пляснуў у далоні: «Прыехала, дзядзечка, ёлачка!» — «Так, так», — запэўніў той, раптам адчуўшы, што выпітае даецца ў знакі: у галаве зашумела, ногі зрабіліся як не свае. Быццам здагадаўшыся, што з госцем, Яна павяла сына ўкладваць спаць. З другога пакоя сюды даляцела прыглушанае, пяшчотнае, як калыханка, матчына абяцанне, што ўпрыгожваць ёлачку яны разам возьмуцца заўтра.

Яго неадольна пацягнула на сон, бо аб сабе нагадалі і хворасць, і выпітае. Павекі няўмольна зліпаліся самі. Гледзячы на гэта, гаспадыня толькі моўчкі ківала галавой. Ён спрабаваў з пятага на дзесятае нешта лапатаць у сваё апраўданне. А пачуў стрыманае: «Дамоў, на жаль, вам цяпер не дабрацца. Што рабіць, падрыхтую для вас канапку. Ды тэлефон свой дыктуйце, а я выскачу ў аўтамат, папярэджу, каб не хвалявалася ваша маці».

КОЛЬКІ спаў — Ён не памятае. Прачнуўся ад уласнага стогну: калола пад сэрцам. Паспрабаваў легчы інакш, але ў грудзях так запякло, што Ён ледзь не страціў прытомнасць. Хапіла сіл толькі, каб неяк устаць, каб, хістаючыся, давалачыся да дзвярэй суменжнага пакоя і асцярожна пастукаць. Гаспадыня, відаць, заснуць не паспела, мігам ускочыла, насцярожана спытала праз дзверы: «У чым справа?» — «Да-па-ма-жы-це!, па складах прашаптаў госць, знясілена асядаючы... Не бачыў ніхто, як спалоханая жанчына цягнула Яго да ложка, як паімчалася выклікаць «хуткую», як нахіляўся над хворым маладзенькі доктар у белым халаце.

Ачуняў Ён пасля ін'екцыі, ад моцнага эфірнага паху. Але вачэй расплюшчыць не змог. Пачуў толькі, як з іншага свету: «Вам глядзець лепш трэба за мужам. У яго востры сардэчны прыступ: тахікардыя. Дні два рухацца нельга. Пагоршае — набірайце нуль-тры». «Во, — паспеў падумаць Ён, — аказваецца, нас прымаюць за мужа і жонку. Сюжэт для аперэткі». І зноў праваліўся ў бездань...

Гадзіны праз тры Ён здрыгануўся і шчасліва адчуў сябе амаль здаровым. «Лягчэй? — спачувальна спытала Яна. — «Бяда мінавала. Дзякуй вам!» — адказаў з ложка Ён, пераконваючыся, што гаспадыня адсюль не выходзіла, што з кніжкай у руках так і прамарнавалася ў крэсле насупраць. — «Я прыслухоўвалася, як вы дыхаеце», — чамусьці шэптам удакладніла Яна... Яны памаўчалі, затым ціха гутарылі да самага світання. Аб чым? Не пытайцеся. Скажам толькі, што часу Ён і Яна не заўважылі ані, што было ім лёгка і хораша.

НОВЫ год яны сустракалі разам. Праўда, зусім акрыяўшы, Ён зноў трымаўся халаднавата. Засяроджана прасядзеў цэлую навагоднюю ноч перад тэлеэкранам, а ў шэсць раніцы стаў збірацца дамоў. У прыхожай гаспадыня прызналася:

— Хапіла ж я з вамі страху! Падумайце толькі, як гэта ўсё магло выглядаць. Неўзабаве складваецца завершаны лагічны ланцуг: вечарам да адзінокай жанчыны завальваецца візіцёр; якога яна толькі аднойчы бачыла. Ранейшыя госці, зразумела, знікаюць. Усё астатняе намаляваць сучаснаму абывацелю, спадзяюся, няцяжка. У выніку гаспадыня выклікае сярод глухой ночы «хуткую дапамогу», відаць, каб выратаваць змардаванага тут ёю ў гарачым запале свайго выпадковага візіцёра. Уяўляеце, хто тут жыве! Старонкі эратычных раманаў, найсмялейшыя кадры «відзікаў» проста ў бяссіллі паблякнуць. І ўсё, падкрэслю, пры тым, што нічога падобнага... не было нават блізка.

— Што было, урэшце, у вашай кватэры? — з чаканнем спытаў Ён.

— Была чароўная, але... маўклівая партытура, — з усмешкай адказала Яна.

І ў той міг у жаночых вачах з'явіліся неўтаймаваныя чорцікі. Іх загарэлася столькі, што Ён міжвольна, як ад раптоўнага, сляпучага сонца, прыжмурыўся.

Яны развіталіся, каб заўтра ўбачыцца зноў...

Ці выслалі Вы ахвяру на выдавецкі фонд газэты?

# Пошукі палітыкі, якой не было...

**Беларусь — адна з нешматлікіх постсавецкіх дзяржаў, не маючых значных этнічных і рэлігійных праблемаў. Ці захаваецца гэткі стан ў будучыні і якія захады да таго мусіць зрабіць урад — абмеркаванне гэтых пытанняў адбылося на нядаўнім пасяджэнні калегіі Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў.**

Паводле прадстаўленай на калегіі статыстыкі, рэлігійная сітуацыя ў канцы года мела наступны выгляд: колькасць зарэгістраваных рэлігійных супольнасцяў склала 2237 — на 117 больш, чым летась, і ў 2,6 разы больш, чым ў 1988-м годзе, калі дзяржава пачала пераглядаць сваё стаўленне да пытання свабоды сумлення, што дало магчымасць за апошнія дзевяць гадоў зарэгістраваць свае статуты 2149 рэлігійным аб'яднанням. Сёння ў краіне існуе шэраг агульнаканфесійных арганізацый: 34 рэлігійныя аб'яднанні з уласнымі цэнтрамі, 16 мужчынскіх і жаночых кляштараў, 9 брацтваў і 4 сястрынствы, 13 місій і 9 духоўных навучальных установаў. Колькасць веравызнанняў і канфесій за згаданы час павялічылася з 8 да 26, а цэнтральныя і мясцовыя органы дзяржаўнага кіраўніцтва перадалі ім шэраг вольных і вызваленых культавых пабудоў, аказалі дапамогу ў набыцці і прыстасаванні для патрэб вернікаў камунальных будынкаў. За апошнія гады рэлігійным суполкам было перададзена 1527 культавых будынкаў і яшчэ 174 будуюцца.

Разам з тым занепакоенасць Камітэта выклікае дзейнасць у Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцях шэрагу незарэгістраваных рэлігійных арганізацый і місій. На думку прадстаўнікоў урада, апарат Дзяржкамітэта не аказвае дастатковай дапамогі мясцовым уладам ў пытаннях выканання заканадаўства аб рэлігіях і цэрквах, у выніку чаго ў сталіцы і абласных цэнтрах не вядзецца дастатковай працы дзеля спынення дзейнасці дэструктыўных сектаў. Пытанне адсутнасці ў нацыянальным заканадаўстве тэрміна "дэструктыўная секта" і патрабаванняў барацьбы з ёй на калегіі не абмяркоўвалася.

Увагу прысутных прыцягнулі і праблемы, што вынікаюць з асаблівасцяў нацыянальна-культурнага складу насельніцтва дзяржавы. Было адзначана, што ў 1997 годзе ствараліся і ўдасканальваліся асновы сістэмы дзяржаўнага развіцця нацыянальных супольнасцяў краіны і рэгулявання міжнацыянальных стасункаў, а таксама кантактаў з беларусамі замежжа. Нягледзячы на тое, была адзначана наяўнасць асобных праблем у стасунках паміж часткаю нацыянальных аб'яднанняў і мясцовымі ўладамі.

Прычынамі адсутнасці поўнага вырашэння праблем нацыянальнага жыцця былі названы слабае інфармацыйнае і навуковае забеспячэнне дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, нязначнасць сродкаў, вылучаных дзяржаваю на патрэбы нацыянальных супольнасцяў, адсутнасць моцнай, забяспечанай і добра падрыхтаванай сістэмы дзяржаўнага кіравання нацыянальнай палітыкай, якая мае быць актыўнай і навукова абгрунтаванай.

Апошняй часткай пасяджэння стала абмеркаванне вынікаў рэалізацыі дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце". Разам са станоўчымі вынікамі яе рэалізацыі быў адзначаны недастатковы характар і ўзровень сувязяў з суайчыннікамі за мяжою.

Калегіяй былі прыняты шэраг рашэнняў, якімі ў сваёй далейшай дзейнасці будзе кіравацца Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. У прыватнасці, вырашана падрыхтаваць шэраг паправак да Закона аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях, а таксама новую рэдакцыю Палажэння аб парадку запрашэння і дзейнасці замежных святароў на тэрыторыі краіны. У сферы нацыянальнай палітыкі вырашана ўзгадніць і зацвердзіць канцэпцыю нацыянальна-культурнага развіцця этнічных супольнасцяў Беларусі ды падрыхтаваць канцэпцыю дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, якой, як можна зразумець, дагэтуль проста не існавала. Што да нашых суайчыннікаў за мяжою, дык ім у рашэннях калегіі была нададзена асаблівая ўвага. Новымі заданнямі Дзяржкамітэта сталі забеспячэнне лаяльнасці беларусаў замежжа да ўнутранай і знешняй палітыкі Беларусі ды выкарыстанне магчымасцяў іх аб'яднанняў для інфармавання сусветнай супольнасці аб падзеях у нашай краіне.

Апошняй урадавай ініцыятывай, скіраванай на падтрымку развіцця нацыянальных меншасцяў Беларусі, арганізацыі беларусаў замежжа, а таксама на духоўна-маральнае адраджэнне грамадства, стала зацвярджэнне палажэння аб Ганаровай грамаце Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. Ёю будуць адзначацца фізічныя і юрыдычныя асобы краю і замежжа, чыя дзейнасць будзе адпавядаць крытэрыям, вызначаным кіраўніцтвам Дзяржкамітэта.

**У. П.**

# Не спяшайцеся біцць у барабаны

«Народная Воля»

**Звычайна ў студзені "падбіваюць бабкі" года мінулага. У іх, нібы ў люстэрку, відаць і вынікі гаспадарання, і перспектывы. Вось чаму з такой цікавасцю чакаюцца даныя статыстыкі.**

**Днямі з'явіўся даклад Міністэрства статыстыкі і аналізу "Аб рабоце народнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь у студзені—снежні 1997 года". Гляджу ў гэта "люстэрка" і не знаходжу адказаў на пытанні, якія хвалююць вельмі многіх. Наогул, яно нейкае цьмянае, невыразнае, а часам так выпячвае некаторыя лічбы, што яны выклікаюць толькі падазрэнне.**

**Калі верыць таму, што там напісана, дык наша краіна развіваецца такімі высокімі тэмпамі, як ні адна ў свеце. Летась валавы ўнутраны прадукт прыбавіўся на 10 працэнтаў, выпуск прамысловай прадукцыі павялічыўся на 17,6 працэнта, тавараў народнага спажывання — на 21,2 працэнта, будаўніцтва жылля — на 26,9 працэнта, рознічны тавараабарот — на 19,6 працэнта...**

**Ну проста нейкія шалёныя тэмпы! Ды пры такіх прыбаўках жыццё павінна станавіцца, як мёд. Вунь нашыя суседзі — Польшча і Чэхія — дабіваюцца ў два-тры разы меншых паказчыкаў. Але ж там жыццё людзей паляпшаецца. Чаму ў нас пагаршаецца?**

**Я як разважаю: калі такі вялікі прырост выпуску прадукцыі, дык у дзяржавы павінен быць і прырост грошай за яе продаж. Чаму іх не выплачваюць людзям за іх нялёгкую працу? А калі і выплачваюць, дык тут жа і цэны ўздымаюць, каб такой маніпуляцыяй іх, значыць, і адабраць. Адсюль, выплывае пытанне: куды ж дзяваюцца вялізныя сродкі, выручаныя за вялізны прырост прадукцыі? Іх раскрадаюць? Ці іх наогул няма, а можа, проста нам дураць галаву "высокімі тэмпамі"? Вельмі хацелася б адшукаць адказ на гэтае пытанне.**

**І не толькі на яго. Вунь пішуць у дакладзе (стар. 34), што вытворчасць малака летась павялічылася на 6 працэнтаў, а яго закупкі — аж на 15 працэнтаў. Хацелася б даведацца, якога ж малака стала болей? Таго, што п'юць дэпутаты так званага Нацыянальнага сходу і якое тлустасцю 3,5 працэнта, ці таго, якое называюць хто "белай вадой", хто "народным пойлам", тлустасць якога ўсяго 1,5 працэнта? Калі вырас выпуск першага, дык чаму яго днём з агнём не знайсці ў магазінах? Калі другога, дык яго павелічэння дасягнуць няцяжка, бо вады ў нас хапае. Але ж навошта? Яго ж і каты ўжо не хочуць піць.**

**Спатыкаюся і на лічбах перавозкі пасажыраў. На 47-ай старонцы даклада чытаю: "Перавозкі пасажыраў аўтобусамі ўзраслі на 14 працэнтаў". А на 48-ай старонцы чорным па беламу напісана: "У 1997 годзе ў параўнанні з 1996 годам колькасць фактычна выкананых рэйсаў гарадскімі аўтобусамі павялічылася на 0,2 працэнта. Пры гэтым у 1997 годзе на гарадскіх маршрутах аўтобусамі не было выканана 403 тысячы рэйсаў, прадугледжаных раскладам (2,7 працэнта)".**

**Што ж атрымліваецца? Рэйсаў, выходзіць, было намнога меней, а людзей перавезлі аж на 14 працэнтаў болей. У гэта можна было б паверыць, калі б мы не бачылі, якімі перапоўненымі хадзілі аўтобусы і ў 1996 годзе. Як жа ў іх магло набіцца дадаткова яшчэ 14 працэнтаў пасажыраў?**

**Уражвае рост будаўніцтва жылля. Увод дамоў павялічыўся аж на 26,9 працэнта. Цікава, ці сталі карацейшымі чэргі на атрыманне кватэр? Статыстыка аб гэтым маўчыць. Затое, калі ўважліва яе пачытаць, можна адшукаць не мала таго, што пэўным чынам высвечвае сапраўдную сітуацыю.**

**За чые ж сродкі будуюцца кватэры? Доля дзяржаўных прадпрыемстваў у агульным уводзе жылля складае толькі 29 працэнтаў, калгасаў — 4 працэнты. Год назад доля першых была большай — 31 працэнт. Асноўная ж нагрузка прыпадае на жыллёва-будаўнічыя кааператывы (28 працэнтаў) і на індывідуальных забудоўшчыкаў (29 працэнтаў). Словам, большую частку жылля людзі цяпер будуюць самі. Вось такі клопат дзяржавы аб іх.**

**Ёсць тут яшчэ адзін нюанс. Вы бачылі, якія кватэры будуюць сабе начальнікі і камерсанты? Сапраўдныя харомы. Іхняя адна кватэра — гэта тры-чатыры звычайных. Так што калі лічыць гэтае пабудаванае жыллё ў квадратных метрах і сродках, затрачаных на яго, дык прырост можа быць і не малы. Але хацелася б даведацца, які прырост кватэр у штуках і ці зменшыліся чэргі тых, хто не мае даху над галавой?**

**Як бычым, лічбы гадавой справаздачнасці маюць ярка выражаную прапагандысцкую накіраванасць. Але нават і ў ёй, гэтай прыпудранай справаздачнасці, не ўдалося схаваць правалаў у жыццёва важных галінах. Так, бульбы сабрана летась толькі 64 працэнты да ўзроўню 1996 года, агароднiны — 98 працэнтаў, льновалакна — 53 працэнты.**

**Аб'ём валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі летась у цэлым скараціўся на 5,5 працэнта. У 1997 годзе ў параўнанні з 1996-ым зменшылася вытворчасць мяса на 4,8 працэнта, мукі — амаль на 2, маргарыну — на 10,6 працэнта, хлеба і хлебабулачных вырабаў — на 4 працэнты.**

**Людзі пачалі меней купляць асноўных прадуктаў. Так, пакупкі на рынках 12 буйнейшых гарадоў Беларусі рэзка зменшыліся. Летась у снежні ў параўнанні з гэтым месяцам 1996 года наведвальнікі прыдбалі свініны на 11,8 працэнта меней, сала — на 14,6 працэнта, птушкі — на 12,3 працэнта, яек — на 13,9 працэнта, мёду — на 41,4 працэнта меней. Знізіліся пакупкі капусты, яблык, мясных прадуктаў, ялавічыны.**

**Атрымліваюцца нейкія невытлумачальныя працэсы ў нашай эканоміцы. З аднаго боку, быццам бы расце выпуск тавараў, і значна, а з другога — людзі ўсё меней купляюць іх. Але ж такога ў нармальнай эканоміцы не бывае. Звычайна павялічваецца выпуск тавараў, калі ёсць на іх попыт.**

**Вялікі правал і ў самым важным комплексе — паліўна-энергетычным. Цеплавой энергіі атрымана на 2,2 працэнта менш, чым у 1996 годзе. Нафтаздабываючая прамысловасць мае толькі 97,5 працэнта да ўзроўню 1996 года, нафтаперапрацоўчая — 99 працэнтаў, паліўная прамысловасць — 99 працэнтаў. Паліўнага мазуту ёсць 94 працэнты да ўзроўню 1996 года.**

**Так што рана біць ў барабаны. Прыведзеныя лічбы красамоўна сведчаць аб тым, што добрай мелодыі не прыходзіцца чакаць і сёлета. Правалы ў базавых галінах — паліўна-энергетычнай і харчовай — адгукнуцца не песняй, а кашлем.**

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**



STATE OF ILLINOIS
OFFICE OF THE GOVERNOR
CHICAGO 60601

JIM EDGAR
GOVERNOR

December 19, 1997

Mr. Nicolas Prusky
Editor
Bielarusian Digest
1086 Forest Hills Avenue SE
Grand Rapids, Michigan 49546-3616

Dear Mr. Prusky:

As Governor of the State of Illinois, it is my pleasure to congratulate you on the 6th anniversary of your publication Bielarusian Digest.

Bielarusian Digest has provided countless Bielarusian Americans with an excellent source of national and community news. The ethnic media is a vital and integral part of our citizens' success in understanding different cultures. You can take pride in the many accomplishments that your publication has achieved.

On behalf of the citizens of Illinois, please accept my best wishes on this special occasion.

Best regards,

Jim Edgar

Jim Edgar
GOVERNOR

## ДЫК КОЛЬКІ НАС?

Як падае Міністэрства статыстыкі і аналізу, насельніцтва Беларусі на 1-га студзеня 1998 г. налічвала 10 мільёнаў 203 тысячы чалавек. За мінулы год лічба насельніцтва Беларусі зьменшылася на 33 тысячы чалавек...

*

Паводле Летувіскага падліку ў Летуве пражывае цяпер 55 тысяч беларусаў. Гэта 11/2% усяго насельніцтва краіны. Беларусы становяць чацьвертую групу пасьля летувісаў, рускіх(?) і палякаў... Паводле іншага падліку ў Летуве пражывае што-найменш 150.000 этнічных беларусаў...



"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!

# ПАЛЯВАННЕ НА РАСІЙСКАГА АРЛА

«Звязда»

**У блізкім часе ў Дзяржаўнай Думе Расіі адбудзецца чарговая дыскусія на тэму, якая добра знаёмая грамадзянам Беларусі. На мінулым тыдні расійскія дэпутаты ўключылі ў парадак дня сесіі пытанне аб дзяржаўнай сімволіцы. Уплывовая парламенцкая фракцыя камуністаў робіць яшчэ адну спробу вярнуць з небыцця савецкія сімвалы.**

Барацьба абяцае быць жорсткай і відовішчнай, а яе зыход у значнай ступені будзе сведчыць пра рэальную расстаноўку палітычных сіл у Расіі і пра цяперашнія грамадскія настроі расіян.

Фармальна перад думскімі камуністамі стаіць не такая ўжо складаная задача. Справа ў тым, што ні залаты двухгаловы імперскі арол, ні бела-блакітна-чырвоны сцяг, ні мелодыя Глінкі ўзаконенага статусу пакуль не маюць. У якасці дзяржаўных сімвалаў яны былі зацверджаны ўказам прэзідэнта Барыса Ельцына больш як шэсць гадоў таму, па гарачых слядах жнівеньскага путчу 1991 года. У 1991-1994 гадах Ельцын і яго аднадумцы ў парламенце рабілі нямала спроб дабіцца прыняцця адпаведнага закона, які б пацвердзіў канчатковае вяртанне гістарычнай сімволікі. Аднак пазіцыі дэмакратаў у Вярхоўным Савеце (а затым Думе) РФ паступова аслабелі і адпаведнае рашэнне прыняць не ўдавалася — яно кожны раз не набірала патрэбнай колькасці галасоў. Што да апошняй Думы, у якой камуністы прадстаўлены самай масавай фракцыяй, то яна, як бачым, сама перахапіла ініцыятыву і спрабуе дабіцца рэваншу.

Зразумела, расійскіх камуністаў натхняе беларускі прэцэдэнт 1995 года. Пры гэтым варта мець на ўвазе, што герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг, якія з верасня 1991-га па май 1995 года з'яўляліся дзяржаўнымі сімваламі, у свой час былі зацверджаны адпаведным законам. А вось жа змаглі пераадолець гэту акалічнасць ініцыятары рэферэндуму ў Беларусі. Дык чаму Думе, у якой за антыпрэзідэнцкімі сіламі — большасць, не паспрабаваць пераадолець ельцынскі ўказ?

Дыскусія, якая разгарнулася ў гэтыя дні ў расійскай прэсе, вельмі нагадвае дэбаты, што вяліся ў свой час у нашай краіне. Працүнікі гістарычных сімвалаў апелююць, як правіла, да часоў другой сусветнай вайны: маўляў, пад бела-блакітна-чырвоным сцягам дзейнічалі ўласаўцы ды іншыя калабарацыяністы, а двухгаловы арол — гэта сімвал імперыі, якая вяла экспансіяністую палітыку ў адносінах да суседзяў. Прыхільнікі ж гістарычных сімвалаў нагадваюць, што расійскаму трохколернаму сцягу ўжо 150 гадоў, а гербу, пазычанаму Расіяй у Візантыі, — 600. Двухгаловы арол заставаўся гербам дэмакратычнай Расіі нават пасля звяржэння царызму ў лютым 1917-га. (Праўда, пасля лютаўскай рэвалюцыі ў арла «знялі» з галоў імператарскія кароны і «адабралі» з кіпцюроў скіпетр і дзяржаву. У 1991-м гэтыя сімвалы імператарскай улады вярнуліся на выяву двухгаловай птушкі.)

Характэрна, што большасць дэмакратычных палітыкаў у Расіі не лічаць прэтэнзіі камуністаў сур'ёзнымі. Пасля таго, як гістарычныя сімвалы на працягу апошніх шасці з паловай гадоў трывала ўкараніліся ў грамадскім ужытку, занялі дастойнае месца на новых расійскіх пашпартах, грашовых купюрах, манетах, шыльдах, бланках, пячатках, у вайсковай і міліцэйскай форме, — вяртанне да савецкіх сімвалаў многім падаецца дарагой авантурай, якая немагчымая ўжо хоць бы з прычыны разважнага сэнсу, фінансавых выдаткаў. Аднак той жа беларускі вопыт сведчыць, што гэта перашкода пры адпаведнай палітычнай волі не з'яўляецца непераадольнай.

Цікава, што дыскусія вакол сімвалаў здольная ўнесці пэўную трывогу ў адносіны паміж Беларуссю і Расіяй у рамках Саюза. І справа тут не толькі ў тым, што расійскія камуністы ўзялі на ўзбраенне беларускі вопыт, што ўжо само па сабе выклікае пэўныя асацыяцыі ў Крамлі. Варта звярнуць увагу на тое, што думскія камуністы прапануюць у якасці новага гімна РФ вядомую мелодыю Аляксандрава, што была гімнам СССР («Союз нерушимый республик свободных...»). Яны нібы забыліся, што ў Брэсце адначасова разам з беларускімі дэпутатамі зацвердзілі гэту мелодыю ў якасці гімна беларуска-расійскага Саюза — і нават пачыналі з яе сваё пасяджэнні.

У нечым падначаленых Генадзя Селязнёва можна зразумець: у свой час РСФСР уласнага гімна не мела, і таму іншай альтэрнатывы мелодыі Глінкі як быццам і няма. Але ж нельга так дэманстратыўна ігнараваць саюзныя рашэнні і меркаванне саюзнікаў.

Што да іншых сімвалаў сацыялістычнай Расіі, то яны ў эпоху СССР былі створаны паводле савецкага стандарту. Праўда, герб вылучаўся аскетызмам: ніякіх упрыгажэнняў, акрамя стандартнага сярпа з молатам і хліпкага вянка з каласоў, на яго выяве не было. Што да сцяга РСФСР, то ён, як і сцяг БССР, нарадзіўся ў пасляваенныя гады, калі з'явіўся шанц на прыняцце шэрагу савецкіх рэспублік у ААН у якасці паўнапраўных членаў. Праўда, чырвонае палотнішча з вертыкальнай блакітнай паласой ля дрэўка (сцяг РСФСР) у Нью-Йорку ля будынка ААН так і не з'явілася, — у ААН былі прыняты толькі БССР і УССР.

Можна чакаць, што прэзідэнт Барыс Ельцын зробіць усё магчымае, каб савецкія сімвалы ў Расію не вярнуліся. Для яго, прыйшоўшага да ўлады ў 1991 годзе на хвалі барацьбы з камунізмам, гэта — пытанне прынцыповае.

А для камуністаў гэта таксама, бадай, апошняя магчымасць хаця б на ўзроўні сімвалаў дабіцца рэваншу, прадэманстраваць электарату сваю моц, набраць ачкі ў новай перадвыбарнай кампаніі.

Не даводзіцца сумнявацца: нават калі Дума здолее прыняць закон аб вяртанні савецкіх сімвалаў, Барыс Ельцын не толькі не падпіша яго, але і паспрабуе дабіцца, каб парламент не змог пераадолець прэзідэнцкае вета. А двухгаловы арол і трохколерны сцяг прадоўжаць сваё не зусім паўнацэннае існаванне, чакаючы, пакуль Дума ў Расіі стане не такой чырвонай.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# "Ружовы туман"



РАЗДЗЕЛ З ГІСТОРЫІ ТАТАЛІТАРЫЗМУ

Магчыма, яшчэ не сёння, а з якой-небудзь іншаю "перастройкай", але беларускі народ абавязкова развітаецца з таталітарнай савецкай культурай, якая паўстагоддзя лічыцца ў нас культураю нацыянальнай. Так будзе, бо так адбылося ва ўсіх народаў, якія на нашых вачах вылузаліся з наменклатурнага камунізму. Але й сёння нам ужо дастаткова досведу, каб асэнсаваць гэтую з'яву.

Беларуская савецкая культура па сутнасці сваёй не мела нічога агульнага з нашай нацыянальнай культурай, заснаванай на глыбокіх традыцыях, падпарадкаванай нацыянальным інтарэсам і скіраванай да найвялікшае нацыянальнае мары — незалежнасці. Гэта быў яе сатаністкі антыпод, які забіў і заглушыў беларушчыну, заняўшы ейнае пачэснае месца. Ілжывая вартасць уласна савецкіх твораў вытлумачвалася лжываю ідэалогіяй, хоць самі гэтыя творы не рабілі нам гонару ў шырокім свеце. Падступны амаралізм партыйнае палітыкі выяўляўся ў тым, што сацрэалістычная хлусня падавалася менавіта як беларушчына і менавіта як да беларушчыны, да яе выхоўвалася **любоў**. Ніякім іншым спосабам убіць гэта ўсё ў галовы людзей было немагчыма. І таму быў абраны самы каварны метад. Пры гэтым добрыя дзве трацїны твораў беларускае культуры давялося замоўчаць.

Што праўда, і ў гэтым каварстве людзі часта распазнавалі фальш. І тады з'яўляліся іранічныя трындушкі пра тое, што "Пятрусь Броўка піша лоўка" або пра тое, што "Добра трымаўся юнак на дапросе, усё расказаў — і што знаў, што не знаў. Вораг жандар дакурыў папяросу і камсамольскую руку пажаў"...

Але што заўтра мы мусім рабіць з усёй гэтай неабдымнай спадчынай сацрэалізму? Зразумела, мы не станем адмаўляць і хаваць яе так, як яна сама ў свой час адмовіла і схавала сапраўдную беларушчыну. Але мы мусім аднесці яе да адпаведнага ёй раздзелу **іншае** дысцыпліны — "Гісторыі таталітарызму ў Беларусі".

●

Сёння ў Вільні спрачаюцца вакол ідэі музея таталітарнае скульптуры. Адныя прапануюць паставіць усіх ленінаў і сталінаў у двары былога КДБ, у будынку якога размясціўся суд. Іншыя супраць. Іх галоўны аргумент такі: як людзі будуць даваць у судзе паказанні, бачачы ў вакне Леніна?

У гэтай палеміцы найвастрэй выявілася якраз тое, што сацрэалістычныя шэдэўры паводле ўздзеяння на чалавека — гэта не культура і з іх не можа вырасці новы, нармальны культурны кантэкст. Зразумела, фармалістычныя знаходкі могуць сустракацца і ў прадметах сатаністкага культу, чым па сутнасці і была беларуская савецкая культура.

"Думаю, што многія з нас, савецкіх літаратараў, людзей партыйных, мараць калі-небудзь напісаць вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна, кожны ў сваім жанры."

Іван Шамякін

...Як можна даваць паказанні ў судзе, бачачы ў вакне каменнага Леніна? — уражана пытаюцца ў Вільні. Суд судом. Але як можна жыць, штодня сустракаючы каменных і бронзавых ленінаў проста на вуліцы і на пляцы? Як не зблытаць эпохаў? Як выйсці з гэтага, паводле Васіля Быкава, ружовага туману?

Магчыма, Быкаў стаў тым пісьменнікам, які першы выйшаў з ружовага туману. Фігуральна кажучы, з Коласам беларуская літаратура ўвайшла ў гэтую хмару, надоўга згубілася ў ёй, а з Быкавым выйшла. Яшчэ не ўся. Надта цяжка ёй гэта даецца.

Натуральнае пытанне — а што ж рабіць з тымі сотнямі літаратараў і дзесяткамі класікаў, якія цалкам упісаліся ў савецкі перыяд? Выбіраць з іхнае творчасці тое, дзе не згадваюцца дыктатары? Але гэта немагчыма. Бо флюідамі таталітарызму прасякнутыя нават кнігі тых аўтараў, на якіх учора гадаваліся сённяшнія незалежнікі і дэмакраты. Не сакрэт, што ў савецкія часы нават паэма "Ленін думае пра Беларусь" магла выклікаць нацыяналістычныя пачуцці.

Пакінуць усё на водкуп чытачу? А школьныя праграмы, дзе й цяпер поўна чалавечных бальшавікоў, якія вяршаць свае акты справядлівасці — раскулачванне, выкрыццё шпіёнаў і сабатажнікаў, хвацкія расстрэлы?..

***На золаце — ўзняты Кастрычніка сцяг,***
***Прасторы бязмежныя, ясныя,***
***Да сонца шырокі пракладзены шлях,***
***Багатыя нівы калгасныя...***

Максім Танк

Пакінуць усё на водкуп рынку? Але з выдаленнем савецкага кантэксту многія матывацыі ўчынкаў ды й проста рэаліі становяцца незразумелымі сучаснаму чытачу. Рынак адкідае гэтую літаратуру. А як быць з яе відавочным амаралізмам, няшчырасцю або перавернутым разуменнем свету?

***Камуністы — гэта слова, як са сталі,***
***Камуністы — гэта слова, як з агню.***
***Маркс і Энгельс нам імя такое далі***
***Сто гадоў таму назад урэшыню.***

Аркадзь Куляшоў

Эстэтычна гэта сапраўды не літаратура, а прадметы сатаністкага культу. І зусім неабавязкова, каб там пісалася пра сацыяльныя чысткі. Калісьці Анатоль Сідарэвіч сказаў мне па сакрэце, што далі б яму волю, ён бы з дзевяці тамоў Броўкі выбраў некалькі дзесяткаў "крэпкіх" вершаў і атрымаўся прыстойны зборнік. Але ён казаў мне тое гадоў пятнаццаць назад. Сёння, думаю, трэба было б зноў адбіраць — ужо з таго выбранага зборніка. Заўтра — з сённяшняга. І так — да нуля.

Калі мы разумеем гэта, дык навошта займацца гэтымі пераборкамі?..

***Дык хто мы?***
***Песняры ці хлусняры?***
***Я добра жыў:***
***Пакутваў і спагадваў,***
***Я веру Леніну***
***З дзіцячае пары...***
***Няхай агнём бязлітасным гарыць***
***Свет бюракратаў, махляроў і гадаў.***

Пімен Панчанка

Амаралізм у генах, у крыві гэтага антымастацтва. Вы можаце чытаць пра вясковыя сантыменты або сцэны кахання, захапляцца лёгкасцю пяра, празрыстасцю апісання, але пры гэтым атрымліваць тыя самыя метастазы сатанізму. Бо оды Сталіну, чэкістам і партыі — гэта не маскіроўка або непаразуменне гэтых пісьменнікаў. Гэта іх шчыры стан душы, нават у момант замілавання прыродай. Гэта ружовы туман.

Апаненты звычайна кажуць, што адбор прывядзе да збяднення літаратуры. Але гэта збядненне для тых, хто сумуе па савецкай іерархіі. Адсюль непапулярнасць літаратуры, яе разбэрсанасць, нявыстраенасць і некандвертабельнасць. Яна, поўная "дарагіх усім" імёнаў, нікому непатрэбная. Прычым творцы ружовага туману перабльтаныя ў ёй з сапраўднымі класікамі і разбураюць тую сапраўдную іерархію, якая мусіць выбудоўвацца сёння.

У самай апошняй анталогіі беларускай паэзіі, якая выйшла ў 93-м годзе цытаваныя вышэй вершы выдрукаваныя ў адным томе з творамі Геніюш. Вершы забітых чаргуюцца з вершамі апявальнікаў забойства. Няма ніякай іерархіі.

Збядненне літаратуры — міф. Калі яно й ёсць, то выяўляецца ў замоўчванні або стрымліванні рэальных шэдэўраў. Ніхто не будзе сёння чытаць усяго Коласа, але дасавецкі Колас складаецца з патэнцыйных бестселераў. Колькі ні выдаюць "Вянок" Багдановіча ў адным шэрагу з кнігамі савецкіх паэтаў, а "Вянка" не купіць. Гэты, дарэчы, галоўны бестселер беларускай літаратуры XX ст. проста не выдаецца адпаведнымі накладамі. Як і шмат чаго іншага.

Абсалютна чысты пісьменнік Максім Гарэцкі, ніяк не падпалы ружоваму туману. Пасля ягонага расстрэлу цэлы перыяд беларуская літаратура хавалася на эміграцыі, да выдатных твораў якой нашая крытыка толькі падступаецца. Нічога не вылучыш з кніг Броўкі, Глебкі і нават яшчэ блізкіх Мележа, Танка... Там паўсюль ёсць або няпраўда, або метастазы сатанізму, ачалавечвання бесчалавечнасці. Разумею, што сказанае надта не супадае са стэрэатыпамі згаданых творцаў, але раю перачытаць іхнія кнігі. Калі вы самі выбраліся з савецкага кантэксту, з ру-

жовага туману, вам гарантаванае суцэльнае расчараванне.

Сёння пакутліва выбіраецца адтуль і Янка Брыль, для якога гэты найважнейшы акт прыпадае на час, калі пісьменнік ужо стаў жывым класікам.

Калі казаць пра маладзейшых літаратараў, то іх выбар таксама вырашаецца сёння. Нехта з іх ніколі не пісаў пра самага чалавечнага чалавека, а нехта, магчыма, толькі збіраецца гэта зрабіць. Нязэўнасць сітуацыі і панаванне рэжыму, які дэкларуе вяртанне СССР, слабейшых уводзіць у спакусу. Менавіта таму для гісторыка літаратуры сёння вельмі добра відзён пачатак хваробы — уваходжанне ў зону каламуці, але яшчэ такі мала выразны канец — выхад з гэтае зоны.

У Савецкай Беларусі былі свае спосабы "пераацэнкі каштоўнасцяў". Вымаліся, напрыклад, усе вершы Купалы, прысвечаныя Сталіну. Але тут ніхто не казаў пра збязненне Купалы. І каго гэта сёння хвалюе, акрамя пяці спецнавукоўцаў. Паводле гэткае логікі, цяпер мы мусім выняць Леніна з ягонымі паплечнікамі, кампартыю з яе роляю, прычым выняць як з тэксту, так і з кантэксту. Але такая "зачыстка" — гэта таксама метад таталітарнага рэжыму. У нашым жа выпадку даводзіцца сцвярджаць, што ўся беларуская савецкая літаратура — гэта не раздзел беларускай літаратуры, а раздзел іншае дысцыпліны. Мы мусім не выбіраць, а зрабіць свой адзіны маральны выбар. Развесці па розных кнігах.

Яшчэ адзін міф беларускай савецкай літаратуры — гэта яе эстэтычныя здабыткі. "Пахне чабор", "Сцяг брыгады", "Атланты і карыятыды"... Але перачытайце гэтыя творы сёння. Зразумела, што ў свой час, калі існавала адпаведная сітуацыя для ўспрымання такой эстэтыкі, гэтыя творы па-свойму выдатна дапаўнялі "Марш энтузіястаў" і Пастанову аб далейшым паляпшэнні палітыка-выхаваўчай работы. Але сёння гэтага кантэксту няма ці, дакладней, амаль няма. І ўжо нічога не вытлумачвае тыя або іншыя пачуцці Броўкі, або Пысіна, або Панчанкі. Выраз "Ленін думае пра Беларусь" успрымаецца як крывавае фатальнае таўро на нашай гісторыі XX ст.

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

Іван ЧЫГРЫН

* * *

Рускія вызвалялі ад палякаў.
Палякі вызвалялі ад рускіх.
Вызвалялі швэды,
Вызвалялі французы,
Вызвалялі немцы.
І хто нас толькі не вызваляў?
А мы як былі нявольнікамі,
Так і засталіся.



*Рисунок Игоря КИЙКО*



Мал. А. ПАПОВА.

## Польшча хоча сябраваць з усходнім суседам. Але пад парасонам НАТА

"ЛіМ"

Расія нязменна цікавіцца Польшчай, але і палякі не застаюцца ў даўгу. Пра гэта гаварыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Расійскай Федэрацыі Анджэй Залуцкі ў эксклюзіўным інтэрв'ю "Литературной газете" (N 38). На пытанне карэспандэнта, ці так ужо радыя палякі незалежнасці, якую яны атрымалі пасля распаду сацыялістычнага лагера, Анджэй Залуцкі не без гонару адказаў, што пачуццё любві да свабоды ўвогуле тыповае для свядомасці палякаў. "Да гэтага нас прывучыла гісторыя, — патлумачыў ён. — Наша краіна размясцілася ў такім рэгіёне на карце Еўропы, які заўсёды быў транзітным для ваенных паходаў з Захаду на Усход і з Усходу на Захад. Так, былі ў нас перыяды незалежнасці, але былі і такія, калі Польшчы ўвогуле не існавала на карце. Былі гады, калі на польскай зямлі нават размаўляць па-польску забаранялася. Польская нацыянальная культура тады дзейнічала ў падполлі. Зразумела, гэта наклала свой адбітак на псіхалогію палякаў. Краіну агароджвалі чужыя платы — прускі, аўстрыйскі, расійскі, а потым гітлераўскі, а потым савецкі. У перыяды падзелаў Польшчы народ падвяргаўся то германізацыі, то русіфікацыі. А ўсё ж мы нязменна заставаліся палякамі". Анджэй Залуцкі лічыць, што ў гэтым перш за ўсё дапамог касцёл. Менавіта ён адыграў агромністую ролю ў абароне нацыянальнай культуры. Ён дапамагаў захоўваць традыцыі, вобраз мыслення, родную мову.

"А яшчэ, — падкрэсліў польскі дыпламат, — у гэтым зберажэнні адыграла вялікую ролю традыцыйная польская сям'я, якой у нас надаюць вырашальную ролю ў нацыянальнай самасвядомасці. А ў сям'і найперш — жанчына. Са старажытнымі калыханкамі ў вушы дзетак уваходзілі наша мова і наша самабытнасць".

На пытанне, ці ўзнікае зараз перад насельніцтвам краіны, якая пасля вайны фактычна была сатэлітам Савецкага Саюза, праблема ўваходжання ў еўрапейскі вобраз мыслення, менталітэт, а таксама чаму Польшча гэтак імкнецца ў Паўночна-Атлантычны саюз (НАТА), няўжо па-ранейшаму баіцца традыцыйных імперскіх амбіцый Расіі, польскі дыпламат адказаў, што ягоная краіна ўвогуле была звязаная з Захадам здаўна. Часам нават каралёў мела агульных. А падзелы Польшчы ў дадатак яшчэ і нязменна пашыралі польскую эміграцыю — у Францыі, ЗША, Канадзе. Нямала палякаў пакінулі радзіму пасля таго, як у краіне запанаваў прасавецкі рэжым, але ж і тады духоўныя сувязі не парываліся. Што да боязі суседа на Усходзе, заўважыў Анджэй Залуцкі, то сапраўды, гэта ў свядомасці палякаў існуе. Старэйшыя пакаленні добра памятаюць, як камандавала Масква. Савецкія танкі пастаянна знаходзіліся на зямлі "брацкай Польшчы"... Зараз іншым разам гавораць пра русафобію ў Польшчы, працягвае ён, так, яна сустракаецца... Вядома ж, палякі не маглі спакойна бачыць па тэлевізары кадры дымных руін Грознага. Думалі: а гэтак жа могуць і ў нас!

Што да НАТА, сказаў Анджэй Залуцкі, то не трэба думаць, што тут нейкая прыхаваная агрэсіўнасць, у Польшчы ўвогуле цывільны міністр абароны, а парламент строга кантралюе фінансавыя сродкі на армію. Знаходзячыся ў сістэме Варшаўскага дагавора, Савета Эканамічнай Узаемадапамогі, Польшча падобных дэмакратычных заахадаў не магла сабе дазволіць і блізка. А НАТА — адзіная еўрапейская структура, якая можа даць рэальную гарантыю і нацыянальнай бяспекі, і многіх іншых магчымасцей для развіцця краіны на сучаснай цывілізаванай аснове, зазначыў польскі пасол у Расіі. У той жа час ён падкрэсліў вялікую каштоўнасць культурнага і навуковага абмену Польшчы з Расіяй. Трэба ўстанаўліваць і новыя кантакты дзеячаў культуры, журналістаў, пісьменнікаў. Дзве ж суседнія культуры здавён узбагачалі адна адну. Навошта ж ад гэтага адмаўляцца? Тое ж і эканамічныя сувязі: яны павінны стаць больш шырокімі, упэўнены польскі пасол.

**Падрыхтаваў У. А.**

# Два лісты ў жыцці Якуба Коласа

**Пра нашага славутага земляка Якуба Коласа, ягоныя творы напісана сотні розных дысертацый, выдадзена манаграфій і кніг. Але Колас – волат, і ўсяго да канца пра яго проста не скажаш. У апошнія гады з'явіліся публікацыі, што сведчаць: дагэтуль многія факты з жыцця і творчасці нашага класіка замоўчваліся – у прыватнасці, пра той крызіс, які ён перажыў у 20-ыя гады, калі зразумеў, што "кавалі ўжо новыя, а ланцугі старыя"; пра яго драму ў 30-я, калі ў ягоным доме праводзіліся вобыскі, а жыццё вісела на валаску; пра тое, што ён мусіў часамі пісаць не так, як хацеў; урэшце – пра ягоны пратэст супраць улады напрыканцы жыцця...**

**Наш суразмоўца сёння – чалавек, які, бадай, найбліжэй і найбольш ведае Якуба Коласа. Гэта – ягоны сын, доктар фізіка-матэматычных навук Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч.**



Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч.

***-- Міхась Канстанцінавіч, што ж выбухнула ў Коласавай душы ў 1956 годзе, чаму і з чым ён пайшоў у тагачасны ЦК КПБ? Ягоны перадсмяротны ліст доўга быў невядомы публіцы...***

— Бацька не проста доўга, а вельмі доўга выношваў задуму напісаць ліст у ЦК КПБ. Яго, хто поплеч з Янкам Купалам на пачатку стагоддзя ствараў беларускую літаратурную мову, глыбока хвалявала, што пасля XX з'езда КПСС, калі скончылася чорная сталіншчына і многае ў савецкім грамадстве змянілася ў лепшы бок, адносіны да беларускай мовы ў Беларусі зусім не палепшыліся. А бацька, можа, як ніхто іншы, глыбока адчуваў, што мова народа – гэта яго душа, светапогляд, нацыянальны падмурак, сённяшні і заўтрашні дзень нацыі і дзяржавы.

Помню, той ліст быў закончаны 25 чэрвеня 1956 года, а аднесены ў ЦК КПБ 13 жніўня. Колас вярнуўся пасля дахаты, павіншаваў унучку, маю дачку, з днём нараджэння і сказаў, што хоча падняцца на другі паверх, у свой кабінет, дзе ў хуткім часе за рабочым сталом і памёр. Той ліст, што бацька занёс у ЦК, — прапаў. І калі б не копія, то ён мог бы і бясследна знікнуць. А тагачасныя ўлады рабілі ўсё насуперак таму, чаго хацеў Колас, палітыка дэнацыяналізацыі набірала моц.

Праўда, тут, у нас, не асмеліліся зрабіць тое, што ў Маскве ў тым жа 1956 годзе зрабілі з Аляксандрам Фадзеевым. Фадзееў напрыканцы жыцця напісаў ліст у ЦК КПСС, дзе патрабаваў, каб, нарэшце, перасталі кіраваць літаратурай неадукаваныя партыйныя чыноўнікі. А калі пазней па пэўных прычынах ён скончыў жыццё самагубствам, то яго, "самага пралетарскага і партыйнага", не пашкадавалі, абвясцілі чорным алкаголікам. Коласа не маглі абылгаць, ягоны аўтарытэт у народзе быў вельмі вялікі, але з ім паступілі інача – фактычна скралі ягоны ліст.

***— Перадсмяротны ліст Вашага бацькі ў ЦК КПБ не вырашыў таго, на што быў разлік. А ці былі лісты, што ратавалі жыццё Якубу Коласу? Скажам, такое сцвярджалася пра ліст былога першага сакратара ЦК КПБ Панамарэнкі да Сталіна, у якім ён нібыта выступіў у абарону Купалы, Коласа, іншых пісьменнікаў.***

— Гэта – легенда самога Панамарэнкі і тых несумленных літаратараў, якія былі блізкія да яго. У нас былі апублікаваны многія лісты і іншыя матэрыялы наконт таго ж Панамарэнкі. Дык вось, мы ўведалі не зычлівы, а жахлівы ягоны ліст Сталіну, дзе ён паклёпнічаў на Якуба Коласа і Янку Купалу, абзываючы іх "нацыянал-фашысцкімі недабіткамі", пытаўся, што з імі рабіць. Расказвалі, што Панамарэнка, прыехаўшы да нас, у Беларусь, вывучаў беларускую мову, гісторыю і культуру. Мабыць, гэта было так, але цяпер мы ведаем: ён вывучаў не каб развіваць, а каб дабіць.

Дарэчы пра "нацыянал-фашызм". Цяпер, дзякуй Богу, гэты ярлык не ўжываецца. Але ўсё роўна нацыяналізм падаецца як нейкае вялікае зло. А між тым, пачытайце філосафаў, скажам, Ільіна альбо Бярдзяева: нацыяналіст – гэта чалавек, які шчыра любіць свой народ, родную мову, гісторыю і культуру і гатовы ахвяраваць да іх сваім (менавіта сваім!) жыццём. У бацькоў нас трое сыноў: Даніла быў хімік, Юрка хацеў быць географам, я – матэматык. І мы – нацыяналісты ў гэтым сэнсе. Такімі выхаваў нас бацька.

**Гутарыла Людміла ЧАПРОЎСКАЯ.**

## Зьлёт лукашэнкаўскіх слугаў...

У другой палове студзеня 1998 г. у Менску адбылася калегія Міністэрства Замежных Спраў. Паслы адзін перад другім выхваляліся сваімі дасягненьнямі на "беларускай дыпляматычнай ніве". Дарэчы пасол В. Цэпкало, які "представляет Белоруссию" ў Вашынгтоне, між іншых надуманых дасягненьняў, давеў да ведама прысутных, што яму ўдалося прадаць у ЗША саламяную беларускую лялькy за 15 тысяч даляраў. Брава пасол!..

На гэтай калегіі прысутнічаў і былы міністр Замежных Спраў Беларусі П. Краўчанка. Як ён пачуваў сябе сярод той публікі, якой кіруе ведамы прайдзісьвет Іван Антановіч, можна толькі здагадвацца... Трэба, аднак, памятаць, што гэтая публіка, — савецкія дыпляматы, дзе "за лукашэнкаўскім указам, усё з гаў... зьмяшалі разам..." (і. ц.)

«Адзіны выхад на спасеньне Беларусі заключаецца ў фармаваньні нацыянальна-вызваленчага руху. Ідэйная база для гэтага ўжо існуе...»

Беларуска-Літоўскай дзяржавы паміж Германскай імперыяй і Маскоўскім Вялікім княствам. Аршанская перамога паўплывала і на ход ваенных дзеяньняў. Да 1518 года маскоўскія войскі ўжо не нападалі на тэрыторыю Беларусі.

Бітва пад Оршай вывучалася ў вайсковых вучэльнях дарэвалюцыйнай Расіі. Як узор баявога майстэрства беларускіх рыцараў, прыклад вайсковага таленту К.Астрожскага і вельмі ўдалай аперацыі яна прыведзена ў Расійскай ваеннай энцыклапедыі (1914 г.).

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі. Яна цалкам упісваецца ў агульны шэраг гераічных перамог беларуска-літоўскага войска на працягу некалькіх стагоддзяў існавання самастойнай, незалежнай і моцнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы). 8 верасня — гэта Дзень беларускай вайсковай славы, які адзначаецца штогод беларускімі патрыётамі. Упершыню ён быў адзначаны ў 1992 годзе, калі на плошчы Незалежнасці сябры Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў, афіцэры Узброеных Сілаў Беларусі, афіцэры запасу і ў адстаўцы ўрачыста прынялі вайсковую прысягу на вернасць Беларусі і беларускаму народу. Гэтая дата стала ўвайшла ў нацыянальны беларускі каляндар.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,**
**прафесар, доктар гістарычных навук,**
**член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.**




("Літва")

*Крыху з гісторыі...*

# БЕЛАРУСКАЯ КРАЁВАЯ АБАРОНА (БКА)

23 лютага 1944 году ў кабінэце прэзыдэнта Беларускае Цэнтральнае Рады Радаслава Астроўскага была склікана таемная нарада для азнаямленьня з сакрэтным загадам начальніка штабу акругі "Беларусь" Готтбэрга аб стварэньні Беларускае Краёвае Абароны для барацьбы супраць бальшавізму. Пасьля кароткай дыскусіі над загадам была прызначаная дата мабілізацыі ў БКА — 10 сакавіка 1944 году. Галоўнае кіраўніцтва БКА хутка распачало падрыхтоўку да мабілізацыі і арганізацыі афіцэрскіх і падафіцэрскіх курсаў у Менску. 6-га сакавіка 1944 году прэзыдэнт Астроўскі падпісаў загад аб мабілізацыі ў БКА, у якім абвяшчалася:



"Для поўнай ліквідацыі бальшавіцкіх бандаў, якія рабуюць і нішчаць наш край, забіваюць нявіннае жыхарства і адбіраюць яго майно, — на аснове 2-га артыкулу статуту Беларускае Цэнтральнае Рады загадваю:

1. Арганізаваць Беларускую Краёвую Абарону для абароны нашай бацькаўшчыны Беларусі.
2. На дзень 7-га сакавіка 1944 году паклікаць у Краёвую Абарону ўсіх афіцэраў і падафіцэраў былых арміяў: царска- расейскай, польскай ды савецкай, як і добраахвотніцкіх з 1918 — 1920 гадоў і іншых, у акругах: Менскай, Слуцкай, Баранавіцкай, Слонімскай, Вялейскай, Глыбоцкай ды Наваградзкай. Гэтаму паклiканьню падлягаюць усе афіцэры ў веку да 57 гадоў і ўсе падафіцэры ў веку да 55 гадоў.
3. Адначасна паклікаць на службу ў БКА ўсіх мужчын, народжаных з 1908 па 1917 і з 1921 па 1924 гады, вызначаючы паклiканьне іх у акругах, пералічаных у пункце 2 на дзень 10 сакавіка 1944 году.
4. Паклiканьне ў акругах выконваюць намесьнікі Беларускае Цэнтральнае Рады, акруговыя начальнікі БКА ды старшыні паветаў.
5. Не пазьней як праз тры гадзіны пасьля абвяшчэньня гэтага загаду кожная асоба, падлягаючая паклiканьню, павінна скіравацца на зборны пункт у валасьці, вызначаны старшынёй валасьці, адкуль яна будзе скіравана ў павятовы цэнтар для мэдычнага агляду. Належыць узяць з сабою: вопратку і абутак у добрым стане, тры пары бялізны, прылады да ежы і мыцьця (лыжка, ручнік), асабістыя рэчы.
6. Тыя, хто па атрыманьні гэтага загаду ня зьявяцца ў вызначаным часе і месцы, будуць уважацца за здраднікаў і будуць асуджаныя адмысловым судом на кару сьмерці.
7. Я, як прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады буду асабіста наглядаць за арганізацыяй і паклiканьнем у БКА. Ад імя БЦР я ўскладаю кіраўніцтва справамі паклiканьня на маёра Ф. Кушаля.

Я ўпэўнены, што кожны беларус выканае свой абавязак у справе хуткага ачышчэньня нашай Бацькаўшчыны ад бальшавікоў, пасьля чаго асобы, пакліканыя гэтым загадам, змогуць вярнуцца да мірнае працы на гаспадарках, фабрыках ды заводах."

9-га сакавіка ўвечары ў большай частцы акругі "Беларусь" былі расклеяныя вялікія абвешчаньні аб мабілізацыі. Наступнай раніцы мабілізацыйныя камісіі распачалі сваю працу. На будынках, дзе месьціліся камісіі, былі ўзьнятыя беларускія сьцягі. Новабранцы масава пайшлі да мабілізацыйных камісіяў. З абшараў, занятых партызанамі, новабранцы прабіраліся ляснымі сьцежкамі. Мабілізацыя спаткала партызанаў непадрыхтаванымі. У некаторых мясцовасьцях яны варочалі новабранцаў назад да хаты. У іншых месцах яны казалі новабранцам ісьці ў БКА, браць зброю ды біць немцаў.

На працягу трох дзён мабілізацыя дала вельмі добрыя вынікі. Каля 40 тысяч чалавек прайшлі мабілізацыйныя камісіі. І гэта зрабіла вялікае ўражаньне. Пра гэта ня толькі казаў сам прэз. Астроўскі, але пісалі тагачасныя газэты. Мабілізацыя прайшла вельмі ўдала і толькі гаспадарчыя ўмовы не дазволілі дасягнуць яшчэ лепшых вынікаў. Наваградзкі акруговы камісар паведамляў, што на ягонай тэрыторыі загад аб мабілізацыі выкананы амаль цалкам, пры тым частка новабранцаў зьявілася нават з тых раёнаў, дзе гаспадарылі партызаны. За малым выключэньнем, так было паўсюль. Рэдкім дысанансам прагучала справаздача слонімскага акруговага камісара. Ён пісаў, што новабранцы хаваюцца ад мабілізацыі, аднак, магчыма, гэтым ён хацеў апраўдаць асабістае вельмі адмоўнае стаўленьне да такой акцыі. Кіраўніцтва польскага падпольля ўважліва сачыла за ходам мабілізацыі і атрымлівала інфармацыю аб яе масавым характары, а камандуючы Арміі Краёвай паведамляў: "Беларусы — цалкам за немцаў, пасьля апошніх уступак, большасьць з іх ідзе ў войска ахвотна". Аднак немцы не плянавалі стварыць 40-тысячнае войска, гэта пагражала зрывам у рабоце шмат якіх патрэбных для Нямеччыны прадпрыемстваў ды ўстановаў. З тае нагоды акруговыя камісары забракавалі больш 50% новабранцаў і адаслалі іх дамоў. Так ці іначай, 15 сакавіка ў шэрагі БКА ўлілося 19 тысяч чалавек. Пад канец сакавіка іх стала яшчэ болей — нешта каля 22 тысячаў. Да БКА было далучана і некалькі ўжо існуючых батальёнаў. Такім чынам, асабовы склад БКА напрыканцы сакавіка ўзьняўся да 26 тысяч чалавек, а праз паўмесяца з іх ужо было сфармавана 39 батальёнаў пяхоты, ад 500 да 600 чалавек у кожным. Батальёны былі разьмешчаныя па акруговых і павятовых цэнтрах. Адначасна былі арганізаваныя шэсьць сапёрных батальёнаў для патрэб направы дарогаў, чым у асноўным займалася нямецкая будаўнічая арганізацыя. Сапёрныя батальёны былі падпарадкаваныя нямецкай арміі, і БЦР ня мела далейшага дагляду ў справы гэтых фармацыяў. Яны атрымалі нямецкую ўніформу ды ўзбраеньне, аднак моладзь не хацела ісьці туды, а жадала быць у баявых батальёнах БКА. Сапёрныя батальёны былі разьмешчаныя: адзін у Барысаве, два ў Менску, два ў Слуцку і адзін у Баранавічах. Прадбачалася арганізацыя яшчэ пяцёх саперных батальёнаў, але гэта не было выканана.

У сувязі са складанасьцямі з мясцовым правіянтам, БКА была забясьпечаная нямецкім вайсковым харчаваньнем. Вопратку шэрагоўцы мелі сваю і яна хутка зношвалася, зброя была дрэннай якасьці ды ў малой колькасьці. Гэта былі італьянскія карабіны па 100 на батальён і 30 патронаў на карабін, некалькі польскіх альбо бельгійскіх кулямётаў, некалькі мінамётаў, трохі ручных гранатаў ды пісталеты для афіцэраў. Пазьней былі дададзеныя францускія, галяндзкія, расейскія і польскія вінтоўкі. Аднак адна стрэльба прыпадала на 6 альбо 7 чалавек.

Было відавочна, што немцы ня мелі даверу да беларусаў і не хацелі дапусьціць да стварэньня эфектыўнае беларускае збройнае сілы, бо летам 1943 году добра ўзброеная, у тым ліку артылерыі, танкамі, апранутая ў нямецкую ўніформу расейская брыгада пад камандай Радзіонава, якая стаяла ў мястэчку Лужкі, абстраляла з артылерыі і спаліла мястэчка Каралеўшчына каля Глыбокага, разьбіла нямецкія абаронныя бункеры і перайшла на бок партызанаў. Гэты факт меў для немцаў вялікую пераканаўчую вагу.

Факт тварэньня беларускае збройнае сілы рабіў свой уплыў навокал. Па закліку прэз. Астроўскага да партызанаў Случчыны, пакінулі лясы і здалі зброю каля 4500 мясцовых партызанаў.

25-га Сакавіка ў Менску на Катэдральнай плошчы (плошча Свабоды) адбылася ўрачыстая прысяга БКА ў паасобных батальёнах. Гэта былі курсанты афіцэрскай і падафіцэрскай школаў. Прысяга адбывалася ў прысутнасьці прэз. БЦР Радаслава Астроўскага, прадстаўнікоў нямецкае арміі, цывільнае адміністрацыі ды вялікага натоўпу народу.

Але складанасьці з правіянтам, недахоп зброі і вопраткі рабілі становішча ў БКА напружаным, ды партызанская прапаганда ня спала і ндзіва, што дысцыпліна ў войску зьніжалася, расло дызэртырства. Таму ў сярэдзіне траўня Астроўскі быў вымушаны прывесьці асабовы склад БКА ў адпаведнасьці з наяўнай зброяй. Так паступова зьмяншаўся першапачатковы склад гэтае вайсковае фармацыі і колькасьць добраахвотнікаў у апошнія месяцы акупацыі яшчэ больш зьнізілася. У другой палове траўня пачала паступаць зброя, і толькі цяпер усё яшчэ слаба ўзброеныя асобныя батальёны пачалі выкарыстоўвацца ў барацьбе супраць партызанаў. 15-га чэрвеня былі адкрытыя дадатковыя афіцэрскія курсы камандзераў БКА. Калі Беларусь была вызваленая ад нямецкіх акупантаў і перайшла ў рукі расейскіх акупантаў, тады разам з немцамі былі эвакуяваныя і некаторыя батальёны БКА. Некаторыя з адыходзячых батальёнаў, якія былі надужа добра надрыхтаваныя да вайсковых дзеяньняў ды мелі дрэннае ўзбраеньне, трапілі ў савецкі палон. Лёс трапіўшых у акружэньне жаўнераў амаль невядомы, але вядома, што літасьці да іх ня было.

Пасьля гэтае бібліяграфічнае даведкі пра гісторыю фармаваньня БКА мушу паставіць на ўвагу той факт, што жаўнеры БКА — гэта ня здраднікі, што яны ня былі прыслугоўцамі фашыстаў, бо для юнака ці ўжо сталага гаспадара, якія сьвядома ішлі ў шэрагі БКА, гэта вайсковая фармацыя была ня інакш як Беларускім Войскам, мэтаю якога было вызваленьне Беларусі ад савецка-партызанскае навалы.

Натуральна, што наступным крокам у справе вызваленьня было-б абвяшчэньне Незалежнае Беларусі, бо Астроўскі разумеў, што немцы хутка будуць пераможаны саветамі, і гэты час, калі нямецкія ўлады былі ўжо эвакуяваныя, а савецкія пакуль ня прыйшлі трэба было выкарыстаць. Гэтую сытуацыю разумела большасьць з тых, хто добраахвотна рушыў на мабілізацыйныя пункты.

Але пляны Астроўскага былі значна парушаны Готтбэргам, які таксама разумеў, дзеля чаго было ініцыявана стварэньне БКА. А інтарэсы Готтбэрга былі скіраваныя зусім у іншае рэчышча, бо, ствараючы гэтую вайсковую фармацыю, ён хацеў бачыць БКА у шэрагах нямецкае арміі і да таго-ж у невялікай колькасьці (штосьці каля 10 тысячаў). Бо летам 1943 году добра ўзброеная расейская брыгада... перайшла на бок савецкіх партызанаў.

Таму Ў БКА пасьля ўсіхператасовак засталося ўсяго некалькі дзесяткаў тысяч жаўнераў, частка з якіх потым цалкам перайшла пад нямецкае кіраўніцтва. Вось чаму адзіным выйсьцем у выпадку наступу савецкай арміі была абраная эвакуацыя. Хіба можна было сур'ёзна думаць пра супрацьдзеяньне мільённай наступаючай армадзе?

Яскравым прыкладам таго, як беларусы дзейнічалі пасьля эвакуацыі БКА, можа служыць Менская школа Камандзераў БКА, якая напрыканцы жніўня таго-ж году арганізавана перайшла да французкіх партызанаў... такім-жа чынам дзейнічалі шмат якія беларускія аддзелы, якія накіроўваліся немцамі ў Францыю (пасьля нямецкае кіраўніцтва накіраваньне аддзелаў БКА ў Францыю лічыла за памылку).

Але вядомую дывізію «Беларусь», якую ўзначальваў Ф. Кушаль, спасьцігнуў больш гаротны лёс. Пасьля таго, як яна арганізавана перайшла на амэрыканскі бок, па дамове амэрыканцаў з саветамі вялікая частка беларусаў трапіла як ваеннапалоныя ў бальшавіцкія рукі. І ўсе тыя, хто апынуўся ў савецкіх руках, былі рэпрэсаваныя. Сьляды іх далейшых крокаў, для шмат каго апошніх крокаў жыцьця, сёньня ўжо зацёртых, шукаць трэба пры сьценах бальшавіцкіх катоўняў, на шыбеніцах ці ў сьцюдзёных бязьлюдных абсягах мачыхі-Сібіры. Гэтыя факты яшчэ раз падкрэсьліваюць тое, што беларусы ішлі ў БКА з мэтаю стварэньня Вольнай, Незалежнай Бацькаўшчыны.

*Уладзімер Міхневіч*



На сьвяткаваньні 25-га Сакавіка 1944 году ў Баранавічах

# ДУМКА ГІСТОРЫКА

Прайшоўшы з часу лістападаўскага рэферэндуму год пацвердзіў мае самыя горшыя прадчуванні: на Беларусі сфарміраваўся аўтарытарны рэжым. Прэзідэнцкая ўлада падмяла пад сябе ўсе іншыя ўлады. Назначаны прэзідэнтам парламент і створаная ім вертыкаль паслухмяна выконваюць волю "правадыра". Дэмакратычная і ўсялякая іншая апазіцыя жорстка падаўляецца і сення амаль не падае ніякіх прыкмет жыцця. Усе электронныя і амаль усе друкаваныя сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца пад кантролем прэзідэнта. З яго імем беларускі народ устае на працу і кладзецца спачываць. Дапамагаюць уладарыць прэзідэнту разбухлыя сілавыя структуры — адных толькі міліцыянтаў на 10 мільенаў жыхароў больш за 120 тысяч (для параўнання: у суседняй Польшчы 80 тысяч паліцыянтаў на 40 мільенаў насельніцтва).

Такім чынам, здзейснілася галоўная мара прэзідэнта — займець такія паўнамоцтвы, каб ніхто і ніколі больш не перашкаджаў яму напружана і самааддана працаваць на карысць працавітага і памяркоўнага беларускага народа.

І цуд адбыўся! За кошт арганізацыйных метадаў кіравання (раней яны называліся адміністратыўна-камандныімі)' у бягучым годзе ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года валавы ўнутраны прадукт вырас на 10,5%. Такіх тэмпаў развіцця эканомікі не зведала бадай што ніводная краіна свету за ўвесь пасляваенны перыяд.

Але радавацца чамусьці не хочацца. Мабыць таму, што гэта станоўча не адбілася на ўзроўні жыцця большасці працоўных. І ўсе ж паспрабуем на хвіліну ўявіць, што адзначаны рост вытворчасці сапраўды дасягнуты. Што далей? Лагічна думаць, што выпрацаваныя тавары павінны быць прададзены на ўнутраным і знешнім рынках. Вось тут і паўстае галоўная праблема. Пры жабрацкай зарплаце большасці працоўных набыць многія неабходныя тавары амаль немагчыма. Мізэрныя дабаўкі да пенсіі і заробку імгненна з'ядае ненажэрная інфляцыя, якая сення ў Беларусі — самая высокая сярод краін СНД. Нягледзячы на жаданне афіцыйнай прапаганды даказаць, што жыць стала лепш і весялей, звычайны спажывец схільны верыць не ей, а ўласнай кішэні (якая амаль заўседы пустая).

Застаецца яшчэ надзея на знешні рынак. Але і там прадукцыя большасці прадпрыемстваў не знаходзіць попыту з-за сваей некананкурэнтаздольнасці. Такім чынам, звычайнае затаварванне, крызіс збыту падаецца ўладамі як вялікае эканамічнае дасягненне.

Упэўнены, што ва ўмовах дзяржаўнай, нярынкавай эканомікі, якая пануе на Беларусі, немагчымы працяглы эканамічны рост. Аб гэтым сведчыць і наш нядаўні гістарычны вопыт. У сваю чаргу, функцыянаванне пераважна дзяржаўнай эканомікі немагчыма без аўтарытарнага стылю кіраўніцтва: чалавек, які адлучаны ад сродкаў вытворчасці і магчымасці распараджацца вынікамі сваей працы, не можа працаваць эфектыўна — яго трэба прымушаць выконваць свае элементарныя працоўныя абавязкі.

Так што ў прэзідэнта і яго атачэння існуе неабсяжнае поле барацьбы з парушальнікамі працоўнай, выканаўчай і дзяржаўнай дысцыпліны, а таксама з усімі незадаволенымі рэжымам. Барацьба гэтая ў канчатковым выніку з'яўляецца марнай, бо пры адсутнасці дэмакратыі да станоўчых вынікаў яна не прывядзе. Але за гэта нехта павінен адказаць перад правадыром і "яго" народам. Так пачынаецца пошук ворагаў, якіх абавязкова знаходзяць. Бо пошук ворагаў і іх публічнае клеймаванне — гэта адзін з галоўных спосабаў існавання любой дыктатуры.

*Леанід ЕРМАКОВІЧ,*
*загадчык кафедры гісторыі*
*Беларусі Брэсцкага*
*дзяржаўнага універсітэта*

Мы змагаемся за беларускую БЕЛАРУСЬ!

Віктар ВАБІШЧЭВІЧ



# МОВА ЯК КАМПАНЭНТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСЬВЯДОМАСЬЦІ

«РОДНАЕ СЛОВА»

Нацыянальная самасвядомасць з'яўляецца адной з самых важных характарыстык нацыі і адыгрывае ў яе лёсе істотную ролю. Нацыянальная самасвядомасць — гэта ўстойлівая, асэнсаваная і ўсёабдымная ідэнтыфікацыя асобы са сваёй нацыяй, сістэма ўяўленняў пра яе, стаўленне да яе становішча ў структуры грамадскіх адносінаў параўнальна з іншымі нацыямі, веданне і адэкватнае разуменне традыцый, культуры, мовы, нацыянальных інтарэсаў, гістарычнай місіі нацыі і яе ідэалаў.

Паняцце гэтае вельмі складанае і ўключае ў сябе розныя кампаненты. Галоўным з іх выступае нацыянальная ідэнтыфікацыя, што азначае ўсведамленне індывідам сваёй тоеснасці з прадстаўнікамі пэўнай нацыі, усведамленне прыналежнасці да канкрэтнага народа. Наступным структурным кампанентам з'яўляецца ўяўленне пра тыповыя рысы сваёй супольнасці, пра асноўныя ўласцівасці і дасягненні сваёй нацыі, яе тэрытарыяльную, палітычную, эканамічную, моўна-культурную агульнасць. Асобным кампанентам вылучаюцца замацаваныя ў памяці народа ўяўленні членаў нацыі пра агульнасць іх гістарычнага мінулага, пра еднасць гістарычнага лёсу. Вельмі важны кампанент — усведамленне сваёй роднай мовы не толькі як сродка зносінаў, але і як адной з формаў ментальнасці этнасу. Далей можна назваць усведамленне нацыянальных інтарэсаў і перш за ўсё нацыянальнай ідэі.

Іншы раз у структуры нацыянальнай самасвядомасці асобна вылучаюцца ўяўленні пра родную зямлю, пра менавіта сваю этнічную тэрыторыю. У якасці самастойнага кампанента выступае таксама ўсведамленне дзяржаўнай агульнасці жыхароў пэўнай краіны. Неабходна ў разглядаемай структуры асобна вылучыць сістэму ведаў пра адносіны сваёй нацыі з іншымі нацыямі, усведамленне становішча сваёй нацыі ў шырокім спектры міжнародных стасункаў.

Што ж ляжыць у аснове галоўнага кампанента нацыянальнай самасвядомасці?

Асновай нацыянальнай ідэнтыфікацыі з'яўляецца мова. У нацыянальнай самасвядомасці, у адпаведнасці з яе структурай, як бачым, мове належыць галоўнае месца. Асабліва важна гэта ва ўмовах Беларусі, дзе мова карэннага этнасу знаходзіцца ў занядбаным становішчы і ёй пагражае знікненне з побытавай сферы, дзе мова з'яўляецца галоўным паказчыкам нацыянальнай самасвядомасці людзей. У нас практычна масава не праяўляюцца самастойна іншыя кампаненты нацыянальнай самасвядомасці акрамя нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Як правіла, нашы адраджэнцы, прыхільнікі беларускай мовы правільна ўсведамляюць свае нацыянальныя інтарэсы, ведаюць гістарычнае мінулае нашай Бацькаўшчыны. Усе кампаненты нацыянальнай самасвядомасці, калі яны не абапіраюцца на беларускую мову як каштоўнасць, на жаль, у нас у сваёй пераважнай большасці маюць дэструктыўны для нацыі характар, вядуць да фактычнага знішчэння нацыі і яе дзяржаўнасці. Таму ў дачыненні да Беларусі можа быць пабудавана прыкладна такая схема, дзе кожнае наступнае паняцце вынікае з папярэдняга: мова — нацыянальная самасвядомасць — нацыя. Такая схема не з'яўляецца характэрнай для іншых этнасаў.

Але так ужо склалася на працягу многіх дзесяцігоддзяў, што беларусам даводзіцца зноў і зноў абараняць свае права на родную мову — ці то права карыстання ёю ва ўмовах забароны, ці то дазвол мове на жыццё ва ўмовах скрытай забароны, што выяўляецца ў абыякавасці ўладаў да моўнай праблемы і ў аналагічных паводзінах насельніцтва, ці то ў форме прызнання мовы галоўнай адзнакай нацыянальнай самасвядомасці ва ўмовах занядбанасці і закінутасці мовы. Улічваючы ідэі самастойнасці Беларусі ў масавай свядомасці, можна дакладна сцвярджаць, што мова з'яўляецца адзіным і апошнім апірышчам нашай нацыі.

Не выпадкова пачасціліся нападкі на мову з боку шавіністычных сілаў, якія ўжо дайшлі да ўзроўню дзікунскага адмаўлення самога факта існавання беларускай мовы (на жаль, не ўпершыню для нас). Дарэчы, гэта можна лічыць адной з адзнак каланіялізму. Звернемся да аналагаў у сусветнай гісторыі. Вось толькі адзін вельмі красамоўны прыклад. Так паводзілі сябе англійскія абаронцы брытанскай каланіяльнай палітыкі ў Ірландыі. Яны таксама імкнуліся даказаць адсутнасць ірландскай мовы. Спектр думак іх быў вельмі шырокі: ад асцярожнага сцвярджэння, што ірландская мова ў сапраўднасці не гамагенная, а калекцыя дыялектаў з вялікай разнастайнасцю ў вымаўленні, ідыёмах, канструкцыях, да катэгарычнага сцвярджэння спрэчнасці безумоўнага існавання ірландскай мовы ўвогуле .

Мова — самая важная і істотная адзнака кожнай нацыі. Асабліва вялікае значэнне мове надавалі французскі філосаф Жан Жак Русо і англійскі філосаф Джон Сцюарт Міл. Праўда, у навуковай літаратуры пра значэнне мовы для нацыі выказваліся розныя думкі. Рускі этнограф Сяргей Токараў называў яе самай істотнай прыкметай нацыі, хоць неабавязковай . Функцыі мовы, як этнічнай прыкметы былі разгледжаны А.Агаевым . Іншы раз мове надаецца другарадная роля ў нацыянальнай самасвядомасці. Спасылка пры гэтым робіцца на тыя краіны, дзе суіснуюць некалькі моваў. Прыводзяцца прыклады выкарыстання адной мовы некалькімі нацыямі. Але, як нам здаецца, пры такіх падыходах не ўлічваюцца некаторыя вельмі важныя моманты. Па-першае, прыведзеныя прыклады з'яўляюцца хутчэй выключэннем, а не правілам. Падругое, трэба адрозніваць лёсы еўрапейскіх нацый ад азіяцкіх, афрыканскіх і амерыканскіх з іх каланіяльным мінулым і спецыфікай этнічных працэсаў на адвольна акрэсленых тэрыторыях. Па-трэцяе, важная наяўнасць канфесійнага ўплыву на нацыянальную самасвядомасць, наяўнасць уласнай дзяржавы з моцнымі гістарычнымі традыцыямі і г.д. Павінна быць нейкае моцнае адрозненне ад суседніх нацый.

Большасць еўрапейскіх нацый фармавалася не па адзначаных прыкметах. У аснове іх самаідэнтыфікацыі ляжала мова. Рушыліся імперыі, змяняліся межы дзяржаваў, з'яўляліся новыя рэлігіі — і толькі мова была цвёрдым грунтам для нацыянальнай самасвядомасці. Дарэчы, толькі ў XIX ст. французскія сяляне пачалі сябе ўсведамляць французамі больш, чым членамі мясцовых абшчынаў . Ідэнтыфікацыя французаў была заснаваная на мове, і да XIX ст., як бачна, іншых падставаў нават не было. Тое ж самае характэрна і для беларускага народа. Пры стварэнні БНР і БССР бралася пад увагу толькі этнічная прыналежнасць большасці насельнікаў (а яна вызначалася на аснове мовы) — іншая рэч, што палітычныя меркаванні і прычыны не далі магчымасці паслядоўна рэалізаваць гэты прынцып. Як бачым, нацыянальная самасвядомасць беларускай нацыі таксама абапіралася ў асноўным на мову. Традыцыі уніі ў часы Яўхіма Карскага і Мітрафана Доўнар-Запольскага былі ўжо забытыя. Таму нельга пагадзіцца з сцвярджэннем, што беларуская нацыя фармуецца па тэрытарыяльным узоры. Нават, калі гаварыць пра наш час. Адсюль вынікае, што мове мы павінны надаваць выключна важнае значэнне ў структуры нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

**Уяўленні пра мову сваёй нацыянальнасці — не проста структурны кампанент нацыянальнай самасвядомасці. Мова выступае асноўнаю праяваю нацыянальнага жыцця, невычэрпнай крыніцаю ўплыву на свядомасць чалавека. Такім чынам, мова адначасова і элемент, і фактар фармавання нацыянальнай самасвядомасці, адзін з найбольш эфектыўных сродкаў яе фармавання.**

**Родная мова прарастае ў душы чалавека нябачнымі нітачкамі, тонкімі і глыбокімі гісторыка-культурнымі, інтэлектуальнымі, эмацыйнымі, эрэштыі, магчыма, і біяфізічнымі каранямі. Адчужэнне ад роднай мовы вядзе да ўнутранай пераарыентацыі асобы, балансуе на мяжы яе дээарыентацыі і можа прывесці да сацыяльнай непаўнавартаснасці чалавека. І гэта не выпадкова. У мове ўвасоблены ўсе каштоўнасці этнасу, уся яго самабытная культура, своеасабліва закадаваны ўвесь яго лёс з усімі паваротамі, катаклізмамі і ўзаемасувязямі. Таму сапраўднае адраджэнне нацыі можа адбыцца толькі на аснове засваення роднай мовы і выкарыстання яе ў якасці сродка памнажэння культурных і інтэлектуальных набыткаў. На вялікі жаль, у Беларусі на гэты конт няма сапраўднага разумення. У нас многія дазваляюць сабе сцвярджаць з сур'ёзнай прэтэнзіяй на навуковасць, быццам бы мова — гэта нешта другаснае і неістотнае. Але ніякага культурнага адраджэння ў нашай краіне не можа быць без павышэння ролі беларускай мовы ва ўсіх без выключэння сферах грамадскага жыцця. Ці магчыма ўявіць сабе, напрыклад, адраджэнне рускай нацыі на аснове англійскай мовы, перспектывы якой куды больш вялікія, чым рускай? Пра такое нельга нават падумаць. Як нельга ўявіць адраджэнне Украіны на аснове польскай мовы, так і Беларусь не можа нарадзіцца на фундаменце рускай. Пераважная (і нават выключная) арыентацыя культуры этнасу на ўласную моўную аснову — істотная характарыстыка жыцця этнічных супольнасцяў. Тут можна ўспомніць англійскага вучонага Эрнеста Гелнера, які назваў мову ўмоўным крытэрыем самастойнасці культуры, калі не неабходным, то прынамсі дастатковым .**

**Вялікае значэнне роднай мове надаваў выдатны чэшскі педагог Ян Амос Каменскі, які ў "Прадвесніку ўсеагульнай мудрасці" заклікаў вывучаць мудрасць папярэдніх пакаленняў кожнага народа на яго ж мове. У Я.-А.Каменскага родная мова пры выкладанні служыць не для задавальнення нацыянальных пачуццяў, а як найбольш эфектыўны носьбіт інфармацыі. На аснове роднай мовы найбольш аптымальна можа весціся адраджэнне традыцый і духу нацыянальнай школы. Родная мова з'яўляецца сродкам, з дапамогай якога мы далучаемся да сваіх продкаў і нашчадкаў, якія дазваляе нам арганічна ўвайсці ў бясконцы шэраг пакаленняў, што жылі да нас і прыйдуць пасля. Яна ў нейкай ступені ўвабрала ў сябе не толькі традыцыі, гісторыю і вопыт народа, але і яго пачуцці, псіхалогію, перажыванні.**

Мова мае выключнае значэнне для кожнага этнасу, і без авалодання ёю нават няма сэнсу гаварыць пра фармаванне нацыянальнай самасвядомасці. Усведамленне моўнага адзінства і веданне культурных набыткаў народа іграюць важную ролю ў самім працэсе фармавання нацыянальнай самасвядомасці.

Выконваючы функцыі асноўнага сродку міжасобасных зносінаў, спосабу перадачы нацыянальных традыцый, інфармацыі пра гісторыю і культуру народа, мова выступае сімвалам прыналежнасці яе носьбітаў да пэўнай супольнасці. Гэтага пакуль што нельга сказаць пра насельніцтва Беларусі, але тое становішча, якое склалася ў нас, нельга лічыць нармальным.

Родная мова — гэта не проста сукупнасць нейкіх умоўных знакаў, лексічных адзінак і канструкцый, а вялікі і неацэнны духоўны скарб народа, яго жыватворная сіла, яго душа. Мова, такім чынам, выконвае шмат функцый у жыцці этнасу:

— яна з'яўляецца сродкам камунікацыі;

— сродкам абмену культурнай інфармацыяй;

— сродкам абуджэння нацыянальнай самасвядомасці і нацыянальнай свядомасці ўвогуле;

— выступае сродкам засваення нацыянальнай гісторыі і духоўных каштоўнасцяў;

— з'яўляецца інструментам і сродкам развіцця нацыянальнай культуры;

— выконвае функцыі адной з рухаючых сілаў навукі і способу перадачы і захавання навуковых ведаў;

— гэта з'ява, якая адлюстроўвае спецыфічныя бакі нацыянальнага жыцця і гісторыі, з дапамогаю мовы людзі ажыццяўляюць працэс пазнання нацыянальнага жыцця свайго народа, пазнання сябе як прадстаўнікоў нацыі;

— з'яўляецца спосабам узаемадзеяння этнасу з іншымі этнічнымі супольнасцямі, сродкам пазнання акаляючай рэчаіснасці, актуалізацыі ўсіх набыткаў практыкі чалавецтва;

— мова — моцны інструмент уздзеяння на чалавека, яна з'яўляецца адным са сродкаў фармавання яго асобы, паўнавартаснага выхавання.

Як зазначаў Кандрат Крапіва, без мовы не ўяўляецца ніякая чалавечая дзейнасць. У агульным плане значэнне мовы для грамадства разумеюць усе, але калі перайсці на больш канкрэтны ўзровень, то гэта выглядае не так і проста. У масавай свядомасці, як правіла, разумеецца мова ўвогуле, якая-небудзь мова, без аналізу, на якой мове чалавек павінен размаўляць — на французскай, рускай, беларускай, на "трасянцы", на нейкім дыялекце, ці гаворцы, ці то нават на нейкай сумесі моваў. А калі ўзяць канкрэтна стаўленне нацыі да сваёй мовы, разуменне сэнсу ўжывання менавіта мовы свайго этнасу, то тут ужо адносіны свае ў кожнай этнічнай супольнасці. Яны могуць адрозніваца ў вялікіх і малых сацыяльных супольнасцяў (колькасны паказчык супольнасці тут не мае значэння), могуць быць рознымі ў кожнага чалавека, але з гэтага ўсяго складваецца нейкае своеасаблівае сілавое поле — стаўленне нацыі да сваёй мовы. Яно можа быць вельмі пазітыўным — як у французаў, якія сваю мову аберагаюць і цэняць ва ўсіх сітуацыях і на ўсіх узроўнях ад дзяржаўнага да індывідуальнага. Але яно можа быць і абыякавым, можа нават паступова перарастаць у абыякава-адмоўнае стаўленне да мовы, што мы цяпер і назіраем у беларусаў. У нас ідэя дамінавання беларускай мовы не з'яўляецца пануючай. У пераважнай большасці няма ўсведамлення роднай беларускай мовы як нацыянальнай святыні, як нечага першаступеннага і жыццёва неабходнага. А гэта, зразумела, выступае паказчыкам нацыянальнай няўстойлівасці. Пранікненне ў самасвядомасць іншаэтнічнай мовы азначае моўную асіміляцыю і сведчыць пра змену этнічнай арыентацыі[6].

Не дзіўна таму, што на пытанне "Ці можна лічыць Вас па нацыянальнасці рускім?" у нас сярод рускамоўных рэспандэнтаў беларускай нацыянальнасці высокі працэнт складаюць станоўчыя адказы. І ў той жа час нам не ўдалося знайсці такіх адказаў сярод беларускамоўных апытаных. З гэтага відаць, што беларуская мова ў прадстаўнікоў нашага народа з'яўляецца неусвядомленай найпершай падставай для ідэнтыфікацыі, галоўным паказчыкам высокай нацыянальнай самасвядомасці, паказчыкам яе ўстойлівасці, так бы мовіць, непахіснасці.

Мова — прадмет гонару кожнага народа. Яе страта азначае, што мова страціла свайго носьбіта, і калі гэтая з'ява набывае масавы характар, то можна з поўнай падставай гаварыць пра моўны крызіс. Змена мовы часта вядзе да змены этнічнай прыналежнасці і саманазвы этнасу, да нараджэння іншай самасвядомасці, калі гэтаму спрыяюць дадатковыя фактары (адсутнасць сваёй дзяржавы, пражыванне на тэрыторыі іншага этнасу).

У наш час сфера ўжытку беларускай мовы нездавальняюча вузкая, а гэта, дарэчы, перашкаджае развіццю самой мовы. Існуюць сцвярджэнні, што яна можа паспяхова абслугоўваць толькі побытавую сферу і сферу літаратуры, мастацтва і мастацкай культуры ў цэлым. Але гэта зусім не так. Беларуская мова можа з вялікім поспехам выкарыстоўвацца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Не з'яўляецца выключэннем тут і навука. Вучоныя, якія займаюцца даследаваннем іерархічных шматузроўневых сістэм, сцвярджаюць, што наша мова і светапогляд дастатковыя для засваення дакладных ведаў. Яна, па іх словах, мае неабмежаваныя магчымасці ўладкавання існуючых і стварэння новых ведаў і здольна стварыць беларускамоўную дакладную навуку, якая ўсвядоміць лад Беларусі і адказнасць за яе будучыню[7].

Як бачна, роля беларускай мовы ў нашым лёсе, лёсе Бацькаўшчыны выключная. Павышэнне прэстыжу роднай мовы, яе пастаяннае ўдасканаленне павінна стаць надзённай задачай кожнага свядомага беларуса. Толькі пры такім падыходзе наша мова здолее выканаць ускладзеную на яе місію выратавальнай сілы нацыі. Такім чынам, мова ў адносінах да беларускай нацыі з'яўляецца самым важным кампанентам нацыянальнай самасвядомасці.

*Дарагія Землякі!* Падтрымоўвайце выдавецкі фонд нашае газэты!..

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Спадар Мікола Пруські!

Сардэчна дзякую за памяць, прывітаньні і пажаданьні з нагоды назначэньня мяне галоўным рэдактарам "Нівы", зьмешчаныя ў студзеньскім нумары «Беларускага Дайджэсту». Думаю, што і ў далейшым будзеце знаходзіць у нашым штотыднёвіку цікавыя матэрыялы, прыгодныя для перадруку ў Вашым прэстыжным штомесячніку.

Віншую Вас з набліжаючымся выхадам 50-га нумара "Беларускага Дайджэсту. З гэтай нагоды жадаю Вам усяго найлепшага ў працы на карысьць беларускай справы на Бацькаўшчыне і ў замежжы.

*Віталь Луба,*
галоўны рэдактар «Нівы».

*Спадар Віталь! Дзякую за памяць і добрыя пажаданьні. Спадзяюся, што наша сяброўскае супрацоўніцтва будзе працягвацца і далей. Перадавайце шчырыя прывітаньні ўсім знаёмым на Беласточчыне.*

Паважаны Рэдактар!

"Дайджэст" атрымаў, шчыра дзя-кую. Прыкра пачуць, што лютаўскі нумар ня выйдзе. Думаю, што прычына, — недахоп фінансаў . Нашая Дыяспара старэецца, а пэнсыянерам ня так лёгка ахвяраваць вялікія сумы на прэсу. Аднак памінаючы ўсё, па меры магчымасьці, мы не павінны дапусьціць, каб беларускі голас у вольным сьвеце замоўк. Гэта было-б музыкай для вуха Лукашэнкавай клікі.

Гэтая кліка далей рознымі дзяржаўнымі дэкрэтамі ўсё больш агранічвае правы свабоды чалавека. Закрываюць незалежную прэсу, забараняюць дэманстрацыі і паходы з нашымі нацыянальна-гістарычнымі сымбалямі. Удзельнікаў дэманстрацыяў зьбіваюць дубінкамі, садзяць у турмы і штрафуюць вялікімі сумамі. Наш грамадзкі абавязак аб усім гэтым паведамляць вольны сьвет і не забываць наш шматпакутны народ. Залучаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты.

З пашанай, С. Б.

***Дзякуем за ахвяру і ліст. Нявыхад лютаўскага нумару газэты тлумачыцца дзьвюма прычынамі: былі непаладкі з кампютэрам, якія, здаецца, наладзілі; ну і фінансавая справа прыкульгала. Трэба было нейкім чынам пакрыць мінулагодні дэфіцыт. У міжчасе знайшоўся ахвярны чалавек, які пакрыў усе выдаткі гэтага пашыранага нумару нашай газэты. Ён просіць прозьвішча яго не афішаваць. Калі-б усе нашыя чытачы пастараліся крыху большымі сумамі дапагчы нашай газэце, дык не было-б дэфіцыту і газэта выходзіла-б рэгулярна. А ёсьць група чытачоў, якія ніколі не прыслалі ніякай ахвяры на газэту.***

***Каб зьменшыць выдаткі на пошту, гэтым чытачам газэту высылаць ня будзем. Дзякую!***

Вельмі Паважаны сябра Мікола!

Перасылаю маю ахвяру на газэту "Беларускі Дайджэст", і шчыра жадаю Табе добрага посьпеху ў выдавецкай працы

П. К.

*За ахвяру дзякуем і таксама жадаем усяго найлепшага, асабліва добрага здароўя.*

Шаноўны Спадар Рэдактар!

Перасылаючы сваю ахвяру на выдавецтва "Беларускага Дайджэста" на 1998 год, не магу ўстрымацца, каб не дапісаць некалькі слоў на тэму артыкулаў друкаваных у Вашай газэце. Вам пішуць, Вас хваляць,— а вось мой характар падобны да Ўладыкі Мікалая, які ня любіць хваліць сваіх супрацоўнікаў гаворачы: "Пахваліш, то сапсуецца". Дык вось выбачайце, што ў сваіх прынагодных «некалькіх словах» зраблю засьцярогу... Мне вельмі прыемна чытаць у Вашай газэце прыхільныя весткі аб Радзе БНР (хоць некалі Вы адмовіліся друкаваць для мяне "Камунікаты Рады БНР").

Я расчараваны быў 10 нумарам, за кастрычнік 1997 г. "Беларускага Дайджэста", дзе Вы зьмясьцілі вялікі партрэт нова-выбранае старшыні Рады БНР і больш нічога. Вы асабіста прысутнічалі на гэтай Сэсіі Рады БНР і спадзявалася, што напішаце шырэйшую, аб'ектыўную інфармацыю пра гэтую Сэсію. Бязумоўна шырокая справаздача з Сэсіі была зьмешчана ў газэце "Беларус", калісь вельмі паважанай беларускай газэты ў дыяспары... пра якую Вы калісьці пісалі ў сваім часапісе ў Дэтройце, што гэтая газэта каштуе др. Сажычу за адзін нумар 100 даляраў, (што было праўдай). Нажаль "Беларус" ня ёсьць такой цікавай і паважанай, як была калісь гэтая газэта, а галоўнае — ня ёсьць аб'ектыўнай.

Вяртаючыся да артыкулу пра Сэсію Рады БНР трэба зазначыць, што "ласкава" ўспомнілі маё прозьвішча, што здаў справаздачу (за 15 гадоў старшынства), але не хапіла слоў успамянуць, што справаздача гэтая была прынятая "by standing ovation". Далей пішацца— "была прынятая прысяга новых сяброў Рады БНР", але ня пішуць, хто чытаў і прымаў прысягу новых сяброў... Далей: "была ўручана пляката ўдзячнасьці для б. амэрыканскага амбасадара Спадара Шворца", але хто ўручаў гэтую памятку "няважна", а Спадар Амбасадар вельмі сардэчна дзякаваў мне, успамянуўшы, што быў на сьвяткаваньні Ўгодкаў 25-га Сакавіка ў Менску, дзе я прыгожа прамаўляў.

Мой асабісты сябра і сябра Рады БНР выслаў шчодрую ахвяру на выдавецтва газэты і просьбу прывітаць мяне з 80-мі Ўгодкамі, аднак... просьба гэтая дзесьці "завалялася".

У першым нумары (49) "Беларуска-га Дайджэсту" зьмешчаны артыкул у ангельскай мове "President in waiting", — артыкул цікавы і інфармацыйны пра БНР, але... там новы Старшыня называецца шостым прэзыдэнтам у экзылі, як-бы сапраўды шостага прэзыдэнта (15 гадоў) ня было, тады, калі з Бацькаўшчыны я атрымліваю прыемныя прывітаньні з нагоды 80-х Угодкаў БНР на прыгожа аформленай картцы з фатаграфіямі ўсіх Прэзыдэнтаў БНР уключна са мною (шостым) і нававыбранай сёмым Прэзыдэнтам.

Шмат можна пісаць пра іншыя справы, але на гэтым кончу.

З пашанай, др. Язэп Сажыч.

*Вельмі Паважаны Др. Сажыч! Вам добра ведама, што беларускія выданьні ў заходнім сьвеце трымаюцца на вельмі тонкай павуціне, — недахоп журналістаў, недахоп дасьведчаных рэдакцыйных работнікаў, фінансавых рэсурсаў ды інш. Таму і ня дзіўна, калі здараюцца часта розныя няўвязкі, памылкі, недагляды і іншыя недарэчнасьці. Беларускія выданьні (ды і ня толькі беларускія) не карыстаюцца вялікаю матэрыяльнаю і маральнаю падтрымкаю, а таму і атрымоўваюцца часта недакладнасьці. Але пры агульным высілку, павазе ды зразуменьні можна шмат што выправіць і адшліфаваць.*

*Дзякуем за ліст і гойную ахвяру на газэту. Жадаем усяго найлепшага.*

Высокапаважаны Спадар Прускі!

У залучэньні перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты. Прабачце за апазненьне. Век і здароўе робяць сваё. Але, як у нас казалі: — "Лепей позна, чым ніколі". Вашая газэта ёсьць адзіным лучнікам для нас тут на эміграцыі. Прашу прыняць шчырыя пажаданьні добрага здароўя і далейшага посьпеху на грамадзкай ніве.

З пашанай да Вас, М. К.

*Ахвяру на выдавецкі фонд газэты атрымалі. Шчыра дзякуем. Жадаем добрага здароўя і ўсяго найлепшага.*

Шаноўны Спадар Рэдактар!

Пішу да Вас некалькі слоў, бо хочацца абмяняцца сваімі думкамі... а гэтыя думкі наплываюць у галаву, калі чытаеш беларускія газэты ды часапісы. У нас неяк ня так, як у іншых краінах Эўропы, дзе розныя народы жывуць палюдзку ды маюць свой гонар, сваю спадчыну, гісторыю і свае гістарычныя эмблемы. У беларусаў чужы, варожы ўрад, сталінска-бальшавіцкія эмблемы, а на пачтовых канвэртах штамплююць серп і

молат. Расейская акупацыйная мова сілаю ўбіваецца ў галовы ўсіх, хто жыве ў Беларусі. Масква гамуе ўсе праявы беларускасьці. Рукамі Лукашэнкі закрывае незалежныя беларускія газэты, беларускіх патрыётаў садзіць у турмы і выціскае са школаў беларускую мову, мову карэннага насельніцтва краіны...

З пашанай, К. В.

*Ліст самазразумелы і зусім праўдзівы. Дзякуем за ахвяру на газэту.*

Варшава, студзень 1998 г.

"Беларускі Дайджэст" я чытаю з вялікім зацікаўленьнем. Гэта, на маю думку, адна з найбольш сур'ёзных беларускіх газэт у замежжы.

Прачытаўшы ўступны артыкул студзеньскага нумару Вашай газэты, я напісаў дыскусыйны артыкул, які прашу надрукаваць.

З беларускім прывітаньнем,

Жыве Беларусь!

Хведар Галёнка.

## ЗА БЕЛАРУСЬ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА РАЗУМНА!

**Праф. Адам Мальдзіс, выступаючы на Міжнароднай Канфэрэнцыі Прэзыдэнтаў суседніх краін, якая адбылася ў канцы 1997 г. у Вільні, між іншым сказаў: "беларускія землі на працягу шматлікіх стагодзьдзяў цалкам або часткова ўваходзілі ў склад іншых краін, такіх як... Рэчпаспалітая Польшча, Расейская імпэрыя ці Савецкі Саюз. Адбывалася гэта на аснове добраахвотнасьці, а часьцей пад зьняволеньнем".**

**Трэба прыпомніць, што праз беларускую зямлю прайшлі многа разоў хвалі самых вялікіх ваенных дзеяньняў. Набегі манголаў, крыжаносцаў, палякаў, швэдаў, французаў, кайзэраўскіх і гітлераўскіх немцаў, расейцаў і саветаў. Акупанты заўсёды паступалі з намі як хацелі. Палілі, грабілі, забівалі, насілавалі, бралі ў рабства. Дзялілі між сабою нашы землі, як для прыкладу ў час так званых падзелаў Польшчы або ў пагадненьні падпісаным між Польшчаю і СССР у 1920 годзе ў Рызе...**

**Праф. Мальдзіс пераходзячы да акрасьленьня хто такі Беларус кажа: "Называлі беларусаў парознаму, — русіны, ліцьвіны, белаляхі, крэсавікі, палешукі, тутэйшыя, жыхары паўночна-заходніх губэрняў, або ўсходніх ваяводзтваў". Амаль ніколі не хацелі акупанты называць Беларусаў, — Беларусамі.**

**Праф. Мальдзіс зьвяртаючы ўвагу на факт, што дагэтуль ні адзін з былых акупантаў не зьвярнуў Беларусі награбленых культурных дзеяў гістарычных цэннасьцяў, гаворыць: "робіцца мне нядобра, калі ў сучаснай Польшчы бачу кніжкі аб Нясьвіжы, Горадні, Слоніме, у якіх гэтыя гарады называюцца іконна польскімі. Зусім трацім аптымізм, калі чытаем або чуем, што кожны каталік у Беларусі, — гэта паляк, а кожны праваслаўны, гэта расеец. Міжвольна пачынаем адчуваць, што Беларусам, Бог ня даў свайго месца на зямлі!"**

**Пасьля атрыманьня незалежнасьці ад распаду СССР, самыя бліжэйшыя суседзі, якімі бясспрэчна зьяўляюцца палякі, не прыйшлі з гаспадарчаю дапамогаю Беларусі. Наадварот, былі створаныя такія ўмовы, каб гандаль між Польшчай і Беларусьсю быў максымальна абмежаваны. Адначасова было паклікана ў Польшчы многа рэвізіяністычных арганізацыяў, якія праз урадавую г. зв. "Вспульноту Польску" атрымалі вялізарныя грошы для вядзеньня на тэрыторыі, ледзь жывучай Беларусі, усялякіх формаў падрыўной дзейнасьці. У Беларусь было накіравана многа соцень спэцыяльна падрыхтаваных эмісараў. Сотні польскіх каталіцкіх ксяндзоў і манашак высланых з Польшчы, прыступіла да арганізаваньня ў Беларусі, не беларускага, а толькі польскага, каталіцкага касьцёлу. Так, быццам-бы Бог не ведаў беларускай мовы... Гэтыя дзеяньні выразна паказалі, што пэўным, акрэсьленым групам у Польшчы залежыць каб успыхнула барацьба ў Беларусі паміж праваслаўнымі і каталікамі, і каб паўстаў прэтэкст дзеля прыбыцьця ў Беларусь польскага войска дзеля дапамогі "бедным польскім каталікам". Далей усё вельмі прааста, не застаецца нічога іншага як падзел на каталіцка-польскую і праваслаўна-расейскую частку Беларусі. Сама, яшчэ вельмі слабая Беларусь, не магла супроцьставіцца так падрыхтаванай, масавай агрэсыі, тым больш, што на тэрыторыі Польшчы ў Беласточчыне, дзе большасьць насельніцтва гэта карэнныя беларусы, польскі ўрад разгарнуў адначасова дыскрымінацыю не спатыканых дагэтуль разьмераў...**

**На фоне гэтых абставін, вялікі інтарэс прадстаўляе сабою артыкул пад загалоўкам "*Досыць нам, беларусам, жыць пад чужую дыктоўку*" надрукаваны ў № 1(49) "Беларускага дайджэста", ад студзеня 1998 г.**

**Сам гэты тытул ужо становіць заклік, які павінен гучэць заўсёды ў вушах усіх беларускіх патрыётаў, якім дарагія беларускі народ, беларускі край, беларуская культура, беларуская мова, навука, гаспадарка і добрае слова аб Беларусі ва ўсіх прыхільных Беларусі краінах сьвету.**

**Аўтар гэтага артыкулу піша, "што галоўнымі тэмамі і клопатам нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі, усяго беларускага патрыятычнага руху (гэта значыць і "Нівы" і таксама "Дайджэсту") павінны стаць праблемы нацыянальнага яднаньня беларусаў і перш за ўсё працоўных калектываў найбольш арганізаванай і актыўнай, мудрай і стваральнай сілы нашага грамадзтва, нашага народу". На маю думку, гэта залатыя словы, якія нягледзячы на асабістыя перакананьні і на палітычную акраску кожнага беларуса, павінны з магчыма найбольшай сілай штодзённа ўводзіцца ў жыцьцё беларускага грамадзтва. Інакш раздзяўбуць нас грачы ды вароны. Паводле аўтара артыкулу "працэс русыфікацыі (а я ад сябе дадам і паланізацыі) нашага народу, прыняў памеры, недапушчальныя нават пры Мазураве і Машэраве". Аўтар праклінае арганізаваную асыміляцыю і піша: "асыміляцыю народаў — Бог павінен пакараць". Вельмі справядліва піша П. Касьцюковіч, "што наша барацьба за нацыянальнае і дзяржаўнае адраджэньне, супроць русыфікацыі і апалячваньня, справа Божая, справядлівая і высакародная". На маю думку да рэалізацыі гэтай мэты, ня можа быць барацьба з адзінкамі... Для выкананьня гэтай высакароднай цэлі неабходна, каб усе сябры беларускіх меншасьцяў раскіданых па ўсім сьвеце, зрабілі ўсё магчымае, каб у Беларусь шарокаю ракою хлынуў замежны капітал, які эфэктыўна паўплывае на разьвіцьцё зьнішчанай акупантамі беларускай гаспадаркі. Разьвіцьцё будзе стымулам для ўзросту ўзроўня жыцьця беларусаў, а што за гэтым ідзе, узросту нацыянальнай сьведамасьці беларускага народу. Абрабаваны, бедны народ, якім ён ёсьць на сёньняшні дзень, ня мае і ня можа мець такіх перакананьняў, якія-б пазволілі спраўляцца з багацейшымі ворагамі. Таму і толькі таму, акупанты заўсёды даводзілі акупаваныя нацыі да крайняй беднасьці. Таксама рабілі ўсе акупанты, якія дагэтуль, праз многа вякоў, акупавалі сьвятую нашую беларускую зямлю.**

Хведар Галёнка.

***Паважаны Спадар Хведар! Нас цешыць, што Вы чытаеце нашу газэту, і як нам вядома, яе чытаюць сотні іншых беларусаў у Польшчы.***

Dear Mr. Prusky:

Many of us had lived in the United States for a long time hence, it is difficult to read and write in the Belarusian language. Therefore, I thank you very much for publishing the article, "President in Waiting" in English. I enjoyed it a great deal since Joanna Survilla is a great lady. I have had the opportunity to meet her personally and she is in my opinion an excellent President of RADA.

Sincerely, L.L.C.

*Thank you for your donation and short letter. There are possibilities to print English page in our newspaper, but we need people to write us in English.*

*There are hundreds of Belarusian professionals with a higher education, but they are somehow impotent when it comes to write about Belarus or Belarusians.*



# "НАРОДНЫ АЛЬБОМ" ПАЙШОЎ У НАРОД

«Культура»

Narodny Albom



**28 снежня мінулага ўжо года гуманітарны фонд "Наша ніва" ў памяшканні Тэатра юнага гледача прадставіў новы праект "Народны альбом", які мае ўсе шанцы зрабіцца музычным праектам года ў галіне папулярнай музыкі.**

Калі сягнуць у гісторыю стварэння "Народнага альбома", дык можна смела сцвярджаць, што адпраўным момантам зрабілася знаёмства мастака Міхала Анемпадыстава з Касяй Камоцкай, што вылілася ў некалькі сапраўды значных ды цікавых песень. Яны істотна папоўнілі рэпертуар "Новага неба", і далейшае супрацоўніцтва Міхала з Касяй паступова прывяло першага да задумы стварыць арыгінальны праект, роўнага якому ў гісторыі папулярнай музыкі ў Беларусі яшчэ не было. Як нейкую вядомую аналогію можна прывесці расійскі праект "Митьковских песен", аднак зыходны матэрыял у беларускіх музыкантаў быў іншы.

Такім чынам, у аснову вялікай нізкі песень былі пакладзены сапраўдныя фальклорныя творы, або іх імітацыя, або наогул — арыгінальныя, сучасныя песні. У цэлым праграма нібыта ствярае малюнак музычнага жыцця даваеннага заходнебеларускага мястэчка, у якім поруч гучалі беларускія, польскія, яўрэйскія і нават нямецкія песні. Але распрацоўваючы агульную канцэпцыю, Міхал Анемпадыстаў удумаў надзвычай тонкі ход: у многіх песнях сувязь з сучаснасцю падкрэсліваецца як праз пэўныя слоўныя звароты, так і праз чыста музычныя прыёмы.

Вось чаму адрозніць уласна фальклорны матэрыял ад аўтарскага часам проста немагчыма. А гэта, згодна з прынцыпамі аўтэнтызму, дазваляе сцвярджаць: задума атрымала належнае ўвасабленне, нягледзячы нават на дэклараваны прыём адкрытага "сцёбу", які тут цалкам апраўданы. У гэтым сэнсе вельмі паказальная песня "Настаўнік Рагойша", выршаная праз прыём выканання ў стылі рэп. А пакольки ў тэксце маецца спасылка на падзеі, што будуць адбывацца ў 1975 годзе, зусім лагічна выглядае кароткая цытата з песні "Smoke On The Water" групы "Deep Purple".

Увогуле музычны матэрыял альбома, выдадзенага фірмай "Ковчег", настолькі разнастайны, што, па сутнасці, аніякіх паўтараў на касеце няма. І ў той жа час практычна пра кожную песню можна казаць асобна і шмат. Думаецца, што такія ў першую чаргу творы, як "Матка Боска Вастрабрамска", "Снежань, студзень, люты", "Простыя словы", "Маладое піва", зажывуць у народзе асобным жыццём.

І яшчэ адна знамянальная рыса, звязаная з "Народным альбомам". У распрацоўцы і непасрэднай рэалізацыі канцэпцыі ўдзельнічалі Кася Камоцкая, Лявон Вольскі і гукарэжысёр Анатоль Додзь. Дапамагалі ім многія беларускія музыканты, а таксама супрацоўнікі каманды "Радыё 101,2". Прычым песні запісваліся на студыі менавіта гэтай радыёстанцыі. Такім чынам, сярод усіх беларускіх FM-станцый першай з арыгінальным музычным праектам выступіла радыё, якое (парадокс!) маўчыць амаль паўтара гады. А непрафесійнае, затое шчырае выкананне асобных песень спрацавала на агульную канцэпцыю праекта толькі станоўча.

Пра тое, што "Народнаму альбому" авансам наканаваны вялікі поспех сярод слухачоў, сведчыў той факт, што на ягонай сцэнічнай прэзентацыі ў ТЮГу на ўсіх ахвочых завезеных касет не хапіла. Магу гарантаваць адно: у будучыні гэтая унікальная праца артыстаў беларускай альтэрнатыўнай сцэны будзе згадвацца яшчэ неадночы. Ды хоць бы на цырымоніі "Рок-каранацыі", якая мае адбыцца ў Мінску 28 студзеня. Дарэчы, роўна праз месяц пасля прэм'еры "Народнага альбома"...

**Антон ОРША**

**У верасьні 1991-га году**
**<u>бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня</u>**
**ізноў сталі дзяржаўнымі знакамі**
**незалежнай Беларусі.**
**Шануйма-ж іх!**

***Беларуская Прэса — узмацняе грамадзкае, культурнае і палітычнае жыцьцё беларускага народу!!!***